Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№41 (4585) 15 кастрычніка 2010 г.

## У нумары:





# Бабіна лета разам з Нінай Мацяш

У Белаазёрску прайшлі літаратурныя чытанні памяці паэтэсы Ніны Мацяш "Бабіна лета ў Белаазёрску разам з Нінай Мацяш".

Ніна Мацяш — сапраўдная славутасць гэтых мясцін. Тут яе ўсе любяць, помняць, паважаюць. Нават малыя дзеці знаёмыя з яе творчасцю. На радзіме Ніны Іосіфаўны не знойдзецца ніводнага чалавека, які б мог сказаць пра яе нешта дрэннае. Лёс распарадзіўся так, што таленавітая паэтэса і перакладчыца большую частку жыцця была прыкаваная да інваліднага крэсла. Але яна да апошняй хвіліны жыцця заставалася Паэтэсай…



Нарадзілася Ніна Іосіфаўна ў вёсцы Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці 20 верасня 1943 года. У 1960-м скончыла Бярозаўскую сярэднюю школу і паступіла на факультэт французскай мовы Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. З-за хваробы вымушана была ўзяць акадэмічны адпачынак, скончыла інстытут у 1966-м. Працавала выкладчыцай нямецкай мовы ў Белаазёрскім вучылішчы.

Першы верш апублікаваны ў 1962-м у бярозаўскай раённай газеце "Маяк камунізму". Аматарам паэзіі добра вядомы яе зборнікі "Агонь", "Удзячнасць", "Ралля суровая", "Прыручэнне вясны", "Поўны келіх", "Жнівень", "Паварот на лета", "Шчаслівай долю назаві", а таксама казкі, п'есы для тэатра лялек, тэлесцэнарыі. Уганаравана літаратурнай прэміяй Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта імя Уладзіміра Калесніка за зборнік паэзіі "У прыгаршчах ветру", які выйшаў ужо пасля смерці паэткі. Ніна Мацяш перакладала з нямецкай, польскай і французскай моваў. У яе перакладзе выйшлі кніжкі Ж. Аліўе "У краіне індзейцаў", А. Гаўрылюка "Песня з Бярозы", Ж. Сімянона "Першая справа Мегрэ", А. дэ Сент-Экзюперы "Планета людзей" і "Маленькі прынц".

Паэтычныя чытанні памяці Ніны Мацяш — вельмі важная падзея для жыхароў Белаазёрска, Брэстчыны і наогул усёй Беларусі.

— Ініцыятарам склікання чытанняў назваць аднаго чалавека немагчыма, — расказвае сяброўка паэтэсы, настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай гімназіі Галіна Скарына. — Яшчэ летась, на першай пасмяротнай вечарыне да дня нараджэння Ніны Мацяш, мы аднагалосна выказаліся за іх стварэнне. Да прапановы далучыўся аддзел культуры Бярозаўскага райвыканкама, раённая бібліятэка, якая ўжо носіць імя Ніны Мацяш, Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага. Я вельмі спадзяюся, што першыя літаратурныя чытанні "Бабіна лета ў Белаазёрску разам з Нінай Мацяш" стануць традыцыйным штогадовым святам, якое ў далейшым набудзе рэспубліканскі ўзровень.

Мерапрыемствы па ўвекавечанні памяці паэтэсы пачаліся яшчэ зранку. Заехалі на кватэру, дзе жыла Ніна Іосіфаўна. Дзякуючы работнікам будупраўлення Бярозаўскай цеплаэлектрастанцыі, яшчэ на стадыі будаўніцтва дома трохпакаёўку на 1-м паверсе перапланавалі пад двухпакаёўку і зрабілі асобны выхад — каб Ніна Іосіфаўна самастойна, без пабочнай дапамогі, магла выязджаць на прагулку.

"Тут усё, як і было раней, — расказвае хросны сын і пляменнік Ніны Мацяш Руслан. — На рабочым стале ляжаць яе акуляры, ручка, якой яна пісала, падстаўка для рук, каб зручней было ціснуць на клавішы, стаіць той самы камп'ютар… Менавіта за гэтым сталом нараджаліся яе вершы. Мы заўсёды былі з хроснай разам, — яна мне як маці. Гэта яна назвала мяне Русланам, навучыла чытаць, гуляць у шахматы. З ёй мы маглі размаўляць на любыя тэмы. Нават з роднай маці не быў такім шчырым".

"Яна была настолькі мужная жанчына, што хто б да яе не прыйшоў, ніколі і нікому не паскардзілася на свой лёс. Наадварот, да яе прыходзілі, каб атрымаць падтрымку", — расказвае жонка Руслана Наталля Мацяш.

— Руслан, ці не былі б вы супраць, каб кватэра ператварылася ў музей Ніны Мацяш? — спытаў я.

— Такая размова вядзецца ўжо даўно. Я вельмі б хацеў, каб гэты музей існаваў. Вы ж самі бачыце, што мы з жонкай захавалі ўсё як і было. Гэтая кватэра — ужо практычна музей.

У актавай зале мясцовага Дома культуры, дзе праводзіліся чытанні, сабралася шмат людзей: родныя, сябры, землякі, літаратары… На далейшае паэтычныя вечарыны плануецца праводзіць бліжэй да 20 верасня, да дня нараджэння паэтэсы, у самы разгар бабінага лета.

Зала сапраўды была напоўнена цяплом, дабрынёй, светлымі згадкамі пра Ніну Іосіфаўну. Каля сцэны, на паліцах, стаялі яе зборнікі вершаў, фотаздымкі, мастацка-паэтычныя карціны з рознакаляровых птушыных пер'яў, якія так любіла рабіць яна.

Паэт Алесь Разанаў адзначыў: "У Ніны Мацяш – светлыя вершы, у Ніны Мацяш — светлае аблічча і светлы лёс. Часта мы з ёй сустракаліся, размаўлялі па тэлефоне, пісалі адзін аднаму лісты. Наш дыялог ніколі не спыняўся. Ніны не стала, а гэты дыялог усё доўжыцца. Яна аддавала сябе самаахвярна і шчодра людзям, творчасці, слову. І сёння, на гэтай вечарыне, я адчуваю прысутнасць Ніны, мне чуецца яе голас, я бачу яе ў кожным паэтычным радку, у кожным слове".

Старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч падкрэсліў: "Дзякуй Ніне, што яна ізноў сабрала ўсіх нас тут. Праз шмат гадоў мы змаглі пабачыцца ўсе разам. Калі зайшоў у пакой, дзе яна працавала, адразу ж узгадаўся яе апошні ліст. Мы з ёй часта перапісваліся па электроннай пошце. З 18 на 19-е снежня я адказаў на ліст, а на наступны дзень даведаўся, што яна яго не прачытала. Ніна Мацяш пакінула нам запавет: каб мы ўсе былі разам".

Дырэктар Белаазёрскай раённай бібліятэкі імя Ніны Мацяш Тамара Кузняцова ўзгадала: "Паэтэса заўсёды была добрая, зычлівая, шчырая, гасцінная. Яна вельмі любіла сваіх сяброў, ведала, як іх падтрымаць, што сказаць, чым пачаставаць. Ніхто і ніколі не выходзіў з Нінінай кватэры з сумным настроем. "Хай вам светла будзе ўсім, каго люблю", — часта паўтарала Ніна".

На вечарыне выступіла шмат вядомых паэтаў, гучалі прыгожыя вершы, паказваліся фотаздымкі і відэазапісы з Нінай Мацяш. А заключную песню "Лісце між калюкоў…" спявалі, стоячы, усёй залай — здавалася, разам з Нінай Іосіфаўнай, якая пазірала на нас з фотаздымка.

Дарэчы, у межах паэтычных чытанняў стартаваў праект "Створым кнігу пра Ніну Мацяш разам". Дасылайце, паважаныя чытачы, сваё Слова.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: Ніна Мацяш (фота 2007 года).

## Пункцірам

• Міністэрствам культуры Беларусі прыняты загад "Аб правядзенні конкурсу на стварэнне эскізнага праекта помніка Янку Купалу і Якубу Коласу ў Варшаве". Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца Міністэрства культуры, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі саюз мастакоў. Мэта конкурсу — пошук найлепшага варыянта праекта помніка, які плануецца ўсталяваць у парку "Марскoе вока" ў Варшаве. Да ўдзелу ў ім запрашаюцца скульптары, якія маюць адпаведную прафесійную адукацыю.

• Учора ў галерэі "Ракурс" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё II Мінскага міжнароднага фестывалю лічбавага мастацтва "Terra Nova". Галоўная яго мэта — стымуляванне прымянення новых тэхналогій у выяўленчым мастацтве. У другі раз дэманструюцца творы, выкананыя выключна ў лічбавым фармаце.

• Вернікі каталіцкай канфесіі адзначылі 300-годдзе з дня асвячэння архікатэдральнага касцёла ў Мінску, галоўнага каталіцкага храма Беларусі. На працягу тыдня ў касцёле праходзілі святочныя набажэнствы. У юбілейных мерапрыемствах узялі ўдзел шматлікія госці з-за мяжы, у тым ліку прадстаўнік Папы Рымскага Бенедыкта XVI кардынал Юзаф Томка — былы прэфект ватыканскай Кангрэгацыі Евангелізацыі народаў.

• Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь падрыхтаваў выстаўку "Дарога да храма". Экспазіцыю склалі работы майстрых грамадска-культурнага аб'яднання "Вышывальшчыца" больш як за сто твораў на хрысціянскую тэматыку, выкананыя ў розных тэхніках вышывання. Выстаўка адкрылася напярэдадні вялікага хрысціянскага свята — Пакроваў Прасвятой Багародзіцы.

• Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" ўзяў удзел у Сусветнай выстаўцы "ЭКСПА-2010" у кітайскім горадзе Шанхаі. Выступленні адбыліся 11 кастрычніка ў Дзень Беларусі. Два з іх прайшлі на плошчы Еўропы і адно — у праграме вялікага гала-канцэрта, які сабраў больш як тысячу гледачоў.

• Вядомы парыжскі мастак, наш суайчыннік Барыс Забораў выдаў аўтабіяграфічную кнігу "Ланцуг выпадковасцей, ці то Лёс". Аздобленая рэпрадукцыямі лепшых карцін майстра, яна яшчэ да выхаду свайго зацікавіла шырокія колы еўрапейскіх чытачоў. У Беларусі кніга будзе прадстаўлена ў межах выстаўкі жывапісца, адкрыццё якой адбудзецца ў Нацыянальным мастацкім музеі.

• Лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры стаў перуанскі пісьменнік Марыя Варгас Льоса, які нарадзіўся ў 1936 годзе. Аўтарская манера Варгаса Льосы мае рысы мадэрнізму, постмадэрнізму, класічнага лацінаамерыканскага магічнага рэалізму. Пісьменнік вядомы сваім раннім раманам "Горад і сабакі", апошнія творы — "Рай за іншым вуглом", "Прыгоды кепскай дзяўчынкі", "Сон кельта".

• Рэспубліканскі цэнтр беларускай драматургіі сумесна з Інстытутам Гётэ ў Мінску правялі Беларуска-нямецкія тэатральныя сустрэчы. У дыскусіях бралі ўдзел нямецкія і беларускія рэжысёры, акцёры, драматургі, крытыкі: Л. Фогель, А. Стрэльнікаў, З. Белахвосцік, А. Курэйчык ды іншыя. Адбыліся відэапаказы нямецкіх спектакляў, сцэнічная чыткі сучасных нямецкіх п'ес. Былі прадстаўлены п'еса Д.Лоэр "Жыццё на плошчы Рузвельта" ў інтэрпрэтацыі рэжысёра Т. Арцімовіч і "Выгода" М. Маенбурга (рэжысёр А. Марчанка).

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# У пошуку маладых талентаў

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі аб'явіла літаратурны конкурс сярод юных аўтараў на лепшы мастацкі твор. Конкурс прысвечаны юбілею класіка беларускай літаратуры М. Багдановіча і праводзіцца сумесна з упраўленнем культуры Мінгарвыканкама.**

У конкурсе на лепшы мастацкі твор у намінацыях "проза", "паэзія", "публіцыстыка", "літаратурная крытыка" запрашаюць прыняць удзел юных празаікаў, паэтаў і літаратурных крытыкаў Мінска ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў. Творчыя работы канкурсантаў могуць быць як на беларускай, так і на рускай мовах. Выбар жанраў — самы шырокі: апавяданне, аповесць, эсэ, абразкі, верш, паэма, нарыс, літаратурна-крытычны артыкул. Па тэматычнай скіраванасці юныя творцы таксама не будуць абмежаваныя. Яны могуць пісаць пра сваю Бацькаўшчыну, родны горад Мінск; апяваць мужнасць нашага народа; апавядаць пра працоўныя будні сучаснікаў; захапляцца прыгажосцю роднай зямлі і чалавека, што жыве на ёй; вылучаць герояў нашага часу; весці расказ пра дружбу; разважаць пра мір і шчасце, высокія чалавечыя пачуцці, мары і памкненні. Маладыя літаратурныя крытыкі мусяць разглядаць творчасць сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Галоўнае патрабаванне да твораў — яны павінны быць самастойнымі, арыгінальнымі, мастацкімі. Работы, набраныя на камп'ютары, дасылаюцца або здаюцца асабіста ўдзельнікамі конкурсу Мінскаму гарадскому аддзяленню Саюза пісьменнікаў Беларусі (220034, Мінск, вул. Фрунзэ, 5, пакой 308) да 31 мая.

Журы ў складзе вядомых пісьменнікаў вызначыць пераможцаў. Па выніках конкурсу плануецца падрыхтаваць і выдаць пяць аўтарскіх кніжак у серыі "Мінскія маладыя галасы". Падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца на вялікім літаратурным свяце ў Доме літаратара ў лістападзе 2011 года. Лаўрэаты і пераможцы конкурсу атрымаюць дыпломы Саюза пісьменнікаў Беларусі і падарункі. Самыя таленавітыя аўтары атрымаюць рэкамендацыі на ўступленне ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Інфармацыйным партнёрам заснавальніка конкурсу з'яўляецца газета "Літаратура і мастацтва"

Міхась ПАЗНЯКОЎ

## Прэс-канферэнцыі



# Дзеля сённяшняга і будучага

**Да сустрэчы з журналістамі міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка падрыхтаваўся грунтоўна, каб даць падрабязны і кампетэнтны адказ на любое, нават самае нечаканае пытанне. І распачаў прэс-канферэнцыю не з агульных слоў, а з фактаў, лічбаў, планаў.**

Міністэрствам культуры пры падтрымцы аблвыканкамаў распрацаваны праект дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011—2015 гады. Упершыню культура Беларусі атрымае ўрадавую праграму. У снежні 2010 года пачне працаваць Інстытут культуры Беларусі, які ствараецца па рашэнні Савета Міністраў краіны. Фактычна гэта будзе ўзноўлены Інбелкульт. Вядзецца актыўная праца па стварэнні сістэмы мецэнацтва і спонсарства для сферы культуры. Гэта будзе магчыма, калі тыя, хто згодны ўкладаць сродкі ў сферу культуры і самі культурныя ўстановы, атрымаюць падатковыя льготы.

У чэрвені бягучага года ўрадам прынята прынцыповае рашэнне аб завяршэнні рэканструкцыі на працягу трох гадоў усіх 27 рэспубліканскіх і рэгіянальных тэатраў краіны. 3 мэтай заахвочвання беларускіх тэатраў да творчых эксперыментаў Міністэрства культуры выступіла з ініцыятывай правядзення Рэспубліканскага конкурсу "Нацыянальная тэатральная прэмія". Плануецца распачаць конкурс ужо ў гэтым годзе, каб яго вынікі падвесці на Міжнародны дзень тэатра 27 сакавіка 2011 года.

Адным з прыярытэтных накірункаў дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры з'яўляецца развіццё і падтрымка беларускага музычнага мастацтва, беларускіх кампазітараў. Прэзідэнцкім аркестрам была прадстаўлена ў Берліне прэм'ера твора беларускага кампазітара Галіны Гарэлавай, а опера Сяргея Картэса "Мядзведзь" была пастаўлена ў Новасібірску. Рыхтуюцца канцэрты з твораў беларускіх аўтараў у рамках XV з'езда Беларускага саюза кампазітараў. Чакаюцца прэм'еры беларускіх канцэртных праграм да 80-гадовага юбілею У. Караткевіча.

Адна з асноўных ліній дзейнасці міністэрства — падтрымка новых праектаў. Такім стала "Ноч музыкі", праведзеная ў Белдзяржфілармоніі з удзелам айчынных і замежных выканаўцаў. Адным з буйных культурных праектаў рэспублікі застаецца Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Шмат увагі ўдзяляецца праблемам развіцця эстраднага мастацтва Беларусі. Прэзідэнтам падтрымана прапанова па лібералізацыі канцэртнай дзейнасці ў краіне а таксама прапанова аб правядзенні конкурсу "Нацыянальная музычная прэмія" ў сферы эстраднага мастацтва.

Распавядаючы пра становішча кінамастацтва Беларусі, міністр культуры прыгадаў, што ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адкрыты факультэт экранных мастацтваў. Акрамя гэтага плануецца стварыць дзяржаўны прадзюсерскі цэнтр кіно для павышэння ўзроўню падрыхтоўкі кадраў. Што ж датычыць кінастудыі "Беларусьфільм", дык з лістапада 2010 года будзе ўзноўлена яе будаўніцтва і рэканструкцыя за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту.

Маюць падставы для энтузіязму і беларускія мастакі. Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь падтрыманы прапановы па стварэнні музейнага квартала па перыметры вуліц Леніна, Маркса і Кірава; заснаванне Рэспубліканскага рэстаўрацыйнага цэнтра, Цэнтра сучаснага мастацтва. Падтрымана таксама прапанова аб больш льготнай арэндзе майстэрняў для мастакоў, і асабліва для маладых творцаў. У 2011 годзе Беларусь будзе ўдзельнічаць у прэстыжных міжнародных праектах — Біенале ў Венецыі, а таксама Квадрыенале ў Празе. У наступным годзе плануецца правядзенне першай Рэспубліканскай выстаўкі манументальнага мастацтва.

У 2011 годзе да 120-годдзя М.Багдановіча і 130-годдзя Я.Купалы і Я.Коласа будуць адноўлены ўсе музеі нашых класікаў. Згодна з праектам праграмы "Культура" за пяць гадоў будуць камп'ютарызаваны ўсе бібліятэкі краіны.

Планы вялікія. Безумоўна, будуць патрабаваць яны вялікіх і намаганняў. Але, мабыць, справа гэтага заслугоўвае. Каб нашчадкі нашы жылі ў Беларусі яшчэ больш прывабнай — у Беларусі, дзе ніводны талент не застанецца незаўважаным, нішто не перашкодзіць рэалізацыі чалавека як Мастака і Творцы. І такая Беларусь, падобна, сапраўды будзе.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымку: Павел Латушка адказвае на пытанні журналістаў.

Фота Юрыя Іванова

## Прэзентацыі

# Маладаступнае, ды каштоўнае

На VII Доўнараўскіх чытаннях, якія адбыліся ў Рэчыцы, прайшла прэзентацыя чарговага, восьмага выпуску штогодніка "Архіварыус". Яго выданне арганізавалі супрацоўнікі Нацыянальнага гістарычнага архіва Рэспублікі Беларусь. Міжнародныя Доўнараўскія чытанні праводзяцца ў гонар вядомага беларускага гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага. На канферэнцыі прысутнічалі мясцовыя краязнаўцы і прадстаўнікі з іншых рэгіёнаў, з горада Гомеля і нават з Украіны.

Штогоднік выклікаў значную цікавасць: выданне гэта навуковае, у ім друкуюцца маладаступныя каштоўныя дакументы. Такім чынам у навуковы ўжытак уводзіцца шэраг новых, раней невядомых дакументаў і фактаў.

"Архіварыус" — унікальнае выданне: ніводны іншы архіў, акрамя як Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, не мае такога перыядычнага штогодніка. Выданне прысвечана ў першую чаргу тым задачам, якія хвалююць і якія штодня выконваюць архівісты.

Адпаведна вытрыманы і рубрыкі "Архівазнаўства", "Архівазнаўства", "Крыніцазнаўства", "Генеалогія і геральдыка", "Пастаці архівістаў", "Хроніка і бібліяграфія" ды іншыя. Тэмы і раздзелы маюць нейкую стабільнасць. Цягам гадоў ідзе больш глыбокая іх распрацоўка, паколькі такой тэматыкай, на жаль, мала хто займаецца.

"Перавážна мы імкнёмся друкаваць матэрыялы таго храналагічнага перыяду, дакументы якога захоўвае архіў, — гэта дакументы пераважна да 1917 года, — распавядае супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага архіва Зміцер Яцкевіч. — Некаторыя крыніцы сягаюць у 1920—1930-я". У восьмым выпуску "Архіварыуса" змешчаны публікацыі з Гомельскага абласнога архіва, звязаныя са Стракапытаўскім мяцяжом 1919 г. Артыкул прысвечаны невядомым фактам з біяграфіі царкоўнага гісторыка, публіцыста і археографа Хведара Жудро, даецца яго бібліяграфія і біяграфія.

Друкуецца таксама "Падарожны дзённік Даніэля Крмана". Упершыню на беларускую мову перакладзена частка падарожных успамінаў славацкага месіянера, датычныя нашай краіны. Яго нататкі (1708 г.) у Беларусі даюць шмат штрыхоў да гісторыі шматлікіх гарадоў і мястэчак, праз якія ён прайшоў услед за арміяй Карла XII.

"Ёсць навуковая публікацыя і археаграфічная апрацоўка дакументаў і хрэстаматыйнага папулярызацыйнага кшталту, што таксама вельмі неабходна, але ахапіць усё за адзін раз немагчыма, — тлумачыць Зміцер Яцкевіч. — Элемент такой папулярызацыі — пераклад на беларускую мову польскамоўных, лацінамоўных тэкстаў. Але ідзе і палітарная перадача тэксту, таму што гэта дух той эпохі і ўзровень ведаў чалавека, скажам, XVI—XVII стст.

Вельмі часта такія польскамоўныя, лацінамоўныя тэксты сведчаць пра тое, што дакумент пісаў беларус, бо сярод сухой фармулярнай мовы, лацінскай ці польскай сустракаеш выразы, якія характарызуюць культуру, веды і нават пахаджэнне аўтара-беларуса. Кожную публікацыю мы разглядаем як падмурак далейшых даследаванняў, якія вырастуць на глебе архіўных дакументаў".

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## Літ-абсягі

# Класікі ў новым ракурсе

**У чытальнай зале Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва адбылася прэзентацыя зборніка дакументаў і матэрыялаў "Купала і Колас, вы нас гадавалі. Ч. 1. (1909 — 1939)".**




У кнігу ўвайшоў шэраг малавядомых дакументаў за 1909 — 1939 гады, у тым ліку аўтографы класікаў, матэрыялы біяграфічнага характару, а таксама сведчанні пра атачэнне песняроў. Аснову выдання склалі дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Расійскага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, аднак былі выкарыстаны матэрыялы і многіх іншых сховішчаў Беларусі і Расіі. Усе публікацыі падрыхтаваныя ў поўнай адпаведнасці з самымі строгімі крыніцазнаўчымі патрабаваннямі.

Са старонак зборніка класікі беларускай літаратуры паўстаюць як удзельнікі гістарычнага працэсу, дзейныя асобы ў драматургіі складанага і напружанага часу. Бясспрэчна, што матэрыялы зборніка стануць істотным дадаткам да шматтомнікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама годным працягам колішніх кніг пад рэдакцыяй слыннага Генадзя Кісялёва — "Пуцявінамі Янкі Купалы" (1981) і "З жыццяпісу Якуба Коласа" (1982).

На прэзентацыі выступілі як госці з Расіі, так і беларускія літаратуразнаўцы і архівісты: дырэктар Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь У. Адамушка, кіраўнік Федэральнага архіўнага агенцтва Расіі А. Арцізоў, дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь В. Селяменеў, дырэктар Расійскага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Т. Гараева, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі М. Мушынскі, унучка Якуба Коласа В. Міцкевіч. Былі і неспадзяваныя паведамленні: так, Т. Гараева распавяла прысутным, што ў выдавецтве "РОССПЭН" запланавана новае выданне "Между молотом и наковальней", дзе будзе падрабязна асветлена гісторыя ўзаемадачыненняў савецкай улады з Саюзам пісьменнікаў СССР (вядома, што ўвойдуць туды і беларускія матэрыялы).

Асобная ўвага была аддадзена і прэзентацыі зборніка "Белорусы в советском тылу. Июль 1941 г. — 1944 г.", прысвечанага вынікам эвакуацыі ў 1941 годзе з Беларусі. На аснове зводных дакументаў рускіх і беларускіх архіваў адноўлена праўдзівая карціна эвакуацыі насельніцтва; тут распавядаецца аб працоўным подзвігу прадстаўнікоў навукі і культуры, якія ўнеслі свой уклад у набліжэнне Перамогі, асвятляецца работа Акадэміі навук БССР, устаноў культуры.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## З-пад пяра

Традыцыйнай у Беларусі стала ўжо Рэспубліканская мастацкая выстаўка работ стыпендыятаў, дыпламантаў і лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. У выстаўцы бяруць удзел выхаванцы дзіцячых школ мастацтваў, навучэнцы мастацкіх сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Інфармацыя пра юных талентаў, пераможцаў розных міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў заносіцца ў электронны банк дадзеных. Усяго за 15 год існавання гэтага спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь заахвочана 1867 таленавітых юнакоў і дзяўчат, з іх 446 — мастакі. У гэтым годзе Рэспубліканская мастацкая выстаўка работ юных талентаў адкрыецца 10 снежня ў сталічнай галерэі "Універсітэт культуры".

Лізавета БАГАДЗЯЖ

Славянская бібліятэка г. Гомеля сумесна з Гомельскім дзяржаўным універсітэтам імя Ф. Скарыны правялі Дні Чэхіі. Аматарам культуры была прапанавана насычаная праграма: выстаўка-прагляд фондаў бібліятэкі (а яны налічваюць больш за 30 тысяч асобнікаў), паказ фільма чэшскага рэжысёра Я. Сверака "Коля", літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная паэту Я. Сейферту, лаўрэату Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1984 года. Вершы паэта, якога ўжо цяпер крытыкі лічаць вялікім, прагучалі на вечарыне ў выкананні студэнтаў філалагічнага факультэта. Імпрэза была аздоблена жывой музыкай чэшскіх класікаў — З. Фібіха і А. Дворжака ў выкананні магістра мастацтваў і выкладчыка каледжа імя Сакалоўскага В. Мацкевіч.

Ганна НОВІК

Галерэя "Універсітэт культуры" зноў запрашае на выставу "Тэхна-арт-2010", якая праходзіць у рамках Рэспубліканскай выстаўкі сучаснага выяўленчага мастацтва "Зямля пад белымі крыламі". Аб'ект творчых памкненняў — жалеза. Ствараючы свае вобразы, тэхна-мастакі сабралі ў адзінае пачуцці, эмоцыі і таемнасць: "Кот Разеткін" — Тацяны Гамзы, "Фотаробат" — Алеся Некрашэвіча, "Газавая сімфонія" — Уладзіміра Цэслера... У экспазіцыі прадстаўлены і іншыя работы, выкананыя ў тэхна-артаўскім стылі: 3D-анімацыя, цыфравы мантаж, камп'ютэрная графіка, жывапіс.

Дар'я ШОЦІК

У вялікай зале Мінскага яўрэйскага абшчыннага дома даў канцэрт Аляксей Крэчат. Спявак — выпускнік Інстытута сучасных ведаў, лаўрэат Міжнароднага конкурсу "Твары друзей" у Малдове, пераможца фестывалю "Залаты крыж" на Мальце, лаўрэат Музычнага спаборніцтва "Брыльянты Расіі", удзельнік паўфіналаў "Новай хвалі" і "Еўрафэсту". У канцэрце прыняла таксама ўдзел маладая спявачка, студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў Патрыцыя Курганава. Аляксей і Патрыцыя — члены Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Музыка дапамагае ім адчуваць наш поўны радасці і сонца свет, змагацца з жыццёвымі цяжкасцямі.

Дзмітрый ЕРМАЛОВІЧ-ДАШЧЫНСКІ

## Арт-лінія

# Музычны non-stop восені

**Заўтра, 16 кастрычніка, у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ўрачыста адкрыецца XXXVII Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". Што абяцаюць сталічнай публіцы афішы, аздобленыя традыцыйным абрысам кляновага лістка? Новыя праграмы айчынных выканаўцаў. Разнажанравыя канцэрты іншаземных гасцей. Словам, дынамічны і яркі працяг тых падзей, якія прынёс з сабою ў Мінск чарговы Міжнародны фестываль Юрыя Башмета.**



Сталічныя меламаны і госці Мінска, напэўна, усё яшчэ ў палоне чарадзейных уражанняў ад канцэрта, якім заўчора завяршыўся V Міжнародны фестываль Юрыя Башмета. Гэта быў грандыёзны апафеоз свята высокай музыкі: за дырыжорскім пультам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі выступіў маэстра з Германіі, выдатны інтэрпрэтатар партытур нямецкіх класікаў — Юстус Франц; саліравалі таксама сусветныя знакамітасці: расійскі піяніст Аляксей Любімаў і віяланчэліст з Італіі Марыя Брунела... А на пачатку тыдня гасцямі фестывальнай залы былі артысты слыннага камернага ансамбля з Эстоніі "Хортус Музікус", якія на барочных інструментах выконвалі творы старадаўніх еўрапейскіх майстроў ды індыйскія рагі. У чарадзе незабыўных фестывальных вечароў і канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова: саліраваў легендарны аўстрыйскі піяніст Пауль Бадура-Шкода, чыя "зорка славы" ўзышла яшчэ пры канцы 1940-х. Гэтаму музыканту даводзілася выступаць з такімі дырыжорамі, як Лорын Маазель, Карл Бём, Зубін Мета.

Падтрымліваючы non-stop напоўненых тонкімі перажываннямі ды гарачымі эмоцыямі, бліскучых філарманічных вечароў, "Беларуская музычная восень-2010" распачнецца заўтра таксама выступленнем гасцей: Літоўскі дзяржаўны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Гінтараса Рынкявічуса і салістка Саўле Рынкявічутэ прапануюць свае інтэрпрэтацыі Дзявятай сімфоніі мі мінор "З Новага свету" А. Дворжака і Канцэрта № 1 ля мінор Д. Шастаковіча для скрыпкі з аркестрам. Бліжэйшы нядзельны вечар падорыць нам сустрэчу з таленавітым спадкаемцам піяністычных традыцый Генрыха Нейгаўза, ураджэнцам Грузіі, выхаванцам Маскоўскай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага, Музычнага інстытута Ф. Ліста ў Веймары, вышэйшай Нацыянальнай кансерваторыі музыкі і танца ў Парыжы, прадстаўніком Францыі, чыё імя — Гігла Кацарава.

Асаблівага эфекту, як паведамілі нам з інфармацыйнага аддзела БДФ, арганізатары "Беларускай музычнай восені" чакаюць ад канцэрта, замоўленага на 18 кастрычніка. Гэта будзе прэм'ера праекта "Тры музы — тры грацыі", вобразна-эстэтычныя межы якога, скажам так, вызначаюць стыхіі Моды, Музыкі, Балета. Не варта загадзя раскрываць сакрэты фестывальна-карнавальнага філарманічнага вечара. Але, думаю, можна ўсё ж намякнуць, што пэўным чынам ён звязаны з атмасферай "Рускіх сезонаў XXI стагоддзя" — праектам, які неўзабаве прадставіць у НАВТ оперы і балета Беларусі наш госць, народны артыст Расійскай Федэрацыі Андрыс Ліепа. Ён сам, дарэчы, прапануе публіцы, якая завітае ў філармонію ў панядзелак, прэм'еру фільма "Вяртанне Жар-птушкі". А дамінаваць у праграме будзе, вядома ж, музыка. Бо на ёй трымаецца геніяльны балет "Жар-птушка", без яе не атрымаўся б і фільм, без яе не адбудзецца нават маляўнічае шоу — паказ лепшых калекцый беларускіх і расійскіх дызайнераў. Таму галоўнымі стваральнікамі атмасферы вечара будуць музыканты беларускага Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава ды вядомы айчынны піяніст, лаўрэат міжнародных конкурсаў Канстанцін Красніцкі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: мастацкі кіраўнік Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Беларускай дзяржаўнай філармоніі Уладзімір Байдаў.

## Повязі

# «Памяць душы» латвійскага госця

**Персанальная фотавыстаўка рыжаніна Аляксандра Булыгіна, прысвечаная 65-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, адкрылася ў мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай бібліятэкі імя І. Каладзеева. Праект гэтага вернісажа падтрымалі Рыжская дума, Пасольства Рэспублікі Беларусь у Латвіі, Міністэрства культуры нашай краіны, Мінскі абласны і Барысаўскі раённы выканаўчыя камітэты, прадпрымальнікі Латвіі і Беларусі.**



Нарадзіўся Аляксандр Булыгін у Беларусі ў 1952 годзе. Выхоўваўся ў школе-інтэрнаце ў гарадскім пасёлку Халопенічы, вучыўся ў СШ № 12 горада Барысава. Марыў стаць мастаком і мараком. Адслужыўшы ў арміі, ён спрычыніўся да марской рамантыкі на Рыжскай базе рэфрыжэратарнага флоту. Але цяга да мастацкай творчасці была мацнейшая. Скончыўшы з адзнакай курс каляровай фатаграфіі пры Мінскім тэхналагічным тэхнікуме, Аляксандр Аркадзьевіч пятнаццаць гадоў адпрацаваў фатографам на Рыжскім сударамонтным заводзе, а затым у Латвійскай асацыяцыі ўфалогіі. Апошнія трынаццаць гадоў ён займаецца бізнесам, але не забывае пра свой фотаапарат.

У Барысаве прадстаўлена больш як паўсотні каляровых здымкаў, праз якія А. Булыгін імкнуўся паказаць пачуцці людзей і іх перажыванні, шчырую цікавасць і паважлівае стаўленне моладзі да памяці загінулых у віхуры вайны.

...Няма на постсавецкай прасторы сям'і, якую не закранула б Вялікая Айчынная вайна ці яе наступствы: многія мільёны пакутавалі ад тых цяжкіх для чалавецтва падзей. Як правіла, у дзень Перамогі людзі, незалежна ад нацыянальнасці, сацыяльнага статусу, рэлігійных перакананняў і ўзросту, па закліку душы і сэрца наведваюць мясціны, дзе ёсць воінскія пахаванні ці помнікі салдатам-вызваліцелям. Адным з такіх месцаў у Латвіі з'яўляецца помнік вызваліцелям Рыгі. У Дзень Перамогі сюды штогод прыходзіць больш як трыста тысяч чалавек, каб схіліцца перад тымі, хто не вярнуўся з палёў бітвы, каб павітаць і ўручыць кветкі тым, хто ведае вайну не паводле чутак...

Пад уражаннем атмасферы гэтага яднання А. Булыгіным быў зроблены фотарэпартаж, які стаў асновай выстаўкі "Памяць душы". Яна з вялікім поспехам прайшла ў Доме Масквы ў Рызе, Доме кіно ў Мінску, а цяпер дэманструецца ў горадзе на Бярэзіне.

На вернісажы мастацтвазнаўца галерэі "З'ява" Тацяна Кірылава паведаміла, што вынікам экспазіцыі будзе фотаальбом і відэастужка.

Намеснік старшыні Барысаўскага райвыканкама Валянціна Шутко выказала ўдзячнасць аўтару за працягнутую "руку сяброўства". Ад імя ветэранаў Барысаўшчыны са словамі падзякі да фотамастака звярнуліся ўдзельнікі Вялікай Айчыннай: палкоўнікі ў адстаўцы Пётр Дзянісаў і Уладзімір Гарбузаў, ветэран вайны і працы Аляксандра Арцюховіч.

Прадстаўляючы сваю экспазіцыю, Аляксандр Булыгін, у прыватнасці адзначыў: "У Беларусі амаль не ведаюць, як адзначаюць Дзень Перамогі ў Латвіі, хоць нідзе на постсавецкай прасторы няма такога свята Перамогі, як у Рызе: мора кветак і мора людзей. І з кожным годам іх усё больш і больш. Сёлета прыйшло каля 400 тысяч — практычна кожны другі рыжанін". На выстаўцы шмат партрэтаў пажылых рыжан — ветэранаў вайны, жанчын, якія перажылі гады ліхалецця...

Прыемным сюрпрызам для публікі сталася літаратурна-музычная кампазіцыя ў выкананні юных барысаўчан (кіраўнік Вікторыя Міронччык), якія прадэкламавалі ўрывак з паэмы Роберта Раждественскага "210 крокаў".

Анатоль МАЗГОЎ

На здымку: фотамастак з Рыгі Аляксандр Булыгін.

Фота аўтара

Саюз пісьменнікаў Беларусі, Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Анатолю Мельнікаву з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

# «Бяры тэму, якую да цябе ніхто не браў!»



**У гэтым годзе прэтэндэнтам на Нобелеўскую прэмію па літаратуры стаў Георгій Марчук — драматург, празаік, дзіцячы пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. У інтэрв'ю карэспандэнту «ЛіМа» пісьменнік тлумачыць свае погляды на літаратуру, расказвае пра гісторыю стварэння раманаў, пра свае пастаноўкі ў тэатрах Беларусі.**

— Георгій Васільевіч, якія вашы творы разглядаліся камітэтам, што прысуджае Нобелеўскую прэмію? У якім аб'ёме члены камітэта маглі пазнаёміцца з вашай творчасцю?

— Неабходна, каб творы, з якімі азнаёміцца камітэт, прапаноўваліся на англійскай мове. Мы пераклалі казкі і афарызмы. Разам з перакладамі дасылаецца аб'ёмнае рэзюмэ пра аўтара з пашыранай характарыстыкай творчасці: даецца шырокі аналіз спектра творчасці, паведамляецца, што перакладзена на іншыя мовы, пералічваюцца ўзнагароды, якія мае пісьменнік.

— Вылучэнне на Нобелеўскую прэмію — фактычна піяр-акцыя, разлічаная на павелічэнне прэстыжу пісьменніка, папулярызацыю яго твораў…

— Абсалютна так. Нават вылучэнне на якую-небудзь еўрапейскую прэмію, Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, Прэмію Саюзнай дзяржавы, Патрыяршую літаратурную прэмію імя Кірыла і Мяфодзія спрыяе папулярызацыі творчасці пісьменніка. Тое, што я стаў адным з прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію, выклікала пэўны водгук. Па маіх звестках, людзі прыходзяць у кнігарні, у бібліятэкі, просяць: "Дайце пачытаць што-небудзь Марчука". Безумоўна, кожнаму пісьменніку не пашкодзіць піяр…

— Што адметнае, уласна сваё, імкнуліся вы данесці беларусам? Якія тэмы і ідэі вашай творчасці могуць быць адметнымі ў кантэксце сусветнай літаратуры?

— Кожны пісьменнік піша гісторыю свайго народа, душу свайго народа, далучаецца праз нацыянальнасць, праз беларускасць да разумення сэнсу жыцця, яго таямніцы, таямніцы барацьбы дабра і зла. Але яшчэ Леў Талстой сказаў: "Бяры тэму, якую да цябе ніхто не браў". І спрабуй на гэтай тэме вызначыць свой погляд і на жыццё, і на свет, і на рэлігію, і на грамадства, на тое, чым жыве чалавек… Мая тэма — гэта тэма правінцыі, мястэчка, гісторыі. На пачатку творчага шляху я зразумеў, што няблага было б прапісаць характар беларуса на працягу ста гадоў: ці зменьваўся ён, калі зменьваўся, то ў які бок — у лепшы, ці ў горшы, што сапраўды за душой у беларуса, наколькі ён мужны, працавіты, абыякавы — "мая хата з краю", ці, наадварот, можа бараніць сваё, паўстаць на абарону радзімы, маці, дзіцяці… Усё гэта звычайныя чалавечыя рысы характару, але кожнаму народу яны ўласцівыя ў рознай ступені. Я вызначыў сваю тэму дзякуючы таму, што выйшаў з простых людзей, жыў сярод іх… Я пісаў і пра паход юнака ў сталіцу, спробы сцвердзіць сябе, стаць асобай, пра пошукі духоўнасці — бо жыццё часам так калашмаціць, што ў нас губляецца стрыжань высокай маральнасці, адказнасці, гэта падменьваецца нецярпеннем, разбурэннем, эгаізмам, абыякавасцю.

— Якія свае творы вы лічыце найбольш удалымі?

— Кожны пісьменнік сам сябе любіць і лічыць, што ўсе яго творы — класіка. За яго на гэта пытанне адказваюць час, чытачы, школьныя настаўнікі, вучні… Не зусім дасканалымі могуць быць мае раннія творы: этап вучнёўства прысутнічае ў кожнага. Наогул, у мяне заўсёды была мера і пачуццё адказнасці: пяць, шэсць разоў прачытаю твор, угледжу, што ёсць характары, сюжэт, напружанасць дзеяння, нейкая навізна — і толькі тады прапаную тэкст тэатрам альбо нясу ў часопісы.

— Чым вы больш вядомыя: прозай ці драматургіяй? Наколькі папулярным пісьменнікам вы сябе лічыце?

— На радзіме, у Давыд-Гарадку, больш чытаюць прозу, у гарадах глядзяць на маіх герояў са сцэны. Мае п'есы ідуць амаль у 10 тэатрах рэспублікі… А вызначаць цяпер, каго больш або менш чытаюць — справа рызыкоўная. Усе пісьменнікі ідуць амаль на адным узроўні: беларусы мала чытаюць, хаця добрых пісьменнікаў у нас шмат, пачаўся заняпад цікавасці да беларускай кнігі наогул. Няважна, ці яе аўтар — шасцідзесяцігадовы пісьменнік, за плячыма якога вялікі творчы багаж, ці малады паэт накшталт Рагнеда Малахоўскага, Алены Беланожкі, Машы Маліноўскай. Я лічу гэтых аўтараў смелымі, мужнымі людзьмі, што разумеюць агульную нецікавасць да кнігі, якую выцеснілі Інтэрнэт, кіно, гульні, розныя праекты, але ўсё роўна ідуць наперад…. Некаторыя думаюць, што ў Еўропе такая выключная літаратура, якую нам не дагнаць, хаця мала хто яе добра ведае і чытае, толькі што нешта часам трапляе на слых, з'яўляецца ў Інтэрнэце. Паважаць і цаніць трэба працу кожнага пісьменніка, бо ў кожнага яна складаная.

— Чым, на вашу думку, цікавая класічная беларуская літаратура? Якія адметныя рысы мае сучасная беларуская літаратура ў сусветным кантэксце?

— Адметнасць беларускай літаратуры — праўда свайго народа, яго гісторыя, менталітэт, асаблівасці характару. Натуральна, мы будзем цікавыя нечым уласна сваім — хаця ў нас і еднасць культур, але і рускі, і ўкраінец, і паляк нечым адрозніваюцца: сентыментальнасць у паляка, эпічнасць, шырыня поглядаў, адзінота, самазасяроджанасць у рускіх, ганарлівасць, весялосць — у ўкраінцаў, камернасць, пяшчота, даверлівасць — у беларусаў. Вось і цікавіць пісьменнікаў генэзіс нацыянальнага характру…

А каб атрымаўся сапраўдны твор, варты ўсіх прэмій — у тым ліку і Нобелеўскай, пажадана улічыць тое, чым валодаюць беларускія пісьменнікі. Тут можна згадаць словы гераіні Гогаля ў "Жаніцьбе": "Вось каб вусны Ніканора Іванавіча ды прыставіць да носа Івана Кузьміча, ды ўзяць колькі-небудзь развязнасці, якая ў Балтазара Балтазарыча, ды, бадай, дадаць да гэтага яшчэ дзёрзкасці Івана Паўлавіча — я б тады адразу згадзілася". Пэўна, для літаратуры такі падыход нечым прымальны. Трэба напісаць такі твор, у якім будзе глыбокі псіхалагізм — як у Шамякіна, Пташнікава, Казько, гістарычная праўда — як у Петрашкевіча, Дудзюк, грамадзянскасць, злабадзённасць — як у Бураўкіна, Пашкова, Лукшы, народнасць і фальклорнасць — як у Гілевіча эксперыментальнасць, валоданне словам — як у Разанава, Барадуліна, Зуёнка, лірызм і пяшчота — як у Сіпакова, Баравіковай, Пісьмянкова, акрылены патрыятызм — як у Мятліцкага, Карызны, Савіцкага, Макарэвіча, удаласць дыялогаў — як у Дударава, Дзялендзіка, мастацкая публіцыстычнасць — як у Ткачова, Ліпскага, Саламахі, Салтука,назіральнасць – як у Камейшы, Федарэнкі, Марозава, засяроджанасць — як у Левановіча, Шніпа, Гардзея, Гніламёдава, смеласць — як у Сваяка, шляхетнасць — як у Дранько-Майсюка, Дуксы, Гаўрыловіча, Гурыновіча, Сцяпана, непасрэднасць — як у Маеўскай, Кадзетавай, кідкасць, эпатажнасць — як у Хадановіча, Глобуса, Казлова, Станкевіча, вернасць праўдзе жыцця — як у Марціновіча, Арлова, Прыгодзіча, Шырко, гумар — як у Зэкава, Скрыпкі, Саковіча, Корбана, лаканізм — як у Жука, маляўнічасць, пластычнасць — як у Адамчыка, Пазнякова, Башлакова...

— А чым вылучаюцца вашы творы?

— Напэўна, маіх чытачоў зацікавяць сюжэт, інтрыга... У творчасці кожнага аўтара я імкнуся вылучыць характэрную рысу — і прабачце, калі кагосьці з таленавітых пісьменнікаў я не паспеў прыгадаць… Сярод пералічаных ёсць і патэнцыяльныя кандыдаты на Нобелеўскую прэмію. Каб прэтэндаваць на яе, неабходная шырокая папулярызацыя твораў, пераклады іх на іншыя мовы. І, як я ведаю, да саракагадовага ўзросту нікому прэмію не давалі, бо аўтар яшчэ амаль не вызначыўся… Трэба працаваць штодня, сур'ёзна і доўга. Я вось прачытаў Памука і падумаў: а некаторыя нашы пісьменнікі абсалютна нічым і не саступаюць! Творы яшчэ аднаго лаўрэата Ялінэк – эпатажныя, смелыя, крыху паталагічныя — але гэта не звышузровень… Усё залежыць ад меры таленту, значных твораў, вядомых у рэспубліцы і за мяжой.

— У чым своеасаблівасць вашага стылю? Як спалучаюцца ў ім сучасныя падыходы і рысы, традыцыйныя для беларускай прозы?

— Я — рэаліст, хаця люблю часам звяртацца да сімвалізму, рамантызму. У маіх п'есах дзейнічаюць і Чорт, і Анёл, і Грэх, але сцэна любіць гіпербалу, дазваляе такія рэчы… Як і большасць з майго пакалення, ў прозе я зрэшты спыніўся на рэалізме — менавіта на ім базіруецца наша проза. Постмадэрнізм, безумоўна, таксама мае права на жыццё, бо ўсё ў руху… Затрымліваюцца ж ў гісторыі беларускай літаратуры сур'ёзныя, грунтоўныя, рэалістычныя творы.

— Ваш раман "Крык на хутары" падаецца даволі адметным праз зварот да тэмы Заходняй Беларусі 30-х — 40-х гг. Якой была гісторыя яго стварэння?

— На тэму Заходняй Беларусі пісалі Машара, Пестрак, Танк, Брыль, Каваленка, але даволі дакументальна. Не хапала новых падыходаў. У рамане "Чужая Бацькаўшчына" і ў трох астатніх раманах Адамчык забраў пад сваю ўвагу даваенную вёску Заходняй Беларусі. Гэта сапраўдная глыба — грунтоўны падыход, цудоўнае валоданне мовай, маляўнічасць. А пра правінцыю, мястэчка, хутар яшчэ не пісалі… Я вывучыў гістарычныя матэрыялы, знайшоў кансультантаў — і сеў за раман. Пасля першай "даваеннай" часткі мне стала цікава, што прынесла героям вайна, як яны, раздзеленыя хутарам і рознымі палітычнымі поглядамі здолеюць аб'яднацца на нечым, супрацьстаяць ворагам. Таму я вырашыў паказаць вайну на Палессі: як пачуваліся закінутыя туды немцы, якім таксама трэба было выжываць, як выяўлялі сябе беларусы — рабіліся барацьбітамі ці наадварот станавіліся здраднікамі…

— У рамане адчуваецца ваша добрае веданне гістарычных рэалій…

— Маімі першымі кансультантамі былі людзі, якія ў маладыя гады перажылі аб'яднанне, вайну… Адзін з іх — былы хутаранін Патэльскі. Пра штосьці расказвалі сваякі, астатняе было ўзята з кніг. Каб высветліць палітычную сітуацыю я размаўляў з былым сакратаром ЦК Заходняй Беларусі Арэхвам, меў яшчэ аднаго кансультаната — Пятра Скрыпскага, які служыў у польскім войску ў дывізіі Касцюшкі, дайшоў да Берліна. Да гэтага падлеткам ён жыў на хутарах — яго адпаведнік у рамане "Крык на хутары" — малодшы Юзік. Прыдумаць сур'ёзную, глыбокую гістарычную рэч вельмі цяжка, амаль што немажліва. Так, у аснове рамана "Ціхі Дон" — узору для кожнага з нас — ляжыць жыццё кавалера трох Георгіеўскіх крыжоў Харлампія Ермакова. У аснову гістарычнага твора кладуцца нейкія дакументальныя рэаліі, якія нясуць у сабе канфлікт, прыводзяць пісьменніка да цікавых асоб.

— Наколькі аўтабіяграфічны ваш першы раман — "Кветкі правінцыі"?

— Аснова гэтага твора — маё юнацкае жыццё. Для пісьменніка вельмі важна мець фантазію, але ў прозе яна дапамагае толькі да той пары, пакуль існуе логіка паводзін. Можна што заўгодна нафантазіраваць, але я павінны верыць у тое, што адбываецца. "Кветкі правінцыі" — гэта споведзь і прызнанне ў каханні землякам, малой радзіме, мястэчку, дзе я нарадзіўся… За сцэнарый, напісаны паводле рамана, я атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі, ён быў добра экранізаваны… Гэты твор дарагі мне найперш успамінамі пра маладосць. Калі "Крык на хутары" дарагі як прадмет творчасці — бярэш гліну і лепіш, то "Кветкі правінцыі" — гэта акварэль, прыгожыя фарбы, імкненне перадаць аўру…

— Як ставяцца да вас, да вашай творчасці землякі?

— Цяпер цікавасці там крыху паменшала, хаця ўсе новыя кнігі я дасылаю ў бібліятэку… Людзі занятыя сваімі турботамі, клопатамі, змагаюцца, каб утрымацца — уладкоўваюцца на дзве працы, бо трэба ж вучыць дзяцей, мець пянёндзы. Старэйшыя чытаюць "Крык на хутары", навелы "Хаос", юнае пакаленне больш цікавіцца казкамі. У Давыд-Гарадку ёсць свая інтэлігенцыя, там сочаць за маёй творчасцю, за творчасцю іншых землякоў, што спрабуюць пісаць.

— Аднак вы пішаце не толькі пра Давыд-Гарадок: у п'есе "Кракаўскі студэнт" падзеі адбываюцца ў старажытным Полацку…

— Яе галоўны герой — шаснаццацігадовы Францыск Скарына. У аснове твора — дакументальны факт, які ёсць у летапісах: бацька Скарыны гвалтам скраў грошы ў іншага купца. А так дакладных звестак пра юнацтва нашага першадрукара няма… Трэба было дамысліваць на падставе таго, што магло б быць. А магло быць і першае каханне, і чытанне кніг у Полацкім жаночым манастыры. Вельмі ўдала паставіў гэты спектакль рэжысёр В. Анісенка ў Віцебскім тэатры.

— На якія вашы п'есы можа пайсці сёння цікаўны чытач?

— У Новым драматычным тэатры ідуць пастаноўкі "Чай з вярблюдам" і "Каханне, грошы, і хлопец харошы" — апошняя п'еса пабудавана цалкам на фальклоры. У Дзяржаўным маладзёжным тэатры 5 гадоў з поспехам ідзе п'еса-казка "Чужое багацце". У Беларускім дзяржаўным тэатры лялек плануюць аднавіць пастанову "Чаканне сабакі Тэафіла", што чвэрць стагоддзя таму ішла на гэтай сцэне. Варта думаць, з прыходам новага кіраўніцтва штосьці з маіх п'ес будзе пастаўлена ў Нацыянальным драматычным тэатры імя Янкі Купалы. Раней існавалі непаразуменні, якія прыгняталі мяне як пісьменніка. Я пачынаў з драматургіі, мае п'есы доўга прыносяць радасць гледачам і прыбытак тэатрам. Але ж чакаю 30 гадоў (!) супрацоўніцтва з гэтым тэатрам. Драматургія — адзін з самых складаных жанраў, бо тут ты сам сабе не належыш: заўсёды невядома, ці спадабаецца рэжысёру, дырэктару твой твор, ці прынясе пастаноўка грошы. Таму апошнім часам у нас больш-менш ярка вылучылася як драматург толькі Наталля Трызна з Гомеля. Цяпер ідзе конкурс маладых фантастаў, але хутка Міністэрства культуры абвесціць конкурс на лепшы твор драматычных жанраў. Мэта конкурсу — натхніць на працу маладых драматургаў, даць стымул рэжысёрам тэатраў. Як кажуць на маёй радзіме, працуй сумленна, штодня і поспех знойдзе цябе. Што і я, дзякуй богу, раблю…

Гутарыла
Дамініка ЛІСОЎСКАЯ

Фота Кастуся Дробава

№ 41 15 кастрычніка 2010 г.

# Не забыта, бо перажыта

Зваротам, што нагадвае сабой малітву, пачынае сваю новую кнігу “В днях, к самозабвенью не готовых...” Ізяслаў Катляроў:

Дай мне себе не солгать!  
Если себе не солгу,  
может быть, правду сказать  
людям о людях смогу.

Кніга адметная ўжо тым, што ёю выдавецтва “Четыре четверти” распачало новую серыю “Дети войны”, што само па сабе важна, бо, як вядома, нядаўна мы ўрачыста адзначылі 65-годдзе Вялікай Перамогі, а дагэтуль, прыкладна годам раней — гэткую ж дату з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Вайна заспела І. Катлярова, калі яму не споўнілася яшчэ і тры з паловай гады. Маці памерла — да чаго страшнае супадзенне! — акурат у Дзень Перамогі. Бацька, які вярнуўся з фронту цяжкапаранены (“С его спины на рваный бок // переползают шрамы”), а пасля... Пра ўсё гэта, як і шмат пра што іншае, можна прачытаць у творах, якія настолькі ўзаемазвязаны між сабой, што ўспрымаюцца своеасаблівай аповесцю ў вершах, праз якую скразным матывам праходзіць думка, што і выражана ў паэтавай “Молитве”: сказаць праўду “людям о людях”.

Праўда гэтая — бескампрамісная, у нечым бязлітасная. Дый іначай і быць не можа, бо пра тое, што было, што пражыта і перажыта, не проста гаворыць сам аўтар, а па сутнасці прамаўляе ягоная памяць, таксама напоўная гэтай бескампраміснасцю, бязлітаснасцю. Зноў жа іначай быць не можа, таму што і памяць гэтая асаблівая — збалелая, выпакутаваная, часам да таго аголеная, што нават боязна судакранацца з ёю. Адзін неасцярожны рух і забаліць яна. Страшна забаліць, так забаліць, што з цяжкасцю ўстрымаешся, каб не закрычаць. Таму што боль гэты, нібы ад аголенага нерва. Такая яна, памяць мінулай вайны. І пасляваеннага часу — памяць. У адзінае цэлае спалучаецца тое, сведкам чаго лірычны герой быў, і прапушчанае праз ягонае ўласнае ўспрыманне, што становіцца дапаўненнем такой памяці. Як у вершы “Фотография 1941 года”:

Он мне меня напоминал —  
мои глаза и кудри — тоже.  
Моим он взглядом подозвал —  
и холодок пополз по коже.

Далей яскрава паўстае тое, што нёс з сабой фашызм, раскрываецца ягоны сапраўдны твар — твар нелюдзяў, якія не шкадавалі ні старых, ні малых:

Толпа. Овчарка. Эшафот.  
На сапогах играют блики.  
У мальчика — огромный рот,  
набитый яростью и криком.  
О, как, ругая и моля,  
душа о жизни голосила!  
На шее мальчика петля  
мое дыхание сдавила.

Такі жудасны малюнак лірычны герой як бы “прымярае” на сябе. Разумее, што і сам ён, тагачасны ваенны хлапчук, мог быць на месцы таго, каго пазбавілі жыцця гітлераўцы:

Висел он, голову склоня,  
уже не чувствуя, что плачет, —  
совсем обыкновенный мальчик,  
похожий чем-то на меня...

Тое, што І. Катляроў у адным са сваіх твораў выказвае такімі словамі: “Прошлое никак не отпускает, // память от него не отвыкает”, канечне, можа прамовіць кожны з нас. Асабліва той, хто дасягнуў сталага веку. Але, на шчасце, пераважную большасць з нас мінула тое, пра што даведваешся з гэтага верша“: “Каждый временем украшен. // жить не в нем, — нельзя… // Разошлись дороги наши, // детских лет друзья. // Кто на мине подорвался, // брошенной в костер, // кто на финочку нарвался — на нее, в упор”. Ды сутнасць таго часу была б няпоўнай, калі б не такія радкі: “Вдруг жалели немцев пленных, // а себя — так нет-пасынки послевоенных, // да, жестоких лет”.

Гэта таксама з таго, што не прыдумаеш, бо каб сказаць так праўдзіва і пераканаўча, спачатку трэба самому перажыць усё, каб пасля ўжо, праз шмат гадоў вярнуўшыся да яго, прапусціць пражытае праз сэрца, быццам нанава адчуўшы і перажыўшы яго:

Не боялся ножа и кастета,  
выходил и один на один  
у сверкавших от зимнего света  
и победно дымивших руин.  
— Ну, давай! — подзадоривал кто-то.  
В круг ступали, бледнея слегка,  
Витька — сын полицая и жмота,  
я — бывалого фронтовика.

Лірычны герой невыпадкова нікога і нічога не баяўся, бо гэта была ягоная святая помста: “бил его за отца и за маму…” За тых біў, хто для яго — самы дарагі. Дарэчы, пра паэтаву маму. У кнізе шмат вершаў, у якіх паўстае, быццам жывы, воблік ягонай матулі — простай жанчыны, якая ў гады вайны мусіла рабіць усё дзеля таго, каб уратаваць сваіх дзяцей ад голаду і холаду. Творы гэтыя напісаны з любоўю да яе і смуткам з-за таго, што яна так рана пайшла з жыцця, знясіленая ваеннымі нягодамі. Знясіленая, але не зламаная.

Вось яна, “голодной военной зимой”, ледзьве валочачы ногі, “одной лишь силою души”, ноччу з мяшком бульбы спяшаецца да дзяцей. А гэта нібы сам згустак болю, якому не падуладны час. Боль гэты з таго часу, калі ўжо лягла ледзь прыкметная мяжа паміж вайной і мірам. Хлапчук спяшаецца ў бальніцу, каб адведаць маму, але:

Снова дотянулся до окна.  
На кровати, где она лежала,  
ни матраца нет, ни одеяла —  
только сетка ржавая видна.

Женщина какая-то рыдает,  
ящик под ногами исчезает.  
А сестра совсем с ума сошла:  
— Славка, наша мама умерла!

Ад голаду, знясіленая, яна памерла, “моложе молодых” адышла ў вечнасць. Каб прыходзіць у сны і застацца ў памяці. Гэтаксама шчырыя, надзіва прачулыя радкі І. Катляроў прысвяціў свайму бацьку, сябрам маленства. Увогуле, кніга “В днях к самозавенью не готовых...” — гэта як бы выбранае з памяці лірычнага героя, але яно змясціла ў сабе вельмі шмат, бо аўтар не абмяжоўваецца толькі ваеннымі і пасляваеннымі гадамі (што, зразумела апраўдана), а звяртаецца і да больш позняга перыяду з жыцця “дзяцей вайны”.

Напрыклад, прыемнае ўражанне пакідае верш “Разудало лихи, хоть и бедно одеты… “, прысвечаны знакамітаму паэту Ігару Шклярэўскаму, у якім гаворыцца пра тое, як “гонорар за стихи из районной газеты // пропивали юнцы в могилевском кафе”:

Их лирический пыл,  
по-весеннему резкий,  
звал в иные края.  
Вряд-ли знал Могилев,  
что один из них был —  
ну конечно, Шкляревский,  
а второй —  
это я, Изяслав Котляров.

Збалелая памяць І. Катлярова — гэта і памяць цэлага пакалення, якое сёння пераадолела свой сямідзесяцігадовы рубеж ці знаходзіцца ля самага ягонага парога. Прадстаўнікі яго — таксама сведкі самай страшнай, а, паколькі час няўлоўны ў сваёй хадзе, то хутка ім выпадзе стаць і апошнімі сведкамі яе, бо ўсё менее і менее непасрэдных удзельнікаў векапомных падзей. Таму сведчанні дзяцей вайны цягам часу і набываюць усё большую значнасць і важкасць.

Стэфан АЛЬМА

# «Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе!»

## (кніга ад добрага дзядзькі Віктара Гардзея)




Сваю “Малую дзіцячую Чырвоную кнігу” Віктар Гардзей падараваў маёй гадавалай дачушцы, так бы мовіць, на вырост. Бадай, бліжэй да школы спатрэбіцца. Але кніга з прыгожымі фотаздымкамі і малюнкамі спадабалася не толькі цікаўнай да ўсяго новага Ксеніі, але і мне.

Сёння пра экалогію, паступовае знішчэнне чалавекам прыроды гаворыцца нямала. Але якім чынам данесці гэтыя праблемы да дзяцей, вучняў малодшых і сярэдніх класаў? Ці лёгка будзе зацікавіць сённяшняе пакаленне Інтэрнэту і мабільнай сувязі харaством і разнастайнасцю жывой прыроды? Складана. Але не для Віктара Гардзея. Бо гэта далёка не першая кніга пісьменніка, якая адрасавана юнаму сучасніку. Віктар Канстанцінавіч ведае галоўны сакрэт стварэння такіх кніг: да свайго чытача неабходна адносіцца з павагай, як да роўнага. Вось і “Малая дзіцячая Чырвоная кніга” — па-сапраднаму дарослае выданне: з прадмовай, навуковымі артыкуламі і ілюстрацыямі, са звесткамі пра асобу аўтара і алфавітным паказальнікам напрыканцы.

У кнізе сабраны звесткі пра найбольш вядомых прадстаўнікоў беларускай фаўны. Паэт нагадвае нам пра тое, што ў міжнароднай практыцы фаўна падзяляецца на ахоўныя віды і тыя, што не патрабуюць спецыяльнай аховы. Прынцып падзелу аўтар параўноўвае са святлафорам “…так на чырвоную картку заносяцца жывёлы і птушкі, якія знікаюць ці ўжо зніклі, на жоўтую — віды, якія знаходзяцца на мяжы вымірання, і, нарэшце, на зялёнай картцы — жывёлы і птушкі, якіх у нас яшчэ досыць багата і якім нішто не пагражае”. Кніга Віктара Гардзея — чырвоная картка святлафора, яна папярэджвае нас пра небяспеку, што пагражае прыродзе, а значыць і нам, бо мы яе частка. У кнізе жывёлы і птушкі пададзены ў алфавітным парадку. Кожнаму з герояў аўтар прысвячае верш і невялічкі артыкул, у якім расказвае пра ўмовы жыцця, звычкі і нораў кожнага з іх.

Дарэчы, матэрыял для кнігі, як прызнаецца ў прадмове Віктар Канстанцінавіч, ён збіраў амаль два дзесяцігоддзі. Замаруджвала працу менавіта стварэнне вершаў. “Паспрабуй у кароценькім вершы апісаць у мастацкіх вобразах бадай ці не ўсю біялогію нейкага малавядомага паўзуна, матыля, кажана, птушкі, а да навуковай дакладнасці я акурат і імкнуўся”. Да таго ж з кожным са сваіх герояў аўтар хацеў “пазнаёміцца” асабіста. У гэтым дапамаглі шматлікія камандзіроўкі па Беларусі. Напрыклад, у Ляхавіцкім раёне аўтар у лясной глухамані пабачыў цэлы барсучыны гарадок, а каля Выганаўскага возера назіраў за палётамі арлана-белахвоста і чорных буслоў. Белавежская пушча і Бярэзінскі запаведнік увогуле сталі любімымі месцамі сустрэч паэта і яго будучых “чырванакніжнікаў”.

У дачыненні да кожнага са сваіх герояў аўтар выкарыстоўвае такі прыём, як адухаўленне. Тым самым пісьменнік хоча паказаць дзецям, што жывёлы і птушкі, як і мы, адчуваюць радасць, смутак, боль, яны могуць любіць і ненавідзець. Напрыклад, шэрага жураўля ў вершы В. Гардзея нярэдка “мучыць адзінота”.

Прыйдзе час,  
калі ў глушы лясной  
Азалеюць на дажджах каліны  
І ў нябёсах за прыціхлай Цной  
Адзавецца смутак жураўліны.

Зубр жа ў Віктара Гардзея вегетарыянец, а беркута з-за сваёй запаслівасці аўтар залічыў у дачнікі.

Бывае, рухне  
ад свайго ж цяжару,  
Але сям’я па тым жыллі  
не плача:  
У беркута, валадара абшару,  
Гняздо ёсць запаснае,  
быццам дача.

Чытаючы кнігу, разумееш: усе жывёлы розныя. Кожны з прадстаўнікоў нашай фаўны мае так бы мовіць свой менталітэт, характар і звычкі. Ёсць сярод жывёл і птушак калектывісты, напрыклад такія, як зубры, якія жывуць статкамі, ёсць і індывідуалісты: “жыве асела беркут адзінокі”.

У сваіх артыкулах Віктар Канстанцінавіч апісвае не толькі выгляд, месца жыхарства і побыт звяроў і птушак, а звяртае ўвагу і на некаторыя гістарычныя факты. Напрыклад, тлумачыць, якім чынам зубры запісаліся ў лік “чырванакніжнікаў”: “Зубр… Жывы сучаснік маманта. Калісьці ў Белавежскай пушчы хадзілі вялізныя статкі зуброў. Доўгія вякі ён быў аб’ектам палявання каранаваных асоб…”. Расказвае пісьменнік і гісторыі ўзнікнення назваў некаторых звяроў, птушак і насякомых.

Кружацца вакол палянкі  
І жаўтушкі, і бялянкі.  
Паміж іх лятае раннем  
Матылёк з высокім званнем.  
Кожны нам яго пакажа:  
Крылцы чорныя, як сажа,  
Па краях чырвоны пасак.  
Матылёк — нібы ў лапасах!  
Вось за гэта ён — ці ж мала? —  
Носіць званне адмірала.

Цікава? А то. Мне падаецца, інфармацыя такога кшталту будзе карыснай не толькі для школьнікаў, але і для дарослых. Напрыклад, для тых жа настаўнікаў, якім яна зможа дапамагчы зрабіць свае ўрокі прыродазнаўства больш пазнавальнымі.

Амаль у кожным артыкуле аўтар звяртае ўвагу на прыблізную колькасць пар жывёл, якія сёння пражываюць у нашай краіне. І гэта не сухія лічбы. Ахоплівае смутак, калі даведваешся, што, напрыклад, такіх прыгажунь, як еўрапейская рысь, у нас засталося крыху больш за 200 асобін, а гняздуючых пар арлана-белахвоста ўвогуле толькі каля сотні. Жахліва, што ж будзе далей, калі ўжо сёння некаторых са сваіх звяроў і птушак мы можам пералічыць па пальцах? Можа, прыйшоў час ад знішчэння перайсці да абароны нашай прыроды? “Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе!” Так сфармуляваў галоўную ідэю вершаў і замалёвак, змешчаных у кнізе, аўтар. І прызыў гэты, мне падаецца, звернуты не толькі да юнага, але і да дарослага чытача. Ва ўсялякім выпадку мяне ён крануў.

Зацікавілі і самі героі. Сярод іх сустракаюцца як абарыгены, так і “турысты”, што выпадкова завіталі ў нашу краіну. Ці ведалі вы, напрыклад, што некалькі разоў у мінулым стагоддзі на Палессі нашы продкі бачылі ружовага пелікана, а ў 1961 годзе ў Нясвіжскім раёне з’явіўся зусім незвычайны госць — фламінга.

Ляціць — бы выпусцілі з пальцаў  
Ружовы сполах у сутонь,  
Хоць “флама”  
ў тых жа партугальцаў  
Па сэнсе — полымны агонь.

Віктар Канстанцінавіч з такой любоўю піша пра сваіх “чырванакніжнікаў”, што і ў чытача выпадкова пачынаюць з’яўляцца свае “любімчыкі”. Мяне, напрыклад, скарыла сваёй элегантнасцю і пластыкай прыгажуня-драпежніца рысь. Яна ў вершы Віктара Гардзея, нягледзячы на свой круты нораў, прадстае клапатлівай матуляй.

Дзе нетра і густыя шаты,  
У нейкім берлагу сырым  
Чакаюць корму рысяняты,  
А колькі ж трэба пецярым!

І калі нешта ўжо здабыта,  
Прымчыцца рыссю ў родны дом  
Старая рысь і мяўкне сыта:  
— Вам, дзеткі, наша з кутасом!

Дачка Ксенія чамусьці ў якасці “любімчыка” абрала гогаля. Складана зразумець, чаму гадаваламу дзіцяці падабаецца тая альбо іншая рэч. Можа, вадаплаўная птушка нагадала Ксюшы качак, што жывуць на возеры ля нашага дома. А можа, вершык, які я прачытала ўслых, спадабаўся, кажуць жа, што сапраўдную паэзію чалавек успрымае падсвядома? Але дачка доўга не давала мне перагарнуць старонку: разглядала фотаздымак з птушкамі і нешта “шчабятала” на сваёй дзіцячай мове.

“Ад добрага дзядзькі В.Гардзея” — так падпісаў нам сваю кнігу аўтар. І сапраўды, кніга ў яго атрымалася не толькі цікавая і пазнавальная, а што самае галоўнае — добрая.

Вольга НІКОЛЬСКАЯ

Трывалае веданне і разуменне мастацкага твора патрэбны шырокаму колу людзей: выкладчыкам гістарычных, культуралагічных, філалагічных дысцыплін, будучым гісторыкам, культуролагам, філолагам, краязнаўцам, музейным работнікам, экскурсаводам. Без дасканала распрацаванай методыкі аналізу мастацкіх твораў тут, зразумела, не абысціся. Менавіта такая методыка прапаноўваецца аўтарамі вучэбна-метадычнага дапаможніка, старшымі выкладчыкамі кафедры тэорыі і гісторыі культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка Нінай Здановіч і Галінай Курыленкай.

# Методыка, якой не ставала

Вядома, што методыка аналізу павінна мець тэарэтычны і метадалагічны падмурак. Таму першы раздзел вучэбна-метадычнага дапаможніка слушна прысвечаны тэарэтычным асновам аналізу твораў мастацтва.

У наступным раздзеле — апісанне методыкі аналізу архітэктурных збудаванняў. Тут раскрываецца лагічная структура паняцця "архітэктура", дэталёва паказваюцца мастацкія сродкі архітэктуры як віду мастацтва, прапануецца і абгрунтаваныя крытэрыі градацыі архітэктурных збудаванняў паводле аспектаў: функцыянальнае прызначэнне будынка, яго інжынерна-канструкцыйная падаснова, мастацкія якасці.

Пры азнаямленні з гэтай часткай дапаможніка чытач атрымае неабходныя звесткі пра асноўныя стылі і кірункі ў сусветным дойлідстве: агульнаеўрапейскія архітэктурныя стылі, асаблівасці ўсходняй архітэктуры. З улікам геаграфічнага становішча Беларусі, аўтары робяць акцэнт на першы блок. Тут па-майстэрску выказваецца ідэя дыялектычнага адзінства агульнага і асаблівага, у храналагічнай паслядоўнасці прыводзяцца кароткія звесткі не толькі пра "вялікія", але і пра самыя вядомыя з "малых" і мясцовых архітэктурных стыляў.

Асобная частка раздзела прысвечана ключавым прыкметам архітэктурных стыляў у Беларусі. Яна ўключае базавую табліцу і навукова-папулярны нарыс "З гісторыі мастацкай стылістыкі". Табліца "Архітэктурныя стылі ў Беларусі" змяшчае характарыстыку канкрэтных стыляў па параметрах: час, элементы, тып пабудовы, адметнасці. Названы тут і айчынныя, і замежныя дойліды — аўтары праектаў пабудоў і перабудоў важнейшых архітэктурных помнікаў Беларусі.

У трэцім раздзеле прапануецца методыка аналізу твораў жывапісу, паказваецца яго жанравая разнастайнасць і сродкі мастацкай выразнасці. Матэрыял арганізаваны такім чынам, што студэнту будзе нескладана зразумець прыкметныя рысы жывапісу як віду выяўленчага мастацтва, адрозненне паміж станковым, манументальным, дэкаратыўным жывапісам. Тут сістэматызуецца інфармацыя пра асноўныя разнавіднасці маляўнічай тэхнікі, даецца аналіз і апісанне жанраў і сродкаў мастацкай выразнасці ў свецкім жывапісе. У якасці адпаведных жанраў аналізуюцца партрэт, нацюрморт, прасочваецца месца каларыта, кампазіцыі, малюнка ў творчым працэсе стварэння карціны. Зразумелую цікавасць уяўляе змешчаны тут кароткі даведнік па стылях і кірунках у вы-



яўленчым мастацтве.

Рэлігійнаму жывапісу прысвечаны асобны параграф, які ўключае два падпункты: "Асноўныя сюжэты і тэрміны ў іканапісе і фрэскавым жывапісе" і "Характарыстыка беларускай школы іканапісу: храналагічныя і канфесіянальныя адрозненні". Тут падрабязна прадстаўлены суб'екты манументальнага фрэскавага жывапісу: фрэска і мазаіка, падаецца выразная градацыя іканапісу як ключавога суб'екта станковага мастацтва (якая не можа не ўражваць). У рэчышчы дадзенай градацыі выкладзены асноўныя сюжэты іканапісу, звязаныя з Божай маці і з Хрыстом. Гэтая частка ўзбройвае студэнта і ясным тлумачэннем спецыяльных тэрмінаў, якія маюць дачыненне да іканапісу.

Звяртаецца ўвага тут і на развіццё жывапісу ў Беларусі ў XIX стагоддзі. Аўтары маюць рацыю, калі падзяляюць гэты адрэзак часу на два перыяды: першую палову XIX стагоддзя і другую палову XIX стагоддзя. Пры асвятленні кожнага перыяду паказваюцца ўнутраныя і знешнія дэтэрмінанты, дэталёва разглядаюцца канкрэтныя стылі, даецца найбольш істотная інфармацыя пра славутых беларускіх жывапісцаў.

Чацвёрты раздзел прысвечаны методыцы аналізу твораў скульптуры. У ёй даецца выразнае ўяўленне пра круглую скульптуру і рэльеф, прапануюцца неабходныя звесткі пра манументальную, манументальна-дэкаратыўную, станковую скульптуру і скульптуру малых форм, паказваецца месца скульптуры ў мастацкім інтэр'еры, яе суаднесіны з іншымі відамі мастацтва. Дадаткі лагічна дапаўняюць асноўную частку дапаможніка, мэтанакіравана садзейнічаюць комплекснаму засваенню мастацтвазнаўчых ведаў.

Такім чынам, праца Ніны Здановіч і Галіны Курыленкі — сур'ёзны ўнёсак у метадычнае забеспячэнне навучальнага працэсу, выдатнае апірышча для культуралагічнай самаадукацыі.

Міхаіл СТРАЛЕЦ

# Чакаем шэдэўраў…

Гоўзіч, І. М., Шаулякова-Барзенка, І. Л. "Шукаем шэдэўры!.. (Вопыты літаратурных даследаванняў)". — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2010. — 84 с.

Ва ўмовах інфармацыйнага буму і "тэхнічнай інтэлектуалізацыі" сучасных дзяцей і моладзі (многія першакласнікі дасканала валодаюць камп'ютарамі) абвастраецца неабходнасць у якасна новай па змесце і па форме навуковай і навукова-метадычнай літаратуры.

Гэтая навізна ўключае ў сябе: а) акцэнтацыю на новым ці зусім невядомым; б) ненавязлівую ўстаноўку на самастойны пошук інфармацыі; в) займальнасць "выкладу" матэрыялу, арыентацыю на элементы гульні, што "аздабляюць" сухія навуковыя дадзеныя, зводзяць да мінімуму дыдактызм. Тром гэтым вызначальным фактарам навізны і адпавядае падрыхтаванае І. М. Гоўзіч і І. Л. Шауляковай-Барзенкай выданне "Шукаем шэдэўры!.. (Вопыты літаратурных даследаванняў)".

Навукова-даследчыя работы старшакласнікаў… Калі чуеш гэты выраз — змагаешся з супрацьлеглымі пачуццямі: з аднаго боку, несумненна таленавітая моладзь мае права (і больш таго, павінна) займацца самастойным даследаваннем літаратурных з'яў; з другога – часта сутыкаешся з поўным няўменнем аргументаваць свае выказванні, выкладаць іх згодна з правіламі, даходліва, лагічна і дакладна. Пацвярджэнне названых акалічнасцей штогод атрымліваеш пры правядзенні і навукова-практычных канферэнцый старшакласнікаў, членам журы якіх з'яўляюся больш за сем гадоў.

А справа ў тым, што да гэтага часу ў школьнай практыцы няма адзінага падыходу да арганізацыі вучнёўскага даследавання, афармлення бібліяграфічнага спісу і нават тэхнічных аспектаў афармлення работы. Атрымліваецца, што і тэма вучнёўскага даследавання актуальная і несумненна цікавая, і прэзентацыя трымае слухачоў у пастаяннай увазе, але працы бракуе ўласна навуковасці.

Аўтары выдання "Шукаем шэдэўры!.." здолелі, зыходзячы з уласнага і чужога вопыту, прадставіць працэс літаратуразнаўчага пошуку як занятак не толькі складаны і нялёгкі, але і цікавы, займальны, даступны кожнаму, хто не хоча абмяжоўвацца падручнікавым мінімумам інфармацыі. "Лабараторыя" самастойнага руху да глыбокага пазнання мастацтва слова раскрываецца ў кнізе падрабязна і грунтоўна ва ўсіх прынцыпова важных момантах (выбар тэмы, прадмета і аб'екта даследавання; віды навукова-даследчых работ па літаратуры; збор інфармацыі; структура работы і яе афармленне і інш.).

У дапаможніку даецца кваліфікаваная ацэнка асноўных відаў навукова-даследчых работ, што выконваюцца вучнямі выпускнога класа (рэфераты, даклады, праекты), кампактна пададзена бібліяграфія да кожнага раздзела. Таму выданне "Шукаем шэдэўры!.. (Вопыты літаратурных даследаванняў)" выклікае несумненную цікавасць не толькі ў настаўнікаў-практыкаў (дарэчы, і не толькі філолагаў) і старшакласнікаў, але і ў студэнтаў, масавага чытача, для якіх стануць карыснымі і ўзоры заданняў, прапанаваных для выканання пасля тэарэтычнага матэрыялу кожнай тэмы.

Аўтары выдання надалі належную ўвагу і "тэхнічным пытанням", якія абыходзілі іншыя навукоўцы і метадысты: даюцца ўзоры структуры навукова-даследчых работ, афармлення бібліяграфічнага спісу; дакументаў, неабходных для арганізацыі і правядзення навуковых канферэнцый (інфармацыйнае пісьмо, заяўка на ўдзел, праграма форуму і інш.).

Асаблівую ўвагу хочацца звярнуць на метадычныя рэкамендацыі, якія носяць развіццёвы характар, вучаць маладых даследчыкаў думаць, супастаўляць розныя з'явы і факты літаратурнага працэсу. Таму што, як справядліва сцвярджаюць аўтары, "любы чалавек, які хоча адчуць сябе не "трэскай" на хвалях жыцця, але сапраўдным стваральнікам свету наўкола сябе, не можа абмяжоўвацца тымі ведамі, тым вопытам спасціжэння рэчаіснасці, які яму прапануюць у "гатовым выглядзе" іншыя людзі (настаўнікі, бацькі, равеснікі)".

Варта адзначыць таксама дасканалы адбор мастацкіх твораў і тэм літаратуразнаўчых даследаванняў па раздзелах, пераналіках. Разам з тым, у выданні закранаюцца і дыскусійныя праблемы, актуальныя пытанні сучаснага літаратуразнаўства (да прыкладу, "Рымэйк як жанр сучаснай драматургіі (п'есы Сяргея Кавалёва)", "Рамантызацыя як важнейшая адзнака індывідуальна-творчага стылю Людмілы Рублеўскай", "Постмадэрнізм па-беларуску: іронія і гульня ў паэзіі Андрэя Хадановіча", "Сучасны беларускі дэтэктыў: вытокі і здабыткі жанру", "Фантастыка і фэнтэзі ў сучаснай беларускай літаратуры" і інш.).

Яшчэ адным станоўчым бокам выдання "Шукаем шэдэўры!.." з'яўляецца аўтарская ўстаноўка на рэалізацыю міжпрадметных сувязей (з культуралогіяй, мастацтвазнаўствам, эстэтыкай, педагогікай, рыторыкай і інш.), і, самае галоўнае, змяшчэнне кароткага даведніка па тэорыі літаратуры, у якім надзвычай дакладна, кампетэнтна і даступна (!) тлумачацца асноўныя паняцці, веданне і выкарыстанне якіх несумненна неабходнае для напісання якаснай навуковай работы.

Аўтары здолелі "не занавуковіць" кнігу, а зрабіць яе займальнай (адзін са свядома выкарыстаных І. Гоўзіч і І. Шауляковай-Барзенкай прыёмаў пісьма):

"Нарэшце, калі Вам падаецца, што сусвет гатовы да сустрэчы з адшуканымі асабіста Вамі шэдэўрамі, прапануем папрацаваць над канцэпцыяй і зместам сайта, прысвечанага найноўшай беларускай літаратуры — творчасці сённяшніх паэтаў, празаікаў, драматургаў, крытыкаў. Урэшце, Вы — бясстрашны паляўнічы за шэдэўрамі — самі можаце стаць не толькі аўтарам сайта, але і яго "персанажам";

"Калі у Вас і ў вашых аднакласнікаў, што таксама спрабуюць сябе ў ролі даследчыкаў літаратуры, атрымалася сфармуляваць не адну, але некалькі новых тэм, якія падаюцца Вам арыгінальнымі і актуальнымі, Вы можаце правесці своеасаблівую "выставу-кірмаш" тэмаў. Магчыма, камусьці з даследчыкаў-пачаткоўцаў Вы дапаможаце знайсці тую тэму, якой ён так і не здолеў адшукаць; з другога боку, у Вас будзе магчымасць параўнаць свае здабыткі з плёнам сваіх калег".

З пэўнасцю можна сказаць: нарэшце з'явілася выданне, якое запоўніла прагал у методыцы напісання навукова-даследчых работ па літаратуры (і, як адзначалася вышэй, па іншых вучэбных прадметах), спрыяе павышэнню агульнага ўзроўню выкладання слоўнага мастацтва.

Ад сябе, як выкладчыка, хочацца пажадаць аўтарам выдаць працяг работы – магчыма, у выглядзе праграмы, дапаможнікаў для вучняў і настаўнікаў; а пісьменнікам – напісаць новыя творы, якім вучні змогуць прысвяціць не адно адмысловае даследаванне.

Святлана СЫЧОВА

# Рыфмы з водарам лесу

Бадай, няма ніводнага паэта, які б не захапляўся роднымі краявідамі, увасабляючы потым убачанае ў вершаваных радках. А калі ты да ўсяго яшчэ і прафесійны лесавод, то тут, як кажуць, і карты ў рукі.

Сёлета ў мінскім выдавецтве "Смілтак" выйшла другая кніга вершаў Міхаіла Новікава пад той жа назвай, што і першая — "По бескрайним далям, по лесным просторам". І хоць я не магу пагадзіцца з аўтарам у такім паўтарэнні, аднак гэта ўсё ж яго ўласнае права. Вершы з другой кнігі, праўда, не паўтараюць першую, хай сабе і не выходзяць з яе тэматычнага поля. Зноў — Радзіма, вайна, лес, прырода. Тым не менш, паэт і на гэты раз знаходзіць свае, адметныя вобразы, каб паэтычным радком данесці да чытача ўбачанае, пачутае, перажытае. Зрэшты, першы раздзел так і называецца "О Родине и природе". І гэта сімвалічна, бо Радзіма і прырода для М. Новікава — паняцці непадзельныя, на ўсё жыццё злучаныя адно з адным, як два берагі ракі вадой.

Між іншым, пра што б і што б ні пісаў паэт, амаль у кожным вершы, хай сабе толькі фонам, нязменна прысутнічае і той ці іншы краявід. А ёсць у кнізе і выключна пейзажная лірыка, прынамсі, цыкл вершаў, прысвечаных кожнаму з дванаццаці месяцаў года. Прытым для кожнага з іх аўтар знайшоў свае, адметныя фарбы. Вось як, напрыклад, ён характарызуе лістапад:

Притихли рощи вековые,
Остыли хмурые поля,
Поникли травы луговые,
Бесцветны небо и земля.

Лишь изумруд хлебов озимых
Посолен инеем с утра:
Пришло капризное предзимье —
Глухая, стылая пора.

У снежні ў паэта мароз "стёкла оконные метит", у лютым "на белый снег роняют сосульки чистую слезу", у сакавіку "то сыплет снег, то солнце светит", у чэрвені "на заливном лугу, цветущей ниве увидеть можно ветер наяву, когда переливает он, счастливый, как волны, изумрудную траву", у жніўні "по лесам кусты калины костры холодные зажгли"…

У зборніку ёсць цэлы раздзел сатырычных мініяцюр з прэтэнцыёзнай назвай "Человек, будь всегда человеком". У іх аўтар высмейвае невуцтва, зазнайства, кар'ерызм, падхалімства, прыстасавальніцтва, хабарніцтва, п'янства і іншыя заганы нашага грамадства. І нярэдка робіць гэта даволі віртуозна, як сапраўдны майстар сатырычнага цэху. Шкада толькі, што напісаны яны па-руску, а то маглі б знайсці месца і на старонках вядомага альманаха "Вожык". Як, дарэчы, гэта:

"Ты женат?" —
спросил портной.
"Да", — сказал заказчик.
"Значит, вставим потайной
В пиджаке карманчик".

На завяршэнне кнігі мы адкрыем Міхаіла Новікава яшчэ і як таленавітага мастака: тут змешчаны фотарэпрадукцыі 12 яго карцін са своеасаблівымі паэтычнымі каментарыямі. І гэта, наколькі я бачыў пры наведванні гасціннага дома Міхаіла Кірылавіча і Тамары Міхайлаўны (вершы, прысвечаныя жонцы, таксама ёсць у кнізе), далёка не ўсе палотны мастака. Як і не ўсё з напісанага, што размясцілася пад вокладкамі і першай, і другой кніг "По бескрайним далям, по лесным просторам". А значыць, няма сумнення, што будзе і працяг. Тым больш, што Міхаіл Новікаў па-ранейшаму застаецца ў шчаслівым палоне прыроды.

Анатоль ЗЭКАЎ



## Ніна МАЕЎСКАЯ

* * *

Ходзіць восень верасамі,
Мізарнеюць, тухнуць дні.
За туманам, нібы ў замець,
Сцежак не відно ані.

Я сама, як восень гэта:
То расплачуся дажджом,
То з ахапкам пахкіх кветак,
Як вясна, прыйду ў наш дом.

То палю кастры начныя,
Гавару ўсё — неўпапад.
Сцежкі мераю лясныя —
Лістапад мой, лістапад…

* * *

Старонкі новых кніг
І восень на дваіх —
Якое шчасце гэта!
Асенні парк прыціх,
Нібы і ён спасціг,
Што ў свеце ёсць любоў,
Якой не трэба слоў, —
Даволі сціплых кветак.

О, хрызантэмаў пах…
І вершы па начах
Яшчэ да Вас імкнуцца.
І новай стрэчы рад,
Цяплее мой пагляд,
І дум плыве рака,
І прагне так рука
Да Вашай дакрануцца.

* * *

А дом знямеў — ні гуку.
І пульсам б'ецца час.
Я думала — разлука
Яшчэ ўратуе нас.

Як вязень, адзінока
Хаджу з кута у кут.
Глядзіць праз краты вокан
Ноч сведкаю пакут.

Іх лёс і нам адмераў
Удосталь на дваіх.
Тваёй любоўю, верай
Збаўлялася ад іх.

Я расхіну, фіранкі:
Журбота, адпусці!
Луню — сівому ранку
Дазволю ў дом зайсці.

Любоў —адна зарука
Нанова ўсё пачаць…
Не вер мне, што разлука
Нас можа ўратаваць.

* * *

Клён на ветрах адзінока залее —
Некаму выказаць сум, прыгарнуцца.
Шумная колісь была тут алея.
Зараз — няма да каго ўжо хінуцца.

Толькі адзін ён на восеньскай слоце,
Мерзнуць і шэрхла нямеюць далоні.
Ветрам сагнуты,
стаіць у маркоце.
Будзіць сініца яго,
— звоніць, звоніць…
Бачыш ты, мусіць,
агністы мой клёне,
Не? Азірніся — і ўсё зразумееш.
Гнуткія дрэўцы з'явіліся сёння —
Новая будзе шумець тут алея.

* * *

Першая восені нашай прыкмета —
Сівыя дажджы і пажухлае лісце.
Дзесьці ж далёка ўсё лета і лета,
І сонца высока, высока ў зеніце.

Мора там хвалі
пагрозліва ўздыбіць,
І вецер нап'ецца шалёнай свабоды.
Цёнем мільгне велізарная рыба,
І пойдзе падлодкай
у цёмныя воды.

Птушкі ж ляцяць…
І важак над лясамі
Вядзе іх. Кругі ён сцярожкія робіць.
Марак, паветра з крутымі вірамі
Натомленым крылам
птушыным не собіць.

Першая восені
нашай прыкмета —
То горычны плач
жураўліных расстанняў.
Дзесьці няхай сабе лета і лета,
Нам — радасць сустрэчаў
і вёснаў чаканне.

* * *

Верш, як птушку з рукі, адпусціла.
Ляці, поўны светлых надзей.
Шэптам вецер пыхлівы прасіла:
Нясі ты яго да людзей.

Можа, дзесьці яго хто прывеціць,
Прашэпча ў знямелай цішы.
Ці азябла насіць будзе вецер,
Пакуль лістапад шамаціць.



## Мікола КУТАС

* * *

Выспеў жнівень пад небам высокім,
Слова ХЛЕБ так і чуецца спрэс.
Слова гэтага веліч і сэнс
Ад зямлі, ад яе ўсе выткі.
Земляробы шчыруюць увішна,
Плуг і поле яднаюць вякі,
І баразны вядуць, як радкі, —
Кожны быццам гісторыю піша.

* * *

Ад пагляду твайго я хмялеў,
Думаў: шчасце мне выслала позву.
Ды, урэшце, узбіўся на прозу,
А я ж вершаў, я вершаў хацеў.
Мроіў: будзе арліны палёт,
Напіналіся мускулы, жылкі.
Пасмяяўся б, каб ведаў народ,
А народу не трэба памылкі.

* * *

На спатканні да Замкавай вежы
Бегаў-лётаў, не скажаш — "хадзіў".
Думаў: сэрцу твайму я належу.
О які старамодны наіў!

Пэўна, збоку глядзеўся, як школьнік.
Не пабачыла ты маіх слёз,
Бо з'явіўся аднойчы свавольнік,
Зняў з нябёсаў, расчуліў і… звёз.

* * *

Мне б тыя словы,
Што ты шаптала,
Слухаць нанова,
А часу так мала.

У вочках-святліцах
Шукаць паратунку,
І наталіцца
Адным пацалункам.

Ды першацветам
Вясна адбуяла.
Следам і лета
Гоні пажала…

Сцежкі юнацтва,
Сцежкі Нясвіжа,
Ці з вамі баяцца
Мне восені рыжай?

* * *

Прыязджай у Альбу летам,
Мо пагодзімся на тым —
Станеш бавіць час з паэтам,
Не старым, не маладым.

Каб катацца на мядзведзях —
Не магнат я, даваду.
Пакажу, як месяц-лебедзь
Цэдзіць з возера ваду.

Пакажу Нясвіжскі замак.
Паланянкаю яго
Ты захочаш быць таксама
Праз хвілінаку ўсяго.

Ты майго натхнення панна.
Як радкі мне зрыфмаваць,
Каб у схованках іх туманных
Ты змагла сябе пазнаць?

Маю згадку — не для здымка —
Свой ад'езд назад прасціш.
Нас прытуліць у абдымках
І не выпусціць Нясвіж.



## Анатоль ТРАФІМЧЫК

* * *

У сяло прыехаць памаліцца,
Бы ў царкву схадзіць на схіле дзён.
Уздыхаць, маўчаць і ў ваканіцах
Бачыць абразы святых імён.

Сена пах і птушкалетні шчэбет
Стануць як прычасце для мяне,
Што знайшоў не ў рэлігійным хлебе,
Ісцінай, якая не ў віне.

Нашарку і людзі, і каровы
Дома ўжо. Вячэраюць. Але
Тых і тых бег часу нездаровы
Пакідае меней у сяле.

Вось такой сыходзіш, вёска, з явы,
Нібы перакінуўшыся ў храм.
Дзеці ж д'ябла крэмсаюць канавы,
Як сярпом па сэрцу рэжуць нам.

## Верш кан'юнктуршчыка

Кан'юнктурай
сваю
душу
Дзеля выгады
я
прыдушу.
Каб спакой
кіраваў
галавой,
Я закіну
пад прыпек
габой.
Пастараюся
шчэ
да зары
Творчы сверб
гэтай ночу
зарыць,
Каб назаўтра
яго
не знайсці
І прачнуцца
цвярозым
ці
Не прачнуцца
зусім
у жыцці.

Толькі Бог а ці Д'ябал ізноў
Не спыняе са мною размоў,
Хоць няма ўжо даўно тых слоў,
Што пачаткам былі асноў.
Але скончацца
словы –
і
Перастануць
сляваць
салаўі,
Не чутно
будзе песень
жняі
І апынецца
свет
на краі...

Вымагае назаўтра:
"Пішы!" –
Кан'юнктура маёй
душы.

## У вянок Васілю Гадульку

І я паціху-памалу,
намацваючы ў сумётах сцежку,
пачаў выбірацца адтуль.
А ён застаўся...
М. Купрэеў

Мы – пайшлі далей. А Ён – застаўся там.
Зараз, мусіць, пасвіць не кароў – Пегаса.
Тут: развеяўся Ім спалены мультан,
Перасохла шклянка, і не помніць маса,

Як звычайнага: улетку – пастуха,
А зімой – вартаўніка ў сваім саўгасе.
Засталася тут адно Яго туга,
А туга, вядома ж, непатрэбна масе.

Мы пайшлі далей, мінаючы сумёт
За сумётам – кожны па сваёй сцяжыне.
Доля кожнага – не цукар і не мёд,
І са свету кожны –
прыйдзе час – ды згіне.

Гэта – будзе. Толькі потым. А пакуль
Не сагрэць душу, замерзлую ў сумётах.
З лабірынта нашых трантаў
і каструль
Не адчуць чужое блізкае самоты.
Мы пайшлі далей. І самі час-порэ[1]
Неахайна йдзём
па слёзна-росных травах,
На якіх праменьчык сонца дагарэў
Збітай кропелькай –
самотна і крывава.

## У Кіеве

Тут пахне дарогамі й часам.
У горадзе вечна старым
Забытым становіцца Рым
І ты на дарогах – сам-насам.

Тут засень — сінонім каштанаў,
І, пэўна, не церпяць маны
Святое Сафіі званы,
Для вечнасці стаўшы пашанай.

Пад кобзу сумуе тут тэнар,
І плачуць па нас абразы
Рачулкамі боскай расы,
І заўтра не быць пераменам.

Дняпро тут маўкліва глыбокі,
З праборамі выспаў-чупрын
Каўтае жыццёвы палын,
Разлівамі чэшучы бокі.

Заснуўшы над горадам, месяц
Прысніць, што ў любою пару
Нясе аж пад Кіеў Дняпру
Свой дух як даніну Палессе.

[1] Часам (палескі дыялект).



Фота Алеся Высоцкага

## Альбом

# Компас у свеце беларускага жывапісу



Фотаальбом "Сучасны беларускі жывапіс. XXI стагоддзе" толькі-толькі пабачыў свет у выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Першыя экзэмпляры кнігі ўжо былі прэзентаваны на XXIII Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, а таксама падчас Дня беларускага пісьменства ў Хойніках. У альбоме адлюстравана творчасць ста лепшых беларускіх мастакоў, якія працуюць сёння ў галіне жывапісу. Кансультатыўную і экспертную падтрымку аказваў Беларускі саюз мастакоў. Структура кнігі — кароткая біяграфія мастака на беларускай, рускай і англійскай мовах плюс 4 — 7 рэпрадукцый іх работ. Больш падрабязна распавядае ўкладальнік выдання Кацярына Аксёнава.



— Кацярына Сяргееўна, у чым унікальнасць новай кнігі? Чым адметнае выданне "Сучасны беларускі жывапіс. XXI стагоддзе" ў параўнанні з энцыклапедычным даведнікам "Беларускі саюз мастакоў" ("Кавалер Паблішэрс", 1998 г.).

— У наш інфармацыйны час 12 год — гэта, лічыце, цывілізацыйны прарыў. За гэты перыяд у мастацтве з'явіліся не толькі новыя яркія імёны, але і плыні. Да таго ж у Беларусі ніколі не выдаваўся фотаальбом жывапіснага мастацтва такога маштабу.

Выданне "Сучасны беларускі жывапіс. XXI стагоддзе" — першы альбом з творчых праектаў выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Зараз распачалася праца над фотальбомам "Сучасная беларуская скульптура. XXI стагоддзе", рыхтуюцца таксама фотаальбомы па іншых відах мастацтва.

Фотаальбом жывапісу — своеасаблівая прэзентацыя ста беларускіх жывапісцаў. У кнізе ёсць творы мэтраў, якія паўплывалі на фарміраванне традыцый айчыннай мастацкай школы, на развіццё сучаснага беларускага жывапісу, ёсць і работы маладых мастакоў, якія ўжо сёння з'яўляюцца ганарам Беларусі, іх талент прызнаны на прэстыжных міжнародных конкурсах і выстаўках.

— Якім чынам вы сталі складальнікам кнігі? Ці ўпершыню сутыкнуліся з такой працай?

— Паціху, маленькімі крокамі іду я да сваёй мары маленства — стаць пісьменнікам (смяецца). Спачатку друкавала нататкі ў раённай газеце ("Дзянніца" Шчучынскага раёна), пасля вучылася на факультэце журналістыкі БДУ. Трапіла на практыку ў Грамадскі прэс-цэнтр Дома прэсы, дзе было шырокае поле для творчасці. Станаўленне маладых спецыялістаў праходзіла пад кіраўніцтвам апантаннага прафесіяй чалавека — Таццяны Бяловай, якая сёння ўзначальвае выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Яна стала маім творчым настаўнікам і, дарэчы, прапанавала мне працу над новым праектам.

Першыя кнігі, у выданні якіх я прымала ўдзел, — "Моладзь за моду на здароўе" і "Дзеці Беларусі. Пасланне XXI стагоддзю", потым рэдагавала вучэбную маладзёжную газету "Галасы маладых". З цягам часу Прэс-цэнтр стаў рэалізоўваць "дарослыя" выдавецкія праекты: "Мінск квітнеючы", "Беларусь алімпійская", серыя фотаальбомаў "Рэгіён".

"Сучасны беларускі жывапіс" — выданне, дзе я ўпершыню з'яўляюся ўкладальнікам. А гэта — вялікая адказнасць, бесперапынныя роздумы. Нават зараз, калі праца над фотаальбомам завершана, думаецца: як ён будзе ўспрыняты, якое жыццё чакае кнігу? Хто з мастакоў-сучаснікаў сапраўды ўвойдзе ў гісторыю айчыннага і сусветнага мастацтва?

Праца над праектам такога кшталту — камандная, і я вельмі ўдзячная выдавецтву за падтрымку. Сапраўдны прафесійны майстар-клас дала мне Ганна Малей, вопытны энцыклапедыст, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва, якая вельмі тактоўна вучыла мяне і вяла праз увесь праект.

— Вы, як аўтар і складальнік, працавалі з мастакамі, вырашалі лёс таго ці іншага твора…

— Фотаальбом выношвалі і песцілі, як сапраўднае дзіця, амаль дзевяць месяцаў. Гэта быў доўгі і складаны працэс, але, калі любіш тое, чым займаешся, то гэта толькі ў асалоду. Праца над выданнем пашырыла мае веды, узбагаціла эмоцыямі і, канечне, пазнаёміла з цікавымі творчымі людзьмі, якія сталі для мяне адкрыццём.

Лёсы твораў вызначаў сам мастак. Поўная свабода — мы не аддавалі перавагі канкрэтнаму стылю, тэхніцы, не мелі на мэце жанравую аднатыпнасць. Галоўнае — паказаць лепшае з сучаснага беларускага жывапісу, які ёсць жывым арганізмам, разнастайным і рознахарактарным. Выбраныя творы дэманструюць як лепшыя традыцыі айчыннай мастацкай школы, так і яе адкрытасць да эксперыментаў, сэнсавых пераўтварэнняў, эстэтычных навацый.

— Чаму паўстала неабходнасць стварэння такой кнігі? У прынцыпе, гэта — таксама даведнік?

— Мне шкада, калі так атрымалася. Бо, па-першае, гэта фотаальбом, які дэманструе багацце беларускага сучаснага жывапісу. Па-другое, гэта компас у свеце мастацтва, які разлічаны як на суайчыннікаў, так і на замежнікаў. А такое выданне, я паўтаруся, з'явілася ўпершыню.

— Кніга атрымалася яркай, багата ілюстраванай: шмат рэпрадукцый, але даволі лаканічны расповед пра творцаў. Чаму быў абраны менавіта такі фармат?

— Выданне энцыклапедычнае — і гэтым усё сказана. Сто мастакоў. Як быць? У аднаго творчая біяграфія – 50 гадоў, у другога — пяць, а прызнанне амаль аднолькавае. Таму і сухая, дакладная мова. Без эмоцый. Эмоцыі ў творах. Глядзіце і вызначайцеся. Я імкнулася абудзіць цікавасць і жаданне пайсці ў музей на выставу і спазнаць сапраўдныя творы, а не проста задаволіцца прыгожымі рэпрадукцыямі. Калі ідзе размова пра твор, то лепш адзін раз убачыць, чым шмат разоў пра яго пачуць. А знайсці больш падрабязную інфармацыю пра мастака — не праблема. Удзельнікі праекта пазначылі электронныя адрасы сваіх сайтаў і электронных пошт, дзякуючы чаму выданне дае магчымасць дыялога між аўтарам і прыхільнікам яго творчасці. Акрамя таго, у альбоме ўпершыню сабрана даведачная інфармацыя аб усіх культурных і грамадскіх установах Беларусі, дзе рэгулярна праходзяць мастацкія выставы. Такім чынам, фотаальбом мае яшчэ і прыкладны характар.

Гутарыла Алеся ЛАПІЦКАЯ





На здымках: ілюстрацыі да кнігі "Сучасны беларускі жывапіс. XXI стагоддзе" — рэпрадукцыі карцін Віктара Альшэўскага "Шлях з Пальміры ў Мір"; Валянціна Губарава "Птаха"; Ягора Батальёнка "Бераг".

## Пад вокладкай




1. Колас, Я. Збор твораў. У 20 т. Т. 10. Паэмы "Рыбакова хата", "Суд у лесе", "Адплата" / Якуб Колас; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2010. — 597 с.

У дзясяты том Збору твораў народнага пісьменніка Беларусі ўвайшлі паэмы "Суд у лесе", "Рыбакова хата", "Адплата". Паэмы "Суд у лесе" (напісана ў 1942 годзе) і "Адплата" (1944 г.) прысвечаны беларускім партызанам, іх змаганню з фашысцкімі захопнікамі. У паэме "Рыбакова хата" (1947 г.), за якую Якуб Колас быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй СССР, распавядаецца пра жыццё беларусаў пад уладай Польскай дзяржавы.




2. Гапееў, В.М. Урокі першага кахання: аповесці / Валерый Гапееў. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 192 с.

У цэнтры ўвагі новай кнігі серыі "Пераходны ўзрост" — сучасныя падлеткі. У жыцці герояў аповесцей Валерыя Гапеева важную ролю адыгрывае камп'ютар, і ў прыватнасці зносіны праз сусветную сетку Інтэрнэт. Яны "сядзяць на форумах" і ў сацыяльных сетках, спрабуюць зарабіць грошы на спецыяльных сайтах і рыхтуючы рэфераты для аднакласнікаў. Для разумення аповесцей бацькамі і людзьмі больш сталага веку аўтар нават стварыў спецыяльны слоўнік камп'ютарных тэрмінаў. Так, героі кнігі — падлеткі новага пакалення, але па сутнасці сваёй застаюцца ўсё тымі ж падлеткамі, са сваімі праблемамі, шматлікімі пытаннямі, на якія яны і спрабуюць знайсці свае адказы.




3. Клюйко, Д.О. Приключения Рапабенирапа и Заскорузла: сказка / Дарья Клюйко; — худож. Наталья Четкова. — Минск: Мон литера, 2010. — 78 с.

Прыгодніцкая казка маладой беларускай пісьменніцы Дар'і Клюйко прыйдзецца да густу не толькі маленькім чытачам, але і іх бацькам. Яна вучыць дзяцей быць уважлівымі, успрымаць не толькі паўсядзённы, але і чароўны бок свету. Як сцвярджае аўтарка ў прадмове, з героямі казкі яна сябруе ўжо даўно, разам з імі перажыла шмат незабыўных прыгод. У сваю чаргу Рап і Заскарузл расказалі Дар'і столькі цікавых гісторый, што іх хопіць не на адзін том. У гэтай жа казцы чытач пазнаёміцца з цікавымі героямі і здзейсніць разам з імі незабыўнае падарожжа.




4. Зарицкий, Николай. Высокая волна / Николай Зарицкий. — Минск: Кнігазбор, 2010. — 108 с.

Першай і, на жаль, апошняй з'яўляецца кніга вершаў "Высокая волна", якую пасля заканчэння зямнога шляху журналіста Мікалая Зарыцкага выдалі яго блізкія. Але, як піша ў прадмове да зборніка Юрый Сапажкоў, "добрыя паэты не сыходзяць". Чытач не застанецца абыякавым да сэрца аўтара, якое адкрываецца на высокай хвалі сапраўдных пачуццяў: любові да маці, жанчыны, захаплення прыгажосцю роднага краю і адказнасці за кожную жывую істоту.




5. Лавкрафт, Говард. Ужас в музее / Говард Лавкрафт. — Москва: Эксмо, Домино, 2010. — 672 с.

Говард Філіпс Лавкрафт пры жыцці не апублікаваў ні адной кнігі, але стаў маяком і арыенцірам цэлага жанру, кумірам як шырокіх чытацкіх мас, так і інтэлектуалаў, а яго апавяданні, поўныя загадак і нечаканасцей, — крыніцай натхнення для кінематаграфістаў. Сам Борхес захапляўся яго творамі, у якіх месца чалавека — на далёкай перыферыі схемы пабудовы сусвету, а сілы надчалавечыя выклікаюць у неасцярожных свяшчэнны жах. Новы зборнік апавяданняў Говарда Лавкрафта ўключае творы, напісаныя ім у сааўтарстве. Многія з іх перакладзены на рускую мову ўпершыню, астатнія ж публікуюцца або ў новых перакладах, або ў новай, дакладна выверанай рэдакцыі.

З кнігамі знаёмілі
Марына ВЕСЯЛУХА і
Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Водгукі дасылайце на электронны адрас: himarina@tut.by

# Шчыліна

## Апавяданне



Андрэй ФЕДАРЭНКА

Канчалася лета, канікулы пачалі ўжо абрыдаць нам сваёй амаль першабытнай свабодай, такой жаданай, радаснай некалі ў маі, калі кожны дзень напоўнены быў чаканнем, што вось-вось павінна здарыцца нешта незвычайнае, а лета сабе прайшло — і нічога не здарылася.

Надакучыў футбол, вада з купаннем і рыбаю, лес з грыбамі і ягадамі, начныя гулі з латашэннем чужых садоў; нават нашая тайна прыелася — лясная зямлянка, класічна партызанская, са сценамі, нарамі, столікам з газоўкай, замаскіраваная зверху дзёрнам, мохам і гліцай так, што на ёй можна было стаяць і не здагадвацца: пад табою жытло, з маленькім квадратным лазам, які адчыняўся, калі перакуліць прымацаваны да яго сухі хваёвы пень, — ужо і яна не радавала, як на пачатку лета, а хутчэй прыгнятала цемрай і душным, проста магільным пахам сырой зямлі.

За тры месяцы мы непрыгожа ўзмужалі, адрослыя валасы закрывалі вушы, скура некалькі разоў паспела злезці ад загару, целы нашыя былі ў сіняках і драпінах, галасы сталі грубымі ад цыгарэт. Мы многа, без патрэбы мацюкаліся, і ўсё ж самым частым, модным у нашым лексіконе было слова — сумна. Пачуўшы яго ад кагосьці са старэйшых хлопцаў, не ведаючы толкам, што яно азначае, мы, меншыя, ахвотна падхапілі яго і паўтаралі: так, сумна, вельмі сумна жыць на гэтым свеце!

І тут канец жніўня падараваў нам нечаканую забаўку. У вёсцы з'явіліся новыя людзі, пагарэльцы з суседняй вобласці, цэлая сям'я — старэйшая сястра аднаго з нашай кампаніі, Юры Меера, Валя з мужам і з двума малымі дзецьмі. Блізкай радні там у іх не было, і вось яны часова, пакуль утрасуцца фармальнасці, розныя страхоўкі-кампенсацыі, знайшлі прытулак тут.

Меер расказваў — узарваўся газавы балон, веранду літаральна разнесла ў трэсачкі, потым за якую гадзіну, калі Мееру верыць, роўны спорны агонь у такую сухмень злізаў хату, і драўляны гараж з машынаю, і куратнік, і хлеў з кабаном; толькі і ўратавалі, што дзяцей, ды з маёмасці — вясельны фотаальбом, прагарэлую на дзіркі коўдру і дзве патэльні.

Меер асабліва чамусьці ўпіраў на кабана як на самую важную дэталь, расказваў, як на ім жывым гарэла шчэць, на ўвесь двор пахла свежыною, ледзь не шашлыком (загаворваўся Меер), кабан нема, ледзь не па-чалавечы крычаў, і так і згарэў зажыва, а на двор не выйшаў.

— Не выганіш ніколі скаціну ў пажар!

Пасяліліся пагарэльцы ў Меераў у старой хаце, маленечкай, уціснутай у зямлю халупіне, што стаяла ля самых агародаў, у глухім кутку двара, і служыла для розных гаспадарчых патрэб — пад хлеўчык, клець, склеп... Адзінае яе падслепаватае акенца аддалёк — цераз увесь двор — з зайздрасцю пазірала на вуліцу, а з другога боку, за глухой сцяной адразу пачыналіся грады.

Неяк мы гулялі ў карты на выгане. Жнівеньскі дзень скончыўся, сонца села за хаты, прайшлі каровы з пашы, сыта і стомлена рыкаючы, але на выгане было яшчэ светла, толькі цені ад платоў, дрэў, ад калодзежа ўвачавідкі выцягваліся, і там, у гэтых ценях, трава цямнела, станавілася вільготнай ад расы і пачынала пахнуць як толькі што скошаная. Падрулiў на веласіпедзе Юра Меер; твар яго хітра, загадкава свяціўся.

— Гуляеце? Ну, гуляйце. А я пайду кіно пагляджу...

— Якое кіно?

Замест адказу ён падпёр спінаю веласіпед і ўзмахнуў адначасова дзвюма рукамі, нібы адштурхоўваўся лыжнымі палкамі.

— Вось такое.

Там, у хатцы, растлумачыў ён, знізу, дзе страха падшыта, выцягваецца даволі шырокая дошка — акурат пралезці, і шчылінка ў столі, над самым ложкам...

— ...Лягай і глядзі сабе, усё відно, як у тэлевізары, нават лепш...

— Ды не брашы ты!

— А калі я брахаў?

Уміг уявілася яго сястра Валя, гэтая зграбненькая, ладненькая беларуская немачка, бачылі ўжо неаднойчы, як па ваду хадзіла, у агародзе ракам калупалася... А тут так жвава, так заманліва паўстала перад вачыма ў іншым ракурсе!

Самы галоўны з нас, самы дужы, разумны і справядлівы, Анатоль, рашуча прапанаваў:

— Вось што, не я адзін — усе злазім. Па чарзе.

Меер замуляўся, з жалем прыцмокнуў языком — маўляў, і рад бы, ды не так усё проста.

— Бачыце, я гэта адкрыў... Гэта ж як-ніяк мая хата... І мая сястра... Так што, хлопцы, задарма цяпер дурных няма...

На ўсялякі выпадак ён ужо асядлаў веласіпед і трымаў нагу на педалі, каб у выпадку чаго рвануць з месца.

— Што ты хочаш? — спытаў Анатоль.

— Грошы... Рубель за сеанс.

— Рубель?!

— Ну ты і!..

Аблізваючы сухія вусны, пазіраючы на яго ледзь не з нянавісцю звужанымі вачыма, Анатоль працадзіў:

— А калі я зараз пайду і скажу? Табе ж разам з дошкай галаву прыб'юць!

— Паджалуста. Ідзі. Кажы. Тады нікому не будзе. Ні мне, ні табе, ні дурной галаве, — спакойна закончыў Меер яшчэ адной сваёй дзіўнай прымаўкай.

— Тады абыдземся без цябе! Самі палезем...

— А тады я пайду і скажу. Вы мяне ведаеце. І заб'юць дошку. Ці самі здагадаюцца... Пойдзе дождж, пацячэ вада...

І праўда што. Маглі ж тую дошку і шчыліну і без нашай ці Мееравай падказкі ўгледзець. Пакуль суха, трэба карыстацца момантам.

— А калі я табе дам на ўсе гэтыя дні матацыкл? — вымушаны быў асадзіць назад Анатоль.

— Нашто ён мне, я і ездзіць на ім не ўмею, і бензін яшчэ недзе шукай; ён носіцца, як дурны, упасці можна, пакалечыцца яшчэ не хапала, рукі-ногі пераламаць, — цвяроза, сур'ёзна разважаў Меер. — Ды і так — пакатаўся, і ўсё, а грошы застануцца... Карацей, хлопцы: мой тавар — ваш купец. Гуляйце, думайце... А я буду кіно глядзець.

І паехаў, пасеяўшы ў нашых душах поўную смуту. Мы гарачыліся, пляваліся, аблаялі яго як толькі можна, даказалі адзін аднаму, што гэта не хлопец, не мужчына, дружна вырашылі забыць і не мець з ім больш ніколі справы.

Няцяжка здагадацца, што назаўтра ўвечары, калі гэтак жа дружна зноў сабраліся на выгане, у кожнага ў кішэні было па рублю.

Меер наразаў вакол нас кругі на сваім веласіпедзе, а набліжацца баяўся.

— Учора паглядзеў кіно... Ну-у, скажу вам!.. Гэта нешта з нечым... Такога ў сне не прысніцца...

— На, — Толік кінуў папяровы рубель на траву. — Не грошай мне шкада...

Меер пад'ехаў, падабраў.

— У дзевяць роўна. Як праграма "Час" пачнецца. Я правяду, пакажу.

У дзевяць Меер з Анатолем зніклі ў прыцемках, потым Меер вярнуўся і, пакуль мы нудзіліся ў чаканні, забаўляў нас — падсмейваўся, ляпаў па плячах, пашчыкваў то аднаго, то другога, жартаваў, ламаўся:

— Вось так яно, хлопцы-казакі! А вы што думалі? Гэта вам не зямлянкі капаць!..

Нарэшце паказаўся Толік. Мы абступілі яго. "Дайце закурыць", — выціснуў ён перасельм голасам. І голас у яго быў зменены, і сам ён стаў нейкі іншы — у цемры не было відаць яго твару, але здавалася, што і твар змяніўся.

— Ну, хлопцы... Гэта праўда... Трэба самім бачыць... Я нават падумаць не мог...

З таго вечара Меер спраўна пачаў збіраць грошы. Хлопцы, што пабывалі на гарышчы, ніводзін не шкадаваў, кожны вяртаўся шчаслівы, узбуджаны, вось толькі паводзіны ва ўсіх былі нейкія падазрона аднолькававыя: просьба закурыць, зменены голас, у якім лёгкая пагарда да тых, хто "кіна" яшчэ не бачыў, і амаль адны й тыя ж словы: "Ну і ну... Я і не чакаў!.."

На чацвёрты вечар прыйшла мая чарга. Пакуль Меер вёў мяне разораю, па якой слаўся тоўсты бульбоўнік, кеды і калашыны штаноў знізу сталі мокрымі. Каля сцяны ён адсунуў дошку, падсадзіў мяне, ушчыкнуў на развітанне і прашаптаў: "Ды цішэй там, столь не праламай!"

Я палез. Прашмыгнуў наверх. Цёмна. І чуваць прыглушаныя галасы знізу. Выцягнуўшы руку, я пайшоў у напрамку коміна. Да мокрых падэшваў адразу наліпла па кілаграму пяску і ад таго ступалася мякка і зусім ціха. Шчылінка ледзь свяцілася. Я прыпаў да яе; пясок пад рукамі і пад шчакою быў цёплы, як днём на беразе возера, — відаць, нядаўна палілі грубку і ён нагрэўся ад коміна.

То адной, то другой шчакою я прыпадаў да гэтага цёплага пяску, адным і другім вокам заглядваў... Лямпачка гарыць, тэлевізар ідзе. Дзеці... Стол, вячэра... "Не плямкай, калі ясі"... Размовы. "А я ўсё адно з'езджу... Жыць неяк трэба..." "Не бяруць туды... сюды..." Святло выключылі, тэлевізар ідзе ціха... Дзеці спаць леглі. "Алік, закрыйся ад сцяны... Аньцы дзьмуць будзе"... Звычайныя такія словы. Будняя, простыя дзеянні. Ніякага намёку на оргіі.

Я нічога не разумеў — лепш сказаць, даўно пачаў разумець, як проста і геніяльна Меер усіх нас надурыў. Мяне трэсла ад злосці. Але была яна не столькі на Меера, колькі на тых, што лазілі раней, да мяне.

Я спусціўся, выйшаў на вуліцу.

— Вось, папытайце ў яго, калі хто яшчэ не верыць, — завіхаўся вакол Меер. — Хто-хто, а ён не зброша!

Так гэты гад-псіхолаг казаў пра кожнага, і кожны ўсцешваўся, што менавіта ён эталон праўды, і не падводзіў Меера.

Я хаўкнуў, уздыхнуў, збіраючыся з духам... І, замест таго, каб рассмяяцца, хоць бы словамі выкрыць іх усіх, збянтэжана выціснуў звыклае:

— Клас, хлопцы... Гэтага не раскажаш... Ніколі б не падумаў...

— Ну, хто наступны? — не губляў часу Меер. — Варушыцеся... Давайце, пакуль дзірку не зашылі...

Так мо яшчэ з тыдзень мы кожны вечар лазілі на гарышча. Калі ж адзін з нас, самы тупы, без уяўлення, хлопец захацеў справядлівасці і кінуўся да Меера біцца і спраўляць назад грошы — не далі, разнялі. І працягвалі лазіць. Мы ўжо цудоўна ведалі, што падманваем адзін аднога, але ніхто так і не сказаў праўды.

Чаму? Ці толькі таму, што сорамна было прызнацца, што глядзець няварта, і тым самым неяк прынізіцца і расчараваць іншых? Ці то была звычайная перастрахоўка: мо гэта мне не пашанцавала, а іншыя ўсё бачылі? Ці мо ў нас адгукаліся нейкія генныя парэшткі яшчэ пячорнага, паляўнічага азарту, калі няважна, за кім цікуеш, абы ён не здагадваўся пра гэта?

Ці проста мы, неабчэсаныя вясковыя падлеткі, усё ж у глыбіні душы адчувалі, што ўся наша грубасць, цынізм, "самота" і розная іншая "стамлёнасць жыццём" — усяго толькі дурнаватая, несур'ёзная гульня, а вось гэты кавалачак падгледжанага ў шчылінку чужога жыцця, звычайныя абставіны, простыя людзі, дзіця, якое просіць цукерку, падтыканне коўдры, сціплая вячэра — і ёсць нешта сапраўднае, жывое, невядомае яшчэ нам, але да чаго нас падсвядома цягне? І ўжо як мінімум рубель яно каштуе...

А потым пайшлі дажджы, гаспадар палез латаць дзіравы дах і заадно падшыў знізу добрымі цвікамі-"соткамі" дошку, і ўсе шчыліны ў столі заканапаціў.

Восенню, у канцы верасня, мы вярталіся са школы і ўбачылі, што Меерава хатка, якая была так памаладзела, пахарашэла, засвяцілася, зноў стаіць асунутая, згорбленая, сіратлівая, з забітым крыжнакрыж акенцам — пагарэльцы з'ехалі. За хаткаю палілі кучы сухога картапляніку. Бялёсыя слупкі дымоў падымаліся роўна ў неба. Гарэў і соладка пах на развітанне той самы бульбоўнік, які, здавалася, яшчэ зусім нядаўна, на нашых вачах прабіваўся з майскай зямлі пяшчотна-салатавымі парасткамі, мацнеў, рабіўся пругкім, упэўненым, цвіў белым і фіялетавым кветам, потым спаважна тырчэў высокім лапушыстым картаплянікам — гэткай дзівоснай замарскай двухплоднай раслінай: зверху зялёныя маленькія "памідорчыкі", а знізу, у цёплай зямлі, шурпатыя крухмальныя клубні... І вось ён аджыў сваё, памёр,ператварыўся ў сухія непатрэбныя сцябліны...

І толькі цяпер мы зразумелі, што гэта ж прайшло яшчэ адно наша лета.

Наста РАГАЎЦОВА

# Абразкі

## Краіна цудаў

— Сем цудаў свету!.. Вось бы хоць адзін убачыць!.. Але ж далёка ехаць… — Марыля адарвала вочы ад падручніка па гісторыі.

— Чаму далёка? — адазвалася маці, якая была ў тым самым пакойчыку, палівала духмяныя кветкі. — Мы і жывём у краіне цудаў.

— Няўжо? Не бачыла я ў нас ніякіх цудаў.

— Вось гэта і нядобра, што не бачыла. Скажы, ці не цуд, калі з'яўляецца на свет дзіцятка… Якога так доўга чакалі?

— Гм… Цуд…

— А калі ад лекара чуюць: "Вам засталося некалькі месяцаў…", а чалавек папраўляецца і жыве да глыбокай старасці?

— …Так, цуд.

— А калі незнаёмы хлопчык падсабляе бабульцы паднесці цяжкія сумкі або сысці з аўтобуса?..

— Які ж гэта цуд? Помач… Гм… Але бескарысная… І праўда, цуд…

— Я ж і кажу, у краіне цудаў жывём…

## Адданасць

З-за шэрай сцяны дажджу смутна бачылася постаць жанчыны. Яна сядзела сагнуўшыся на мокрай лаўцы пад парасонам і нешта шаптала… Нікога навокал… Толькі яна і могілкі… Тры гады як не стала яе чалавека… Яна пагойдвалася, бы маятнік, што адлічваў хвіліны яе жыцця, праведзеныя з думкамі аб ім… Яшчэ не выплаканыя слёзы цяклі па твары…

— Цяжка без цябе, так цяжка… — выхапіў вецер яе боль. — Каб хоць што-небудзь кепскае ўчыніў, мо лягчэй было б…

Дождж забарабаніў яшчэ мацней… Яго музыка… Яе словы…

## Падкова

Знайшоў чалавек падкову, і з таго часу вельмі яму шанцуе. Што ні пасее — ураджай багаты, за што ні возьмецца — усё ладзіцца, нават з жонкай жыць сталі душа ў душу, дзеці ў госці наязджаюць. Ну проста не жыццё, а казка!

Праходзіць час — засумаваў чалавек. Так усё спорыцца ў жыцці, што і жыць нецікава. Надумаўся ён збавіцца ад падковы. Але ўсё не выходзіла. Кінуў яе ў сажалку, дык сусед нератам злавіў, прынёс яму (ведалі вяскоўцы, што ягоная). Выйшаў неяк з хаты, шпурнуў з усяе сілы ў белы свет, а яна, як на ліха, тут як тут. Аднёс тады яе ў лес як мага далёка — усё роўна вясковец праз які дзень прынёс…

І не дацяміў чалавек, што падкову можна проста каму-небудзь падарыць, хоць бы таму суседу, якому заўсёды не шанцуе…

## Скала

Мора бушавала… Раз'юшаныя хвалі нападалі на адзінокую скалу, стараліся прычыніць ёй моцны боль, але самі аб яе разбіваліся…

Непадалёк стаяла жанчына, глядзела пустым позіркам у нябесна-марскую цемру… Дождж хвастаў па яе твары, змываў з яго слёзы…

"За што?.. За што ж яно так?.. Ёй жа ўсяго шэсць гадкоў было… Як жыць без дачушкі?.."

Хвалі, здавалася, яшчэ мацней сталі накідвацца на скалу…

Жанчына глянула на каменнага асілка, які прымаў на сябе ўдары хваляў, пастаяла крыху, а потым рушыла дахаты…

Да сына, якому толькі чатыры…

## Другое нараджэнне

Стрэл… З дрэў са спалохам узляцелі некалькі птушак і, незадаволена ўзмахваючы крыламі, паляцелі шукаць больш спакойнае месца…

На ўскраі паляны, спінай да бярозы, сядзеў мужчына, гадоў за трыццаць. Побач пісталет. Бедака трасло. "Што ж гэта я?.. На сябе руку… Грэх які… Божачка, уратуй душу маю…"

Так праседзеў ён якую часіну, а потым апрытомнеў. Толькі цяпер адчуў прыемны подых ветру, свежы водар кветак, якія красаваліся на гэтым лясным астраўку, вясёлы стракат конікаў, птушыную гаману… Толькі цяпер прыкмеціў, дзе ён… Гэта была тая самая паляна, дзе нарадзіла яго маці… Ягадніцай была зацятай… Не магла ўседзець нават на дзевятым месяцы… Такія журавіны буйныя ў той год!..

Успаміны пра маці неяк супакоілі яго. Тут, на гэтай мясціне, думаць не хацелася пра тое, што прывяло яго сюды… Але думалася... Толькі неяк па-іншаму глядзеў ён цяпер на ўсё гэта… Яно здалося мізэрным.

…Сонечны прамень мільгануў па яго твары…



Што можна сказаць пра сучасны стан традыцыйнай беларускай культуры? З аднаго боку, практычна знікла тое матэрыяльна-духоўнае асяроддзе, у якім фальклор зарадзіўся і існаваў. З другога, усё больш фактаў, якія сведчаць пра адраджэнне пэўных традыцый, а таксама пра іх пераасэнсаванне і трансфармацыю. Але самае важнае, што, нягледзячы на глабалізацыю, тэхнічны прагрэс і панаванне спажывецкай маралі, многія людзі паварочваюцца да мудрасці продкаў на самым глыбокім — светапоглядным — узроўні. Калі традыцыя асэнсоўваецца і захоўваецца не толькі яе фармальнае ўвасабленне (песня, танец, дэкаратыўны выраб), а менавіта разуменне і шанаванне тых уяўленняў, што звязаныя з яе станаўленнем.

# Адраджэнне ў Стрэньках
## пры еўрапейскай падтрымцы

Экамузей "Беларуская лялька", што нядаўна адкрыўся ў вёсцы Стрэнькі Рагачоўскага раёна, зрабіў на мяне ўражанне менавіта такога — усвядомленага — узнаўлення традыцыі. Калі я звярнуўся да майстра-метадыста цэнтра рамёстваў, на базе якога і створаны музей, Вольгі Ткачовай (чыя калекцыя, дарэчы, і склала аснову экспазіцыі) з пытаннем, ці верыць яна ў тыя чарадзейныя ўласцівасці, якімі нашы продкі надзялялі народную ляльку, пачуў у адказ: "Над гэтым варта задумацца". Аказваецца, калі гэтым летам стаяла анамальная спёка, якую ўсе памятаюць, Вольга Дзмітрыеўна, згодна старадаўнім запаветам, рабіла ляльку сухавею, тым самым здзяйсняючы абрад выклікання дажджу. І надвор'е потым пэўным чынам змянілася, таму — "варта задумацца". Гэта зусім не значыць, што мы з вырачанымі вачамі мусім вяртацца да ўсіх забабонаў мінуўшчыны. Але мы павінны памятаць пра ўласцівае нашым продкам паважнае і ўдзячнае стаўленне да прыроды як да жывой адухоўленай істоты, як да адзінага арганізму. Менавіта ўсведамленне гэтых асноў надзвычай важнае для працягу культурных традыцый.







Можа падацца дзіўным, што ініцыятыва супрацоўнікаў Стрэнькаўскага раённага цэнтра рамёстваў атрымала назву "экамузей". Куды больш звыкла гучыць "музей традыцыйнай культуры" ці "народнай творчасці". Але менавіта ў гэтым адрозненні і заключаецца глабальнае значэнне. Прытым задуманае здзейснена пры падтрымцы сумеснага праекта Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН "Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні". Менавіта разуменне таго, што экалагічная дзейнасць звязана не толькі з акцыямі кшталту збор смецця, ахова жывёлаў і г.д., але і з экалагічным выхаваннем, з пашырэннем традыцыйнай культуры, гаворыць пра дальнабачнасць каардынатараў гэтага міжнароднага праекта.

Што яшчэ адметнага і станоўчага бачу я ў ажыццяўленні такіх ініцыятыў? Традыцыйная культура надзвычай спрыяе повязі пакаленняў і, наогул, згуртаванню нацыі. Тут, у Стрэньках, на прэзентацыі музея былі і "аўтэнтычныя" бабулькі, і дзеці ў народных строях, і прыгожыя дзяўчаты ў саматканых сукенках. І ўсе выказвалі глыбокую павагу да людзей сталых як да носьбітаў старадаўніх традыцый. Шкада, што такія мерапрыемствы адзінкавыя, але пры належнай падтрымцы яны б пашыраліся і карысталіся безумоўнай папулярнасцю.

Задуманае здзейснена пры падтрымцы сумеснага праекта Еўрапейскага Саюза і Праграмы развіцця ААН "Устойлівае развіццё на мясцовым узроўні". Менавіта разуменне таго, што экалагічная дзейнасць звязана не толькі з акцыямі кшталту збор смецця, ахова жывёлаў і г.д., але і з экалагічным выхаваннем, з пашырэннем традыцыйнай культуры, гаворыць пра дальнабачнасць каардынатараў гэтага міжнароднага праекта.

Вельмі прыемна ўразілі сустрэчы з метадыстамі цэнтра рамёстваў, з мясцовымі майстрамі (прэзентацыя экамузея суправаджалася выстаўкай-кірмашом прадстаўнікоў раёна): Валянцінай Кіпценкай, Ігарам Ткачовым, Святланай Туркінай, сёстрамі Швед. Лялькі, саламяныя вырабы, разьба па дрэве, вышыўка – усё гэта зроблена з душэўнай цеплынёй і ў адмысловай, наіўна-аматарскай, эстэтыцы. Гэтыя людзі не страцілі повязь з Космасам, такую важную для ўсялякай творчасці (чаго, на жаль, не скажаш пра многіх сучасных прафесіяналаў). Вось чаму вырабы нашых рамеснікаў, а таксама наш мастацкі прымітывізм мае вялікі попыт у замежнікаў. Шкада толькі, што ў сучаснай народнай творчасці кітч непапраўна пацясніў традыцыю.

Умоўна экспазіцыя музея "Беларуская лялька" падзеленая на два блокі: лялькі, што маюць дачыненне да каляндарных земляробчых абрадаў, і сямейна-побытавыя лялькі. Першы блок уяўляе сабой чатыры насценныя інсталяцыі, змешчаныя ў калідоры музея, — адпаведныя паравінам года. Ля зімовай інсталяцыі можна даведацца пра лялькі, што ўдзельнічалі ў калядным абрадзе: каза, конь, мядзведзь, буслік, каляднiца, анёлак. Веснавую тэму прадстаўляюць масленічнае чучала ды розныя птушачкі-зязюлечкі, што выrabляліся падчас гукання вясны. Улетку майстраваліся лялькі, што ўплывалі на надвор'е: сухавея (адводзіла засуху) і шматрукая макрыдзіна (перапыняла дажджы). Увосень зернем новага ўраджаю напаўнялі ляльку зернавушку (крупянічку). Усе інсталяцыі аздобленыя інфарматыўнымі фотаздымкамі, прадстаўленымі Ірынай Седлер, кіраўніком арганізацыйна-метадычнага цэнтра аддзела культуры Рагачоўскага райвыканкама.

Пад другую, асноўную, частку экспазіцыі адведзена асобнае памяшканне, аформленае на манер сялянскай хаты з печчу, сталом, покуццю і г.д. Тут знаёмішся са шматлікімі лялькамі, якія аберагалі сям'ю і побыт беларускага селяніна. Так, у вясельным абрадзе ўдзельнічала лялька "Міравое дрэва", што змяшчалася ў каравай, а маладым дарылі лялькі "Неразлучнікі" і "Багацце". Лялькі пелянашкі, палена (прывучалі будучую маці правільна гадаваць дзіця) і куваткі (падвешваліся над калыскай нованароджанага, адводзячы ад яго ліха) ужываліся ў радзільным абрадзе. Былі і тыпова жаночыя лялькі: "Жаночая сутнасць", што прызначалася маладой жонцы, у якой не заводзіліся дзеці, і "Мацярынства", што дарылася цяжарнай, каб падрыхтаваць яе да родаў.

Паводле слоў аглядальніка часопіса "Алеся" Рэгіны Гамзовіч, у музеі сабраныя ў адно адасобленыя звесткі пра народную ляльку, характэрныя для розных славянскіх культур, а беларуская лялька асобна не вылучана. Але, думаецца, энтузіязм супрацоўнікаў і, галоўнае, даследчыцкая праца, якую яны стала працягваюць, дазволіць належным чынам упарадкаваць сабраную імі інфармацыю.

Традыцыйная культура надзвычай спрыяе повязі пакаленняў і, наогул, згуртаванню нацыі. Тут, у Стрэньках, на прэзентацыі музея былі і "аўтэнтычныя" бабулькі, і дзеці ў народных строях, і прыгожыя дзяўчаты ў саматканых сукенках. І ўсе выказвалі глыбокую павагу да людзей сталых як да носьбітаў старадаўніх традыцый. Шкада, што такія мерапрыемствы адзінкавыя, але пры належнай падтрымцы яны б пашыраліся і карысталіся безумоўнай папулярнасцю.

Унікальны экамузей уяўляе сабой не проста выставачную прастору. Тут праводзяцца майстар-класы, юныя гадаванцы цэнтра рамёстваў спасцігаюць асновы лялечнага рамяства. Такі актыўны напрамак дзейнасці, педагагічнай і папулярызатарскай, надзвычай важны для сапраўднага адраджэння традыцыі.

Алесь СУХАДОЛАЎ

На здымках: дырэктар цэнтра рамёстваў Валянціна Кіпценка праводзіць майстар-клас са сваімі выхаванцамі; берасцяныя лялькі; лялька "Жаночая сутнасць"; лялька "Багацце".

Фота аўтара

## Радуемся разам

"Анімаёўка», традыцыйны для восеньскага культурнага жыцця Магілёва Міжнародны фестываль анімацыйнага кіно, сёлета ладзілася ўжо трынаццаты раз. Свята святам, але была ў яго межах і конкурсная праграма, у якой удзельнічалі 44 стужкі з 13 краін. Фільмы-пераможцы вызначаліся ў розных намінацыях. Каму з аніматараў дасталіся "Крышталньныя алоўкі" — прызы фэсту "Анімаёўка-2010"? Як лепшы эксперыментальны твор адзначана работа Геза-Іштвана Тота "Ідучы следам" (Венгрыя), за лепшы фільм для дзяцей "Сябар дзяцінства" ўзнагароджана Юлія Пастаўская (Расія). Лепшым выяўленчым вырашэннем вылучыўся стваральнік "Папяровых узораў" Міхаіл Тумеля (Беларусь). Рэжысёра Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Ірыну Кадзюкову прызналі лепшай у намінацыі "Майстар". Магілёўская публіка аддала свой прыз, прыз глядацкіх сімпатый, фільму Алега Ужынава "Следы невиданных зверей" з серыяла "Маша і Мядзведзь" (Расія) і "Разбітай карціне Мірыям" — рэжысёр Прыйт Тэндар (Эстонія). Гран-пры дастаўся стужцы "Со вечора дождик» Валянціна Альшванга (Расія), зробленай уручную, без выкарыстання камп'ютарнай графікі.



Каля 40 фотаработ рознай тэматыкі і жанраў прадстаўленыя на выстаўцы "Гэта было нядаўна", што да 17 кастрычніка працуе ў Музеі гісторыі горада Гомеля. Аўтары — гомельскія фатографы Канстанцін Антоненка, Уладзімір Чысцік, Сяргей Іваноў, Лара Граматчыкава, Валерый Садоўскі, Вячаслаў Сухадольскі, Алег Белавусаў, Сяргей Коваль — дзеляцца сваімі візуальнымі ўспамінамі пра не такое і даўняе, але адметнае мінулае: апошнія дзесяцігоддзі XX стагоддзя.

Прэм'ера фільма "Ваўкі" Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" адбылася ў сталічным кінатэатры "Кастрычнік". Стужка знята рэжысёрам Аляксандрам Колбышавым паводле аднайменнай аповесці Аляксандра Чакмянёва, напісанай у 1960-я гады. Над сцэнарыем А.Колбышаў і А. Чакмянёў працавалі ў сааўтарстве. "Ваўкі" ганараваныя Гран-пры VII Фестывалю беларускіх фільмаў у Брэсце, атрымалі галоўную ўзнагароду ў намінацыі "Лепшы ігравы фільм" XIII Бярдзянскага міжнароднага фестывалю. І, як вядома, у конкурсную праграму сёлетняга Берлінскага кінафоруму гэтая работа "Беларусьфільма" не трапіла толькі з-за свайго "нефарматнага" сюжэта, паводле якога галоўны герой "Ваўкоў" уцякае з-пад канвою, з эшалона са зняволенымі, каб вярнуцца ў родную вёску. Здымаліся ў фільме Дзмітрый Ульянаў, Андрэй Панін, Коля Спірыдонаў, Уладзімір Гасцюхін, Тамара Міронава, Аксана Лясная, Галіна Кухальская, Зінаіда Зубкова ды іншыя расійскія і айчынныя акцёры.



Лана ІВАНОВА

На здымках: эмблема фестывалю "Анімаёўка"; кадр з фільма "Ваўкі".

# Скачок у вечнасць або…

## Прэм’ера Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа “Квартэт» паводле п’есы Рональда Харвуда. Кранальная камедыя на чатыры асобы.

Ніколі не думаў, што я настолькі сентыментальны і дазволю сабе вось так папросту плакаць і смяяцца, абурацца і захапляцца ў глядзельнай зале. Зрэшты, я не быў у гэтым адзінокі. Вытанчанасць сцэнаграфіі разам з дакладнымі акцёрскімі партытурамі, фенаменальнымі рэжысёрскімі знаходкамі і музычным афармленнем гранічна ўзнялі эмоцыі гледачоў, якія зачаравана назіралі за мітрэнгамі герояў і цалкам растварыліся ў чароўных гуках класічных оперных партый з «Рыгалета” і «Травіяты» Дж. Верді, “Чарадзейнай флейты» В. А. Моцарта, «Джані Скікі” Дж. Пучыні, “Сельскага гонару» П. Масканы. На імгненне нават здалося, што я знаходжуся ў оперы — настолькі эфектна выглядаў на сцэнічнай праекцыі відэашэраг фасадаў і залаў знакамітых оперных тэатраў свету...



З кадраў старой галівудскай хронікі паўсталі герцаг Мантуанскі ды яго блазан Рыгалета, граф Мантэроне, Джыльда і Маддалена. І глядзельная зала Коласаўскага тэатра запоўнілася чароўнымі галасамі Джузэпе дзі Стэфана, Ціта Гобі, Марыі Калас, Адрыяны Лаццарыні. Маладыя, прыгожыя, яны нібы праносіліся па эфіры праз часы, краіны і адлегласці, каб стаць легендай і загарэцца яркімі зоркамі на небасхіле мастацтва. Менавіта ў гэтым легендарным квартэце з оперы “Рыгалета” ў маладосці спявалі героі спектакля, якія праз шмат гадоў сустрэліся ў доме састарэлых. І невыпадкова ў фінале адзін з іх — Рэджынальд Пэйджэт, звяртаючыся да гледача ад імя былых зорак опернай сцэны, скажа: “Мы жадаем вярнуць вас у мінулае, калі нашы галасы былі моцнымі і … прыгожымі. Мы пастарэлі, але мы не змяніліся, прынамсі, душой. І нашы душы знайшлі сваю сублімацыю ў оперы… Мы хочам нагадаць вам, на што мы былі здатныя і што запісалі многа гадоў назад. Спадзяёмся, што гэта вас усхвалюе… Калі не мы, дык велічная музыка… бо мастацтва не мае сэнсу, калі яно не выводзіць нас з адчаю і не вымушае біцца нашы сэрцы».

І ў гэтым — асноўны сэнс рэжысёрскай задумкі: прадставіць свой погляд на складаны ўнутраны свет людзей мастацтва, на захапляльную і амаль недаступную тлумачэнню ўладу тэатра над чалавекам, якая вядзе да выратавання, ачышчаючы душу. Пастаноўшчык спектакля Рыд Таліпаў, ён жа і стваральнік партытуры музычнага афармлення, не шукае для сябе псіхалагічных матывацый у сюжэце. Дзейства коласаўцаў, народжанае з духу музыкі, абмінаючы побытавыя пласты, накіраванае да сэрца гледача, прасвятляючы яго, вызваляючы ад мішуры штодзённых клопатаў, зараджаючы энергіяй барацьбы за паўнавартаснае эмацыйнае творчае жыццё і мужнасцю, неабходнай для годнай сустрэчы мудрых гадоў старасці.

У рэпертуары коласаўцаў мусіў з’явіцца такі спектакль: сур’ёзная гутарка з гледачом пра тэатр і яго безумоўны ўплыў на розумы і сэрцы людзей, пра напружанае, знясільваючае і няўдзячнае жыццё акцёраў, пра высакародную місію мастацтва ўвогуле і тэатра ў прыватнасці — тэатра, які апошнім часам ператварыўся ў рассаднік невуцтва, і бескультур’я, прыдатак пацяшальных устаноў.

Спектакль “Квартэт” унікальны для тэатральнага жыцця Беларусі як прыклад сучаснага ўдумлівага і ўмелага арганічнага ўзаемадзеяння ўсіх выразных сцэнічных сродкаў. Пры гэтым ствараецца адмысловая выява рэчаіснасці: узрушанай і раскатурханай, поўнай супярэчнасцей, з гульні якіх высноўваюцца канфлікты. У гэтай рабоце коласаўцаў зноў выявілася знаёмая тэндэнцыя адаптацыі драматургічнага матэрыялу да беларускага менталітэту. Выкарыстоўваючы як крыніцу п’есу “Квартэт” брытанца Р. Харвуда, тэатр зрабіў свой арыгінальны пераклад з англійскай на рускую (Ірына Галаўня), а затым і на беларускую: літаратурны дар акцёра-коласаўца Пятра Ламана дапамог яму фактычна стварыць новы нацыянальны драматургічны твор, дзе ў кожным гуку, слове, сказе адгадваецца беларуская інтанацыя і лад мыслення. Таму гэткія арганічныя для нашай сцэны рэплікі персанажаў, як, зрэшты, і іх характары.

Дзівіць у спектаклі і выключная музычная чуйнасць рэжысёра, які імкнецца перадаць у музычных гуках тое, што іншым чынам не выкажаш. Музыка для Р. Таліпава робіцца тут “вызначальнай мовай” сцэнічнага твора. Няма ніводнага “прахаднога” музычнага фрагменту: ад оперных арый да папулярнага Квартэта № 1 С. Губайдулінай, фартэпіянных кампазіцый «Узыходжанне з анёламі» Д. Неўю і «Шчырасць» Дж. Брэдфілда — усе яны цесна звязаныя з характарамі персанажаў, іх унутраным станам і надаюць дзеянню цэласнасць і закончанасць.

Сцэнаграфія падпарадкаваная выяўленню ідэі спектакля, дзе двупланавасць дзеяння — аснова рамантычнай канцэпцыі відовішча. Куміры опернай сцэны, што называецца, вякуюць у доме са-



старэлых. І, як яны самі гавораць, чакаюць свайго далучэння да «хору нябесных анёлаў». У гэтым доме ёсць усё, каб не толькі палегчыць капрызлівым, экзальтаваным старым жыццё, але і падтрымаць іх творчы дух. Сцэнограф Святлана Макаранка стварае ўтульны інтэр’ер сучаснай багадзельні са зручнымі крэсламі ў белых чахлах вакол круглага століка пад таршэрам. Невялікі раяль, таксама “ў белым”. Вазоны з пальмамі, накрытымі тканінай — ад пылу. Шырмы на роліках функцыянуюць як вялікае трумо і высокія вокны, якія раз-пораз адчыняюцца персанажамі. Дзесьці ў глыбіні сцэны, на верандзе, шэраг чырвоных крэслаў. На чорнае палатно задніка як бы неахайна накінуты цюль, падобны да воблака. Паводле задумы рэжысёра, камфартабельны музычны салон і ёсць тая «залатая клетка» старасці, у якой наканавана дажываць свой век знакамітым артыстам, атуленым клопатамі, але пазбаўленым сувязяў са знешнім светам — дзеля іх жа спакою.

Кожны па-свойму, героі спектакля выпрабоўваюць татальную адзіноту. Яны намагаюцца ўсяляк вырвацца з гэтай клеткі “на волю», трапіць у сваё юнацтва, дзе было так добра і ўтульна. Яны яшчэ памятаюць шквал апладысментаў і неверагодны поспех у публікі, які часам пазбаўляў магчымасці пабудаваць сваё асабістае жыццё або наўпрост руйнаваў яго.

Пранізлівымі і кранальнымі падаюцца сцэны з спектакля, калі персанажы адчыняюць вокны, высоўваюцца з іх, звяртаюцца ў залу са сваім надзённым, быццам бы ў памкненні скокнуць са старасці, апынуцца на беразе вечнай маладосці. Здзейсніць скачок у Вечнасць.

Перад позіркам кожнага з іх, як кінастужка, праплываюць гады ўласнага жыцця. З якой вынаходлівасцю і рашучасцю прагнуць яны падоўжыць сваё існаванне! Таму гэтак імкнуцца падтрымаць адно аднаго, зблізіцца, стварыць сваё кола аднадумцаў, як гэта было калісьці ў квартэце. Таму і ўзнікае вар’яцкае жаданне: з нагоды дня нараджэння Джузэпе Вердзі выканаць для насельнікаў дома састарэлых квартэт Герцага, Маддалены, Рыгалета і Джыльды, у якім яны калісьці зіхацелі на сусветнай сцэне, — маўляў, “ёсць яшчэ порах...". Ці атрымаецца?

У ІІ дзеі свет ілюзій, мары, мінулага жыцця зачароўвае яркасцю кантрасных колераў. Выбеленыя чахлы знікаюць. На іх месцы — модныя офісныя крэслы, абцягнутыя чырвонай і чорнай скурай. У лакавай паверхні чорнага раяля адлюстроўваюцца агеньчыкі, якія падсвятляюць кроны дрэўцаў у вазонах. Не апошнюю ролю ў стварэнні рамантычнага падвойнага плана дзеяння адыгрывае актыўная праекцыя відэашэрагу, які ўключае, апроч здымкаў рэальных выканаўцаў зорных партый у класічных операх, і фатаграфіі акцёраў-коласаўцаў у розных ролях, якія яны на працягу свайго творчага жыцця ўвасобілі на віцебскай сцэне. А пацешныя строі з оперы “Рыгалета”, у якія з такім імпэтам убіраюцца персанажы, не толькі выклікаюць у іх буру эмоцый і ўспамінаў, але правакуюць на своеасаблівыя споведзі. Зазначу, спавядаюцца не святару, а Тэатру!

У акцёраў сваё трапяткое стаўленне да гэтых персанажаў — як да калег. Знаёмыя пачуцці, такія ж праблемы. Таму кожны з коласаўцаў іграе не столькі ролю, як лёс персанажа, спрабуючы не акцэнтаваць увагу на ўзаемаадносінах, а больш выходзіць на абагульненні, падкрэсліваючы спецыфіку акцёрскага рамяства. У ігры артыстаў таксама выяўляецца двухпланавасць дзеяння. Кожны знаходзіць палітру інтанацый, уласцівую яго персанажу.

Шыкоўнае і бездакорнае ва ўсіх адносінах выкананне Святланай Акружной ролі прымадонны оперы Сісіліі Робсан. Дзякуючы тонкай пластыцы, трапнай міміцы, ювелірнаму акцёрскаму майстэрству яна передае сапраўднае хваляванне сваёй гераіні. Ад свайго крыху камічнага, але надзвычай абаяльнага і кранальнага з’яўлення на сцэне — з капой кудзерак на галаве — яна паступова захоплівае глядацкую ўвагу. Яе непераадольнаму жаданню стварыць квартэт безумоўна верыш. Бо дзеянні трошку звар’яцелай, чыстай і наіўнай Сісіліі адлюстроўваюць і стан большасці артыстаў, да скону адданых тэатру. Усе персанажы любяць яе і хвалююцца. Бо персанаж Святланы Акружной злітоўвае ўвесь квартэт, а ў ім — іх жыццё.

Актрыса стварае поліфанічны вобраз, шматзначнасць якога і ў голасе, і ў пластыцы, і ў дынаміцы характару. Яна па часцінках лепіць сваю Сісілію: жыццё без бацькоў, без чыёйсьці дапамогі, прымусіла гераіню пережыць многае, быць ва ўсіх на пабягушках, але застацца чыстай і наіўнай, пражыць, так і не атрымаўшы радасці і асалоды ад мужчын. Яна без анічыёй падтрымкі ўзнялася ў неба і стала знакамітай спявачкай, ажыццявіўшы мару свайго жыцця. Моцная, але простая, уразлівая, заўсёды здзіўленая і сонечная натура...

Да Сісіліі відавочна неабыякавы Уілфрэд Бонд (Рыгор Шацько), знакаміты барытон у мінулым. Акцёр з майстэрствам стварыў аб’ёмны і неадназначны вобраз. Мудрасць пры відавочнай прастадушнасці дапамаглі Уілфрэду захаваць адданасць адной жанчыне. А каб схаваць сваю нязграбнасць, сарамлівасць, сціпласць, няўпэўненасць у сабе, ён па-блазенску рэагуе на жыццё, прылюдна дэманструючы бессаромную шчадралюбнасць і «эратычны” спрыт гарэзы, сыпле “прыперчанымі” жарцікамі. Славуты калісь барытон не пакутуе праз тое, што старэе. Яго філасофскі нюх наводзіць на глыбакадумныя сентэнцыі пра мастацтва. Але пры ўсім гэтым бязмежнае жыццялюбства і замілавальнасць Уілфрэда — маска, за якой старанна схаваныя хвароба, страх і адзінота.

Рэджынальд Пейджат (Віктар Дашкевіч) — “зграбны, падцягнуты, ахайны, у добрай форме, бездакорна апрануты мужчына”. Стрыманы, высакародны, інтэлектуальны, іранічны, не пазбаўлены гумару. У мінулым выбітны тэнар. Да шаленства засмучаецца, калі яго пазбаўляюць мармеладу. На схіле гадоў стаў захапляцца тэарэтычнымі працамі па музыцы, вылоўліваючы з іх мудрыя выказванні, якія тут жа агучвае. Але ў душы персанажа неспакойна. Прычына трывогі робіцца відавочнай, калі ў доме састарэлых пасяляецца яго былая жонка Джын — прымадонна оперы, выканаўца ролі Джыльды ў “Рыгалета”, чацвёрты ўдзельнік квартэта.

Роля Джын Хортан, увасобленая Тамарай Скварцовай, досыць палемічная. Актрыса мае вялізны досвед стварэння вобразаў народных персанажаў, прадстаўнікоў купецкага асяроддзя ў рускай класіцы. Ёй яшчэ належыць унутрана прачуць усю складанасць і супярэчлівасць характару опернай дзівы, якая яшчэ не страціла чароўнасць «ідала Ковент-Гардана», не пазбавілася зоркавых прыхамацяў. Са споведзі Джын глядач дазнаецца, што яе бацькі канфліктавалі, маці памерла ў вар’ятні. Сама спявачка ўсё жыццё зневажала, абражала навакольных, надта не дбаючы і пра сваіх блізкіх. У выніку — трагічная адзінота, змушаны пераезд у гэты дом; ды іскрынка апошняй надзеі на прымірэнне з былым мужам Рэджынальдам. Тамара Скварцова намінальна ўспрымае лёс сваёй Джын, сэрца якой, на жаль, пакуль зачынена і ад партнёраў па квартэце, ды і ад гледачоў. Актрысе засталося толькі надаць “аб’ём” лёсу гераіні, паказаць, як яна пачала ўсведамляць перамены ў сваім жыцці.

Фінальная сцэна ўражвае шматпланавасцю. Оперныя спевакі ў сваіх грымёрках, адгароджаных на авансцэне проста перад гледачом, пераапранаюцца ў сцэнічныя строі. Рэжысёр нібы прачыняе для публікі закулісся, здымае покрыва таямнічасці з працэсу пераўвасаблення, развенчвае ілюзію бестурботнага і вясёлага тэатральнага космасу. Акцёры апранаюцца, зацягваюць гарсэты, дбайна грыміруюцца, хаваючы свой узрост, хваробы, адкідаюць кійкі. І вось перад намі квартэт з “Рыгалета”: падцягнутыя спевакі глядзяць углыб сцэны, рыхтуючыся да выхаду. Кароткая сварка Рэджы з Бобі Свенсанам (Пятро Ламан), які знаходзіцца ў асвятляльнай ложы. Абвяшчэнне выканаўцаў і …гучыць знакаміты квартэт! Былыя оперныя віртуозы моўчкі, зачаравана слухаюць: да гэтага скарбу музычнай культуры калісьці былі спрычыненыя і яны. А гледачы? Яны, стаіўшы дыханне, успрымаюць непараўнальныя гукі, і слёзы блішчаць на вачах у многіх...

Рамантычная сутнасць новай работы Рыда Таліпава нават не ў музычнасці, вызначальнай для гэтай пастаноўкі, а ў аб’ёмным выкарыстанні традыцый і законаў менавіта псіхалагічнага тэатра. Спектакль коласаўцаў не ілюструе драматургічны тэкст, а спасцігае яго як меладычнае дзеянне, што нараджаецца з духу геніяльнай партытуры Дж. Вердзі. Сцэнічны твор успрымаеш як узор таго вытанчанага майстэрства, якое само па сабе становіцца прадметам мастацтва і вызначае свой уласны сюжэт: пошук дасканалай формы, здатнай захаваць эфемерную прыгажосць...

Вячаслаў ГРЫБАЙЛА,
тэатральны крытык

На здымках: сцэны са спектакля “Квартэт”.




## Слова краязнаўцы



Жанна ІВАНОВА, дырэктар Ашмянскага краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча, разважае пра значнасць даследаванняў сваіх каранёў:

— Іншы раз проста здзіўляешся, як людзі паважнага ўзросту прыходзяць да нас, знаёмяцца з экспазіцыяй і адкрываюць для сябе гісторыю роднага краю. Прынамсі, Васіль Юрша, які ўсё жыццё працаваў інжынерам на заводзе ў Мінску, зацікавіўся паселішчам Юршаны (знаходзіцца непадалёк ад Ашмян) і пачаў даследаваць гісторыю свайго прозвішча. Вывучаючы асабістыя карані, ён звярнуўся да архіваў і знайшоў столькі цікавага, што дапамог многім людзям узнавіць радаводы. Дзякуючы яму ў нашым музеі з'явіліся спісы ашмянскай шляхты. Калі хто захоча даведацца, як жылі яго продкі, якую маёмасць мелі, дастаткова толькі назваць прозвішча, і можна атрымаць найцікавейшую інфармацыю.

Нечакана і я даведалася пра сваіх продкаў. Працуючы з архівамі ў Літве, Васіль Адамавіч у паперах не раз заўважаў прозвішча Мардас, якое было вядома яшчэ падчас Вялікага Княства Літоўскага. Мой дзед па бацькоўскай лініі быў Мардасаў, але яго так запісалі пасля. Паходзіў жа ён з літоўскіх зямель. Краязнаўца даведаўся, што маіх дзядулю і бабулю, даволі заможных сялян, у 1937 годзе арыштавалі, перавезлі ў Віцебск і ў хуткім часе расстралялі.

Лічу, любога чалавека, які цікавіцца гісторыяй, культурай свайго краю, можна назваць краязнаўцам. Няхай ён і не працуе ў музейнай сферы і нават да канца не разумее важнасць справы, за якую ўзяўся. Усё роўна ён краязнаўца, бо ён падымае нявывучаны іншымі пласт і рана ці позна атрымлівае магчымасць прадэманстраваць тое, што знайшоў. Такі шанц выпадае кожнаму. Прыклад таму — ашмянцы, якія сябруюць з намі, а таксама выхадцы з тутэйшых зямель, што зрабілі свой унёсак у краязнаўчую справу.

## І памяць, і ўдзячнасць

Упершыню на Магілёўшчыне створана выданне, у якім увекавечаныя імёны 344 воінаў Вялікай Айчыннай вайны — Герояў Савецкага Саюза, прадстаўнікоў 20 нацыянальнасцей, ураджэнцаў рэспублік Савецкага Саюза, якія вызвалялі наш край.

Складальнікамі біябібліяграфічнага паказальніка "Они освобождали Могилёвщину. Герои Советского Союза, принимавшие участие в освобождении Могилёвской области от немецко-фашистских захватчиков (1943 — 1944 гг.)" з'яўляюцца супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя Леніна, якія прэзентавалі даведнік падчас мерапрыемстваў, прысвечаных 65-годдзю Перамогі.

У паказальніку змешчаны матэрыялы за 1950 — 2009 гг. Гэта кнігі, артыкулы з энцыклапедый і даведнікаў, зборнікаў, часопісаў і газет. Уключана і літаратура, якой няма ў фондзе Магілёўскай абласной бібліятэкі. Біяграфічныя звесткі суправаджаюцца фотаздымкамі ўдзельнікаў вызвалення і бібліяграфічнымі спісамі літаратуры. Для зручнасці выкарыстання даюцца дапаможныя паказальнікі: імянны, геаграфічны і інш. Яны дазваляюць вызначыць імёны воінаў, якія атрымалі званне Героя за вызваленне пэўнага горада ці раёна Магілёўскай вобласці.

Тамара КАЛІНІНА

Музейны ўнікат

# Кубак Ядвігі — каштоўная знаходка з Навагрудка

Найбольш шырока ў Навагрудскім гістарычна-краязнаўчым музеі прадстаўлены прадметы і матэрыялы, якія можна датаваць XII стагоддзем. Гэта абумоўлена тым, што ў XII ст. жыхары Новагародка жылі вельмі заможна. На тэрыторыі вакольнага горада былі размешчаны майстэрні ганчароў і ювеліраў. Рамеснікі апрацоўвалі не толькі жалеза, але і каляровыя металы, золата.





Пры раскопках дзядзінца і вакольнага горада археолагамі было знойдзена мноства вырабаў з жалеза, каляровых металаў, золата, шмат рэшткаў керамічнага посуду. Побач з вынікамі працы мясцовых майстроў былі знойдзены таксама і імпартныя рэчы, вырабы Візантыйскай і Сірыйскай вытворчасці. Старажытны Новагародак у той перыяд меў шырокія гандлёвыя сувязі з Заходняй і Цэнтральнай Еўропай, Скандынавіяй, Кіевам, Сірыяй і Візантыяй. З Еўропы сюды прывозілі каляровыя металы, з Кіева — аконнае шкло, шкляныя вырабы, упрыгожванні. Унікальнай часткай імпартных тавараў, якія паступалі ў Новагародак быў Візантыйскі і Сірыйскі посуд. Гэта прадметы з тонкага бясколернага, малочна-белага і каляровага шкла распісанага золатам, нярэдка ў спалучэнні з каляровай эмаллю. Пасудзіны візантыйскага паходжання (кубкі, флаконы, чашы, вазы) былі зроблены з высакаякаснага шкла, па-мастацку распісанага золатам і рознакаляровымі эмалямі. Сярод усходняга імпарту цікавай з'яўляецца навагрудская калекцыя фаянсавай керамікі з люстраным роспісам, якая выканана кобальтам і марганцам пад бясколернай палівай. Такі посуд выраблялі ў гарадах Ірана.

У Навагрудку знойдзены кавалкі амаль 130 шкляных вырабаў са старажытнарускіх, заходнееўрапейскіх, візантыйскіх майстэрняў. Па колькасці такога посуду Новагародак займае першае месца сярод іншых гарадоў. Мяркуецца, што гэты посуд выкарыстоўваўся не толькі ў побыце гараджан і мясцовай знаці, але і падчас правядзення царкоўных богаслужэнняў.

Унікальным прадметам, знойдзеным пры раскопках у Навагрудку можна лічыць кубак з дымчатага шкла вышынёй 12 см., арнаментаваны з прымяненнем тэхнікі разьбы, шліфоўкі і гравіроўкі. На яго сценках выразаны фігуры льва і грыфона, а таксама дрэва жыцця. Падобныя сасуды можна пабачыць у музеях Польшчы, Германіі, Галандыі, Вялікабрытаніі. Яны носяць назву "Hedwigsglaeser". Згодна з паданнем, такі кубак належаў Ядвізе, жонцы герцага Сілезіі. Знаходка з Навагрудка, па этымалогіі блізкая да "Hedwigsglaeser". Магчыма, гэты кубак трапіў да нас з Еўропы і выкарыстоўваўся ў абрадзе каранацыі Міндоўга (1253 г.). Рэканструкцыя гэтага кубка знаходзіцца ў экспазіцыі Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея. Большасць знаходак з археалагічных раскопак Навагрудка захоўваюцца сёння ў Санкт-Пецярбургу, у Эрмітажы.

Унікальным экспанатам з'яўляецца і кавалак шкляннога посуду распісанага золатам з выявай святога, які знойдзены ў 1992 годзе экспедыцыяй беларускіх археолагаў пад кіраўніцтвам Т.Бубенькі падчас раскопак Навагрудскага замка. Хутчэй за ўсё, гэта частка кубка, які выкарыстоўваўся пры правядзенні богаслужэнняў. У Навагрудскі музей прадмет быў перададзены археолагамі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК,
Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: кавалак шкла з выявай святога, перададзены ў музей беларускімі археолагамі; рэканструкцыя кубка Ядвігі.

Фота Кацярыны Дземянчук

# На ніве талачынскай гісторыі

З Талачына, вядомага раённага гарадка на Віцебшчыне, прыйшла невялічкая бандэроль. Анатоль Шнэйдар даслаў сваю новую кнігу — "Сінявокая Талачыншчына". Невялікая памерам, яна выйшла ў Мінску накладам 1000 асобнікаў. Ізноў краязнаўца з паўвекавым (а мо і болей чым паўвекавым) стажам расказвае пра сваю родную старонку.



Яму, Анатолю Антонавічу, вельмі пашчасціла ў жыцці. Ён і нарадзіўся, і жыве ўвесь час на Талачыншчыне, у Талачыне. Хіба што трэба адняць ад гэтага гады вучобы ў Аршанскім тэхнікуме чыгуначнага транспарту і пяць гадоў працы на Пермскай чыгунцы. Некалькі слоў з аўтабіяграфічнай нататкі Анатоля Антонавіча: "Нарадзіўся 13 кастрычніка 1930 у вёсцы Парэчча Талачынскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і сельскіх інтэлігентаў. Маці, Зінаіда Пятроўна, ураджэнка вёскі Парэчча, працавала настаўніцай. Бацька, Антон Пятровіч, з вёскі Малінаўка, што на Магілёўшчыне, якая пасля Чарнобыльскай навалы знікла з карты Беларусі. У 1927 годзе пасля заканчэння Горацкай акадэміі сельскай гаспадаркі быў накіраваны ў Талачынскі раён для правядзення калектывізацыі. Працаваў інжынерам — землеўпарадчыкам райзямаддзела.

Само ж прозвішча Шнэйдар, адзінае ў раёне, бярэ пачатак ад прапрадзеда. Пасля смерці бацькоў той, як перадавалася з пакалення ў пакаленне ў сям'і Шнэйдараў, застаўся малым дзіцем адзін, круглым сіратой. У пошуках кавалка хлеба хадзіў ад вёскі да вёскі, пакуль яго не пашкадаваў нейкі кравец, узяў да сябе, навучыў кравецкай справе. Акуратнасць, абавязковасць і руплівасць хлопца аднойчы хтосьці параўнаў з увішнасцю нямецкага краўца, а слова кравец на нямецкай мове гучыць як Шнэйдар. Не ведаючы сапраўднага прозвішча, далёкі продак панёс дадзеную яму мянушку далей у жыццё ў якасці прозвішча…"

Відавочна, цікавасць да свайго, уласнага і зрабіла з юнага Анатоля аматара гісторыі. Можа быць, гэтая якасць перадалася нават на генетычным узроўні. Першая публікацыя з'явілася ў друку ў газеце "Піянер Беларусі" ў 1944 годзе. Тэма апавядання — вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. "Я добра ведаў тое, аб чым пісаў, таму напісанае атрымалася шчырым і было добра прынята рэдакцыяй і чытачамі", — напіша праз шмат гадоў А. Шнэйдар пра той першы вучнёўскі вопыт. Відаць, і гэтая акалічнасць, і гэтае жаданне расказваць пра тое, што добра ведаеш, паспрыяла развіццю краязнаўчых зацікаўленняў Анатоля.

…Пасля будзе шмат яшчэ чаго ў жыцці: работа ў раённай газеце, райкаме партыі, вучоба ў партыйнай школе… З'явілася жаданне падмацаваць убачанае ведамі з архіваў і бібліятэк. Так нарадзілася кніга "Талачын. Гісторыка-эканамічны нарыс" (Мінск, выдавецтва "Беларусь", 1983 год). А ў "раёнцы" з'явіўся цыкл публікацый пад агульнай назвай "Талачыншчына. Мінулае і сучаснасць". Гэта зараз зробленае А. Шнэйдарам у тыя гады камусьці можа падацца не дужа істотным па маштабах. Але не забывайцеся, як заўсёды цяжка ісці па цаліне, быць першапраходцам.

У дадатак да краязнаўства Анатоль Антонавіч захапіўся кінасправай. І тут выявіліся ўсе яго таленты. Прайшоўшы сотні кіламетраў з кінакамерай, талачынскі асветнік зрабіў болей як сто фільмаў. Арганізаваў у раёне кінавідэаклуб "Летапіс". А кінатрыпціх "Боль мая — вёска" ("Паміраючая вёска", "Кінутая вёска", "Вёска, якой няма") — гэта не толькі высокамастацкі і выразна публіцыстычны твор, але яшчэ і помнік некалькім пакаленням, сведчанне пра час і многія яго складанасці.

Праца А. Шнэйдара — у яго шматлікіх публікацыях і кнігах. Артыкулы даследчыка друкаваліся і ў гісторыка-дакументальнай хроніцы Талачынскага раёна "Памяць". Падзеяй можна лічыць і нядаўнюю кнігу "Сінявокая Талачыншчына". Па традыцыі краязнаўца спрабуе аб'яднаць мінуўшчыну і сучаснасць. Імкнецца давесці чытачу ўсю ўнікальнасць роднай старонкі. Публіцыстычны запал, маральнасць і духоўнасць, выверанасць фактаў і падзей — усё гэта прысутнічае ў кнізе, робіць яе патрэбнай не толькі ў рэгіёне. Няма ніякіх сумненняў, што наступныя пакаленні даследчыкаў, сталічных і мясцовых краязнаўцаў, тых, каго зацікавіць Талачыншчына, Віцебшчына праз дзесяць-дваццаць і болей гадоў, як першакрыніцу будуць выкарыстоўваць і работы Анатоля Шнэйдара.

Мікола ПРЫТЫКА

На здымку: інтарэс да родных мясцін у А. Шнэйдара — з маладосці.

Калі нумар падпісваўся ў друк, стала вядома аб прысваенні Анатолю Антонавічу звання "Ганаровы грамадзянін Талачынскага раёна". Дарэчы, днямі А. Шнэйдару споўнілася 80 гадоў. Віншуем! І рады, што краязнаўчая руплівасць так высока адзначана землякамі!

Няма ўжо сёння на Чырвонаармейскай вуліцы (да верасня 1939 года гэта была вуліца 3 Мая) у Слоніме хаткі, дзе жыў Гальяш Леўчык. Гэта была не хатка, а сапраўдны скарб! Склаў праект гэтай хаткі і будаваў яе ў 1920 годзе сам паэт, разабраўшы старую бацькаву хату. Яна прастаяла да пачатку 1960-х, але пасля была знесена. Цяпер на тым месцы — Слонімскі аўтарамонтны завод. Шкада, а мог бы быць там добры музей нашаму паэту. Хатка Гальяша Леўчыка нагадвала маленькі архіў-музей. На ўсіх сценах былі малюнкі ў пазалочаных рамачках яго работы, фотаздымкі, сярод якіх вялікі алейны партрэт самога Гальяша работы варшаўскага мастака Барвіцкага. Шмат было розных кніжак, роспісаў, старых рэчаў. Паэт цікавіўся гісторыяй Беларусі, збіраў народнае мастацтва, калекцыяніраваў усё беларускае — кнігі, паштоўкі, значкі, музычныя інструменты. Ды і сам добра іграў на гітары, скрыпцы і акарыне.

# Чалавек дзвюх эпох

Падобны музей беларускай літаратуры і мастацтва быў і ў ягонай кватэры ў Варшаве. Летам Гальяш Леўчык жыў у Слоніме, а зімою — у сталіцы Польшчы. Захаваўся ўспамін Зоські Верас пра варшаўскую кватэру Гальяша Леўчыка (напісана ў 1984 г.): "Адзін даволі вялікі пакой, даўгі-даўгі, з адным акном. Пакой здаваўся вузкім таму, што адна яго сцяна была адбудаваная даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да століі. І на іх — кніжкі, кніжкі... Сапраўды, бібліятэка вялікая, цікавая і каштоўная. Сабрана хіба ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове. Усе гадавікі "Нашай Нівы" ад самага яе пачатку, "Гоман", некалькі нумароў "Мужыцкай праўды", Францішак Багушэвіч: Дудка, Смык..., "Сялянка" Дуніна-Марцінкевіча ды іншыя яго творы... Купала, Колас... Усё, што выдала Суполка "Загляне сонца і ў наша ваконца"... І ўсе тамы "Lud Bialoruski" М. Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку аўтарам... Усе паліцы ўпрыгожаныя партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі... Шмат з таго было купленым, але шмат і падараваным аўтарамі ды знаёмымі".

З Варшавы зноў вернемся ў Слонім, дзе жыў наш "дзядзька Гальяш". Дзядзькам Гальяшом яго звалі маладзейшыя слонімскія паэты, мастакі, музыканты. У доміку № 73 на вуліцы 3-га мая ў Слоніме часта бывалі паэты Анатоль Іверс, Сяргей Хмара, Сяргей Новік-Пяюн, мастак Антон Карніцкі, паэтка Наталля Арсеннева, якая некалькі гадоў жыла ў Слоніме, а таксама Ядвіся. Так-так, тая самая Ядвіся, якую апісаў Якуб Колас у аповесці "У палескай глушы". Пра гэта пры жыцці не раз расказваў Сяргей Новік-Пяюн. Ён нават меў сустрэчу з Ядвісяй, іх пазнаёміў Гальяш Леўчык. Прозвішча ў яе было — Бараноўская. Яна пісала вершы і друкавала ў "Нашай Ніве" пад псеўданімам Юстына. У 1945 годзе Ядвіся пакінула горад над Шчарай і выехала ў Польшчу. Як склаўся яе далейшы лёс, невядома.

Да Гальяша Леўчыка ў Слонім прыязджалі многія беларускія дзеячы. Гасцявалі ў яго хатцы мастак Язэп Драздовіч, пісьменніца і дзеячка Зоська Верас, фалькларыст і кампазітар Антон Грыневіч, Міхась Лынькоў, Адам Станкевіч і нават адночы Янка Купала. Было гэта 14 лістапада 1939 года. Песняр вяртаўся з Беластока з Народнага сходу Заходняй Беларусі. Па дарозе на Мінск ён на сваім "Шаўрале" заехаў у Слонім, бо ведаў, што тут жыве Гальяш Леўчык. Пасля гутаркі Янка Купала запрасіў Гальяша ў "Першы беларускі рэстаран", які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Яны паабедалі разам і развіталіся. Больш у жыцці паэтам сустрэцца не давялося.

Ілья Ляўковіч меў шмат сяброў. Яны прыязджалі не толькі ў Слонім, але і часта пісалі пісьмы, дасылалі кнігі, паштоўкі, часопісы. А вось сяброўкі, гаспадыні ў доме ў яго не было. І неяк у 1932 годзе ён прачытаў у газеце "Кур'ер Кракаўскі" аб'яву, дзе 30-гадовая жанчына з Ваўкавыска, якая піша апавяданні, хацела б выйсці замуж. Гальяш Леўчык напісаў жанчыне пісьмо. Пачалася перапіска, а праз пэўны час яны спаткаліся. Жанчына аказалася прыгожай і вельмі спадабалася слонімскаму паэту. Праўда, яна любіла жыць раскошна. І гэта Гальяша Леўчыка трохі насцярожвала. Ён нават заехаў у Дзярэчын да свайго сябра Яна Пятроўскага (жыў і памёр у ЗША), каб пагутарыць пра сваю будучую жонку. Той яго адгаворваў, каб не жаніўся з польскай дзяўчынай з Ваўкавыска. Але Гальяш не паслухаў сябра, і праз пэўны час слонімскі паэт і польская дзяўчына Зося ўзялі шлюб.

Няпроста жылося Гальяшу Леўчыку з Зосяй Ляўковіч. Яна жыла, як хацела сама. Усе зберажэнні мужа жанчына праз некаторы час пусціла ў распыл. А ў гады Другой сусветнай вайны за ёю сачыла нямецкая паліцыя, якой не падабаліся яе частыя выезды ў Варшаву. Паліцыя ўзяла ў яе распіску аб нявыездзе са Слоніма. Зося ўсё ж працягвала свае паездкі. Яе хутка арыштавалі, і ў камеру паліцыя падсадзіла правакатаршу, якой жанчына расказала, што яна захоўвае ў падушцы польскі сцяг з арлом. На кватэры немцы сапраўды знайшлі сцяг і незадоўга пасля гэтага ў 1942 годзе расстралялі яе на Пятралевіцкай гары каля Слоніма.

Гальяш Леўчык цяжка перажываў страту Зосі. У 1942 годзе са Слоніма ён падаўся ў Варшаву, каб выратаваць сваю кватэру і архіў. Але там, у кватэры ўжо жыла іншая сям'я, якая нічога не ведала пра папярэдніх кватарантаў. Так наш земляк застаўся без жонкі, без кватэры і без архіва. У акупіраванай немцамі Варшаве ён галадаў, а на пачатку 1944 года паэта не стала.

Да вышэй сказанага пра Гальяша Леўчыка хочацца нагадаць і яго біяграфічныя звесткі.



Нарадзіўся Ілья Ляўковіч роўна 130 гадоў таму — 20 ліпеня 1880 года ў Слоніме, куды пераехаў яго бацька з-пад Ружан у пошуках "шчасця-долі ў шырокім свеце". Ілья скончыў Слонімскае гарадское вучылішча, служыў пісарчуком у каморніка, а пасля працаваў у канцылярыі суддзі.

Набыўшы на курсах прафесію чарцёжніка, наш зямляк падаўся ў Варшаву. Там ён уладкаваўся на працу ў будаўнічы аддзел Варшаўскага магістрата. У пачатку 1920-х гадоў Ілья Ляўковіч спрабаваў перабрацца ў Вільню, але ў рэшце рэшт вярнуўся назад у Варшаву і жыў там на становішчы то дробнага служачага, то беспрацоўнага.

З 1907 года Ілья Ляўковіч супрацоўнічаў з газетай "Наша Ніва", куды дасылаў вершы, якія падпісваў псеўданімам Гальяш Леўчык. "Наша Ніва" моцна прывязала варшаўскага інтэлігента да беларускай справы, залічыла ў свой актыў. У Варшаве ён збірае сродкі на пасмяротнае выданне зборніка твораў Сяргея Палуяна, шукае платную рэкламу для "Беларускага календара", выпытвае ў збяднелых арыстакратаў Польшчы граматы, пячаткі, беларускія выданні. У Варшаве Гальяш Леўчык аб'ядноўвае вакол сябе беларусаў, аказвае бясконцыя таварыскія паслугі новым сябрам і знаёмым: апякуецца прыезджымі, гуртуе ў зямляцтва, каб не прапалі ў вялікім горадзе і не забыліся беларускай мовы. Шмат піша сам. А ў 1912 годзе ў Вільні выходзіць яго першы зборнік вершаў "Чыжык беларускі", які рэдагаваў Янка Купала.

У 1980 годзе беларускі літаратуразнавец Янка Саламевіч сабраў і апублікаваў асобнай кнігаю яго выбраныя творы пад загалоўкам "Доля і хлеб".

І сёння чытаючы вершы Гальяша Леўчыка, якія ён напісаў у першай палове ХХ стагоддзя, адчуваеш іх сённяшнюю актуальнасць і смеласць.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Пяць год на стужцы часу

Пяцігадовы юбілей адзначыў музей "Гісторыі педагогікі Гарадзеншчыны XII — XXI стст.", які існуе ў ліцэі № 1 горада Гродна і ў сваёй дзейнасці кіруецца дэвізам: "Няхай віецца вакол жалезнай логікі фактаў сярэбраная стужка фантазіі!"

Па словах дырэктара ліцэя Андрэя Панцэвіча, музей ствараўся цэлых 10 год з непасрэдным удзелам вучняў. Яны дапамагалі збіраць экспанаты, афармляць стэнды. Ініцыятыва адкрыцця музея зыходзіла ад настаўніка астраноміі і вядомага краязнаўцы Алеся Госцева, які фарміраваў у вучняў цікавасць да гісторыі Гродна, прыцягваў іх да актыўнай працы ў гэтым накірунку. Пад музей быў адведзены звычайны кабінет рускай літаратуры, роспіс сцен і афармленне стэндаў зроблены ўласнымі сіламі.

Галоўная мэта стварэння музея — цэласнае асэнсаванне педагагічнай прасторы Гродзенскай вобласці XXI ст. Агульную канцэпцыю Алесь Госцеў вызначыў як даследаванне і адлюстраванне працэсу развіцця адукацыйна-выхаваўчай парадыгмы рэгіёна праз асобы педагогаў і вучняў, адукацыйныя ўстановы разнастайных тыпаў, любыя іншыя структурныя складнікі педагагічнай прасторы Прынямоння на фоне геапалітычных XII — XXI стагоддзяў з цэнтрам у горадзе Горадзен (Гродна), вызначэнне гісторыка-культурных страт і дасягненняў. Агульная канцэпцыя музея выявлена ў пакоі праз 299 экспанатаў, 10 стэндаў і 10 вітрын, а таксама праз 2 асобныя вітрыны з набыткамі актывістаў музея (крэйдавыя скамянеласці, старажытныя кераміка, посуд, кафля), якія былі сабраны падчас навуковых і краязнаўчых экспедыцый па Старым Гродне і наваколлі, Свіслачыне, Воранаўшчыне. Акрамя гэтага на базе музейнага пакоя пад кіраўніцтвам Алеся Пятровіча працуе краязнаўчая лабараторыя "Карані і вытокі".

За 5 год афіцыйнага існавання музея было праведзена 212 мерапрыемстваў (экскурсіі, прадметныя і пазакласныя заняткі, інфармацыйныя гадзіны, творчыя сустрэчы, прэзентацыі кніг, археалагічныя семінары і семінары па Гродназнаўстве, пасяджэнні секцыі "Музейная педагогіка" ў межах ліцэйскай канферэнцыі "Свет майго Я" і інш.), зарэгістравана 4929 наведвальнікаў. У 2008 годзе музей прыняў удзел у гарадскім конкурсе школьных музеяў і атрымаў дыплом І ступені за навукова-даследчую дзейнасць.

Павіншаваць з днём нараджэння музей прыйшлі выпускнікі ліцэя, дырэктар музея Васіля Быкава Мікалай Мельнікаў, супрацоўнікі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, студэнты факультэта гісторыі і сацыялогіі ГрДУ імя Янкі Купалы, настаўнікі гісторыі з іншых школ Гродна. Планавалася правесці "круглы стол", але Алесь Госцеў прапанаваў, каб кожны прысутны выказаў свае думкі і ўражанні ад музея. Таму было сказана шмат добрых слоў у адрас гаспадароў, ды і музей павялічыў колькасць экспанатаў за кошт новых падарункаў старых сяброў.

Анастасія ВЕСЯЛУХА

Старонкі мінулага

# Канстытуцыі нашай краіны




Доктар гістарычных навук Анатоль Сарокін усё жыццё займаўся вывучэннем гісторыі сялянства, а таксама асаблівасцей развіцця саўгасаў у даваеннай БССР. Апошняя тэма стала асновай яго кандыдацкай і доктарскай дысертацый.

Серыя "Гуманітарныя навукі", заснаваная выдавецтвам "Права і эканоміка" ў 2008 годзе, папоўнілася манаграфіяй гісторыка Анатоля Сарокіна "Покліч роднай зямлі. Канстытуцыі Беларусі Савецкай эпохі".

Трагічнаму лёсу вясковага насельніцтва Беларусі прысвечана некалькі манаграфій навукоўца, якія аб'ядноўвае часавым прамежкам "Ад дэкрэта да Кодэкса аб зямлі (1917 — 1990-я гады)". У 2000 годзе Сарокін стаў прафесарам кафедры тэорыі і гісторыі права Беларускага інстытута правазнаўства, што абумовіла яго інтарэс да дадзенай тэматыкі. Таму цалкам лагічным стаў выхад манаграфіі "Покліч роднай зямлі. Канстытуцыі Беларусі Савецкай эпохі".

Па словах самога Сарокіна, "манаграфія заснавана на аснове аналізу зместу беларускіх савецкіх канстытуцый і правапрымяняльнай практыкі. Пры гэтым у разгорнутым выглядзе выяўлена спецыфіка айчыннай канстытуцыйнай творчасці, ударкладзены некаторыя палітычныя дактрыны і навуковыя погляды, прасочана станаўленне і развіццё дзяржаўнаправавых інстытутаў нашай краіны". Адпаведна аўтарскай задуме выбудавана структура кнігі. Першы раздзел, "Стварэнне беларускай савецкай дзяржаўнасці (1919 — 1921)", разглядае насычаны перыяд беларускай гісторыі, які прывёў да неабходнасці распрацоўкі першай савецкай канстытуцыі ў 1919 годзе. Другі, "Другая і трэцяя канстытуцыі Беларускай ССР", аналізуе прававыя нормы асноўных законаў краіны 1927 і 1937 гадоў. Трэці, "Чацвёртая канстытуцыя Беларускай ССР", прысвечаны зместу "брэжнеўскай канстытуцыі" 1978 года, яе падабенствам і адрозненням ад папярэдніх.

Паколькі аўтар манаграфіі працуе ў ВНУ, відавочны яго зварот не толькі да навуковых супрацоўнікаў, але і таксама выкладчыкаў, аспірантаў, магістрантаў, студэнтаў юрыдычных і неюрыдычных факультэтаў ВНУ. Таму выданне мае як навуковы, так і навучальны характар. Да праяў навуковага несумненна адносяцца згаданыя вышэй раздзелы. Да навучальнага — змешчаныя ў дадатку заданні для самакантролю, якія ўключаюць гласарый (тэрмін і яго тлумачэнне), пытанні ў тэставай форме і трэнінг. Лепшаму ўспрыманню эпохі дапамогуць і выявы сімвалаў беларускай дзяржаўнасці. Як дадатак у кнізе — поўныя тэксты ўсіх чатырох асноўных законаў краіны.

Нягледзячы на абмежаваны наклад (усяго 150 асобнікаў), даследаванне Анатоля Сарокіна несумненна знойдзе свайго чытача, які зацікавіцца вывучэннем нашай гісторыі. Адзінай істотнай заўвагай як аўтару, так і выдавецтву з'яўляецца сітуацыя са спасылкамі. Як вядома, існуе некалькі сістэм іх афармлення (оксфардская, праз квадратныя дужкі, з вынасам спасылак у канец старонкі або ў канец тэксту). Варыянт, прапанаваны Сарокіным (поўны бібліяграфічны запіс у дужках пасярод тэксту), безумоўна мае права на існаванне і істотна спрашчае працу як аўтару, так і выдавецтву. Але ён больш прыдатны для малых па памеры тэкстаў. У буйных манаграфіях, насычаных фактамі і складаным апаратам тэрмінаў, такі падыход спрыяе нагрувашчанню інфармацыі і толькі ўскладняе ўспрыманне матэрыялу.

Канстытуцыя незалежнай Беларусі 1994 года (са змяненнямі і дапаўненнямі 1996 і 2004 гадоў) яшчэ чакае свайго даследчыка. Таму будзем спадзявацца на працяг аўтарскага даследавання.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Цытаваць Гусейна Джавіда можна гадзінамі

**На пытанні галоўнага рэдактара часопіса "Нёман" Алеся Бадака адказвае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Азербайджан у Рэспубліцы Беларусь Алі Тэймур аглы Нагіеў.**



— Мяне як пасла радуе тое, што з кожным годам мацнеюць нашы культурныя сувязі. За апошнія гады больш за дзесяць разоў толькі на адной з галоўных сцэн Беларусі, на сцэне Белдзяржфілармоніі, была прадстаўленая як народная, так і класічная азербайджанская музыка. Я шчаслівы, што ў беларускага гледача ёсць магчымасць знаёміцца з азербайджанскім мастацтвам і на тэатральных падмостках, і ў рамках кінафестываляў. Спадзяюся, што і надалей мы будзем актыўна супрацоўнічаць у гэтым кірунку, развіваючы культурныя традыцыі.

— Асабліва хацелася б пагаварыць аб нашых культурных узаемасувязях. Значэнне іх цяжка пераацаніць. Бо гэта тое, што дапамагае нам лепш зразумець адзін аднаго, што робіць нас бліжэй у духоўным плане. У ХХ стагоддзі ў перакладзе на беларускую мову ў нашай краіне выходзіла нямала твораў азербайджанскіх пісьменнікаў. У прыватнасці, выдаваліся кнігі М.Ібрагімава, Абульгасана, З.Вяліева, М.Тофіка… Непараўнальны голас Мусліма Магамаева і сёння гучыць у сэрцах шматлікіх прыхільнікаў яго творчасці ў Беларусі. Фільмы, знятыя па сцэнарыях Р.Ібрагімбекава, знаходзяцца ў калекцыях сотняў тысяч беларускіх кінаманаў…

— Вы вельмі дарэчы сказалі: няма лепшага спосабу прадставіць адзін аднаму народы, чым пазнаёміць іх з культурнымі каштоўнасцямі кожнага. Толькі што было сказана, што такое дынамічнае ўсебаковае развіццё адносін паміж Азербайджанам і Беларуссю шмат чым абавязана волі нашых прэзідэнтаў. Калі ёсць гэтая тонкая нябачная сувязь паміж народам і яго лідарам, калі ў адным напрамку накіраваныя іх погляды, тады і станоўчы вынік відавочны. Каб не быць галаслоўным у сваіх меркаваннях, я буду спасылацца на Цэзара і Вальтэра, якія лічылі: "Кожны народ варты свайго кіраўніка" і "Кожны ўладарыць над сабе падобнымі". І тут да месца будзе пытанне: а хто мы такія? Якія мы ўвогуле? Не толькі для саміх сябе, але і для ўсёй сусветнай супольнасці. І тут мы звяртаемся да сапраўдных каштоўнасцей — культурнай спадчыны… Толькі яна і нішто іншае дазваляе нам насіць гордае імя народа — высокаразвітага і цывілізаванага.

Я ганаруся тым, што я азербайджанец, таму што за маімі плячыма адна з найстаражытных, найбагатых культур чалавецтва. Скажыце, які народ свету не жадаў бы мець нашага Нізамі, які стварыў пяць фундаментальных акадэмічных паэм 800 гадоў таму; Насімі (ХІV ст.), Фізулі (ХVІ ст.), Мірзу-Фаталі (ХІХст.), Джавіда (ХХ ст.), Сабіра (ХХ ст.), Узеіра Гаджыбекава (ХХ ст.) і яшчэ многіх іншых? Менавіта гэтыя вялікія людзі ўславілі каштоўнасці майго народа, дзякуючы чаму гэтыя каштоўнасці захоўваюцца і памнажаюцца да сённяшняга дня. Багатая культурная спадчына ёсць і ў Беларусі, і аб ёй з гонарам можна заяўляць ва ўсім свеце. Дык чаму ж, прадстаўляючы народы, мы павінны хаваць такія каштоўнасці, ды гаварыць толькі аб тавараразваротах, колькасці пастаўленых трактароў... Усё гэта — бягучыя паказчыкі: сёння гандаль ідзе з адной краінай, а заўтра, можа быць, выгадней будзе супрацоўнічаць з іншай… А вось культурныя каштоўнасці, якія аднойчы запалі ў сэрцы людзей, я ўпэўнены, затрымаюцца ў іх надоўга. Сёння, калі я слухаю Моцарта, Бетховена, чытаю Канфуцыя, Дастаеўскага, то не задумваюся аб тым, у якой краіне нарадзіліся гэтыя людзі. Сваім геніем яны пераадолелі нацыянальны бар'ер і сталі набыткам усяго чалавецтва. Да такога духоўнага адзінства і трэба імкнуцца. Менавіта таму я заўсёды кажу: трэба шанаваць інтэлігенцыю, берагчы яе, бо яна з'яўляецца рухаючай сілай народа. Менавіта інтэлігенцыя бярэ на сябе адказнасць праносіць скрозь пакаленні створаную на працягу стагоддзяў спадчыну. Разуменне ўсяго гэтага, на мой погляд, і ёсць сапраўдная дружба народаў.

— Разам з тым, азербайджанскую культуру апошніх дзесяцігоддзяў мы, на жаль, ведаем не так добра, як гэтага хацелася б. Несумненна, сучасная культура Азербайджана заслугоўвае асобнай размовы, таму, калі дазволіце, я хачу даведацца аб вашых зацікаўленнях у той сферы сучаснай азербайджанскай культуры, якая вам найбольш блізкая?

— Для мяне асабіста блізкая тая культура, якая захоўвае свой нацыянальны твар. Гэта значыць, калі глядзіш, слухаеш, чытаеш — адразу ловіш сябе на думцы: гэта, да прыкладу, азербайджанскае, а гэта — беларускае. Вось што для мяне асабліва важна. Я не бачу ніякай каштоўнасці ў мастацтве, узровень якога залежыць ад таго, які выканаўца больш распранецца на сцэне. Мне блізкія тыя творчыя пошукі, якія захоўваюць сваю годнасць, а такога, на жаль, сёння не так шмат.

Вядома, Муслім Магамаеў — найвялікшы талент. Ён належыць не толькі нам, але і ўсяму свету. І мы ганарымся тым, што ён сын азербайджанскага народа. Ганарымся і Рустамам Ібрагімбекавым — кінарэжысёрам, адзіным азербайджанскім лаўрэатам прэстыжнай кінапрэміі "Оскар".

Я павінен прызнаць, што ў сувязі з вераломнай экспансіяй заходніх эстрадных жанраў наша сучасная культура павольна набліжаецца да прорвы. Усе цяпер у пагоні за "шоу" — яркай абгорткай, пад якой пустэча. Назіраць за ўсім гэтым асабліва балюча, калі ведаеш, якая найбагацейшая спадчына застаецца ў цені і быццам бы ігнаруецца новым пакаленнем. Як можна ўслаўляць азербайджанскую музыку, адварочваючыся ад яе вытокаў, якія налічваюць (толькі ўявіце!) больш за паўтарастагадовую гісторыю, прычым, нацыянальны каларыт ашугскага мастацтва не толькі захаваўся, ён стаў яшчэ ярчэйшым у нашы дні. Больш за сто гадоў таму Узеір Гаджыбекаў стварыў першую на ўсім мусульманскім Усходзе оперу на аснове легендарнай усходняй музыкі — азербайджанскага мугама, Рашыд Бейбутаў амаль да канца ХХ стагоддзя сваім рэдкім дарам эстраднага выканання заваёўваў увесь свет, — а ён жа ў сваёй творчасці пастаянна звяртаўся да нацыянальнага мастацтва. У нас былі сапраўдныя геніі паэзіі, сімфанічнай музыкі, якія ўславілі ў свой час Азербайджан. Тым больш, што ёсць пакуль у каго вучыцца: гэта і Арыф Мелікаў, і Фархад Бадалбейлі, і сёстры Касымавы…

— У чарговым нумары часопіса "Нёман" будуць надрукаваныя творы выдатнага азербайджанскага паэта і драматурга Гусейна Джавіда. Некалькі яго кніг захоўваюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, але, як мне здаецца, для шматлікіх чытачоў часопіса "Нёман" гэтае імя стане адкрыццём. У Азербайджане ж, наколькі мне вядома, да памяці Джавіда, чалавека, чый лёс быў вельмі трагічным, адносяцца з адмысловай павагай.

— Я шчыра рады, што вы гаворыце са мной аб Джавідзе. Вы ведаеце, калі б гэты вялікі паэт-драматург належаў не Азербайджану, а, скажам, французскаму, англійскаму, нямецкаму народам, слава аб ім грымела б па ўсім свеце, і сёння б яго ўслаўлялі не менш, чым Шэкспіра, Гётэ або Гюго… На жаль, азербайджанскі народ па шматлікіх прычынах (не будзем распачынаць сёння гэтую палеміку) не змог годна прадставіць Гусейна Джавіда на сусветным узроўні.

Гусейн Джавід — не толькі паэт, не толькі драматург… Ён — філосаф! Аб ім я скажу так: гэта адметны мысляр, які здолеў за сваё трагічнае жыццё ўзняць найцяжэйшы пласт духоўнага багацця мудрага Усходу. Гусейн Джавід у сваёй творчасці раскрывае такія праблемы, якія хвалююць не толькі мусульманскі свет, але і ўсё чалавецтва. Ён нібыта разбурае сцяну, што стаіць на шляху нашага развіцця.

Я заўсёды лічыў, што абавязак літаратуры — бачыць, знаходзіць, аналізаваць выйсце з нейкага крытычнага становішча, з якім мірыцца больш нельга. Дык вось, Джавід адзін з нямногіх, хто дабіваецца рашэння падобных задач. Адну з такіх праблем ён раскрывае ў творах "Шэйх-Санан", "Ібліс", "Прарок". Бог пасылае на Зямлю прарокаў, каб адрадзіць у чалавечым грамадстве духоўныя каштоўнасці, не дапусціць маральнага падзення. Калі гэта так (а гэта сапраўды так), то чаму ж на гэтай чыстай аснове ідзе недарэчная варожасць, праліваецца кроў народаў, прыналежных да розных канфесій? Джавід знаходзіць адказ на гэтае пытанне. Уся справа ў любові. Без любові не бывае бацькі і маці, мужа і жонкі, брата і сястры… Трэба ўсяго толькі любіць — шчыра, ахвярна, бескарысліва… Бо і Тора, і Біблія, і Каран кажуць: "Узлюбі бліжняга свайго…" У гэтым залатым правіле маральнасці ўся існасць творчасці Джавіда.

— Я так разумею, Гусейн Джавід — адзін з вашых самых любімых паэтаў. Дарэчы, я чуў, вы былі добра знаёмыя з яго дачкой…

— Гэта сапраўды так. Я наогул люблю паэзію. Гэтае маё хобі, як і музыка. У такіх выпадках я заўсёды ўспамінаю словы Дастаеўскага: "Вучыцеся і чытайце. Чытайце кнігі сур'ёзныя. Жыццё зробіць астатняе". Гэта значыць, што чытаць трэба такіх, як Нізамі, Хафіз, Гётэ, Пушкін, Талстой і, вядома, Джавід… Вы ведаеце, мне настолькі блізкі гэты аўтар, настолькі сінхронна мы з ім думаем, што я магу не толькі гадзінамі аналізаваць яго творчасць, але столькі ж і цытаваць яго.

У 2003 годзе пры маім удзеле ў Баку быў апублікаваны трохтомнік паэта. У прэзентацыі выдання ўдзельнічала і яго дачка Туран-ханум. Яна была шчаслівая, таму што ўвесь сэнс яе жыцця быў у адным — любові да генія бацькі. Мы з ёй былі вельмі духоўна блізкія, яна заўсёды гэта адчувала.

---

Гусейн ДЖАВІД



Лёс класіка азербайджанскай літаратуры Гусейна Джавіда (сапр. Гусейн Расі-задэ) шмат у чым падобны да Купалавага. Ён нарадзіўся ў 1884 г. Першая публікацыя адбылася ў 1906 г. Джавід стаў адным з прадстаўнікоў азербайджанскага рамантызму, з ухілам у сацыяльную і нацыянальную праблематыку. Выдаў шэраг зборнікаў паэзіі і драматургіі. Быў рэпрэсіраваны і загінуў у сталінскім лагеры ў 1944 годзе. Вершы, якія прапануюцца чытачу, з'яўляюцца часткай разгорнутых матэрыялаў па гісторыі азербайджанскай культуры, з якімі цалкам можна будзе пазнаёміцца ў новым нумары часопіса "Нёман".

## Перад багіняй вайны

О помсты вогненнай іскрысты жах,
Багіня войнаў, дзе спакой знайсці?
Нагледзелася ты на кроў, крушэнні, прах:
Трагедыю канчай — заслону апусці!
О геній катастроф,
не зводзь нас, маладых!
Пакінь сваю гульню!
Хай вольным будзе ўздых.

Ад жахаў і згрызот трапеча белы свет,
І стогне пад пятой не толькі род людскі —
Ў зямлі і пад вадой жывым не збегчы бед,
Драпежнікі усе, ашчэрыўшы клыкі, —
Пантэры, львы — равуць,
згубіўшы ўласны след.

Багіня гневу, ты ўсіх перамог тварэц.
Даволі! Свет аглух. Ці стомішся калі?
Ці сечам пакладзеш скрываўлены канец?
Без следу зніклі,
кроў дай усмактаць зямлі.
Спакою прагне свет, чакае волі люд,
Надзеі шугкі ўзлёт —
куды ні глянь — паўсюд.

Калі ўладарыць зло – мярцвее цішыня,
Хоць свет, у рэшце рэшт,
паўстаў з цямрэчы сам.
Свабода – кволы блік. Яна – святлу радня.
Пакуль зямля ў крыві –
не ўсміхнецца вам.
А злы закон зямлі жыве з няпомных дзён,
Якім ні быў бы бог —
ды кроў піць прагне ён.

Ды цемра сыдзе ўсё ж,
а з ёй — крывавы жах.
Надзеі узыход цвіце ў зары сцягоў.
Паўсюд цяпло вачэй, усмешкі на губах:
То справядлівасць нас вітае зноў!
Ды воля на зямлі — сон мройна-залаты.
Свабода, адкажы, ці ёсць на свеце ты?..

## Жанчына Усходу

Кім была я? Забітай жанчынай Усходу!
Хто была я? Аб тым не пытай!
Жанчына Усходу.
Жыла я істотай забытай усімі,
жанчына Усходу.
Душу кіпцюры раздзіралі
нікчэмніка-хціўца, жанчыне Усходу,
ланцуг заржавелы былога
мяне калаціў век бязбожна,
і чорная шаль забабонаў
мне зрок захінала, жанчыне Усходу.
Калі ж заклікала да праўды, —
то вера з законам смяялася
над тым, што гібею ў самоце,
жанчына Усходу.
О не, я не хлусіла, знайце,
прыхільнікі рукі цягнулі,
бо я прыгажуняй была,
жанчына Усходу.
Тапілася ўся я ў шаўках і карунках
ў палацы, бы з казкі паўстаўшы,
жанчына Усходу.
Смяялася з плачам,
прывыкшы да золата клеткі,
я цацка ў пажадлівых пальцах,
жанчына Усходу.
"Мая прыгажуня!" —
султан мяне лашчыў
і тут жа
пасля перадаць мог другому,
жанчыну Усходу.
Ён лена ўсміхнецца:
"Якая гарэза, жанчына Усходу…"
Жыццё маё – ўбогасць, жанчыны Усходу.
То ў Ніл мяне ўкінуць бурлівы,
жанчыну Усходу,
а то на касцёр павядуць,
ахвяру бяздушнага бога,
і ў полымі тленам
я стану — жанчына Усходу.
Яшчэ мне цяжэй,
калі выйду нязграбнай –
у момант
я згіну ў калодзежах,
ямах — жанчына Усходу.
Выносіла ўсё я пакорна,
без стогну, жанчына Усходу.
Была я нічым,
аплявуха — звычайная доля,
больш кволай была за кузурку малую,
жанчына Усходу.
Цяпер жа, далёка ад помнага злога,
смяюся гулліва
і радасць я чую пад небам,
жанчына Усходу.
Не, я не істота паўзучая,
цемра не ўкрые,
і марай высокай жыву я —
жанчына Усходу.
Я вольнай жанчынай Усходу
узношуся гэрда,
лячу скрозь прастору
зіхотнаю зоркай — жанчына Усходу.

* * *

Той, з распушчанымі валасамі,
аддам маю душу.
Затачыла ў цямніцу яна,
прыгажуня, сваімі рукамі маю душу.
Я прасіў яе:
"Адпусці на свабоду маю душу!"
Валасоў ланцугамі апляла —
не прасі! — маю душу.
Паланёны яе хрысціянскай красой,
Паліць, як матылька,
дзівоснаю свечкай маю душу.
Выйшаў Іосіф кветкамі палюбавацца,
Каханая каменнем закрыла душу —
маю душу.
Дачка нявернага маю душу абажала,
Ды толькі ў руіны
перятварыла маю душу.
Усе мае думкі аб стрэчы, жыву я з тугой,
Пафарбавала крывёй яна,
прыгажуня, маю душу.
Руку маю верную зноў адвяла,
На бессань пакутную асудзіла маю душу.
І стаў я, адхілены, у шэйха мюрыдам,
І ў полымі болю, няўцешны,
спалю я маю душу.

Пераклад з азербайджанскай
Міколы Мятліцкага

# Семінарысты



## Штрыхі да біяграфій Міхася Зарэцкага і Андрэя Мрыя



Цікава, што амаль усе даследчыкі творчасці Міхася Зарэцкага, даючы кароткія біяграфічныя звесткі пра гэтага пісьменніка, пішуць пра "асабліва вялікі ўплыў", "рашаючую ролю" службы будучага пісьменніка ў Чырвонай Арміі, пакідаючы без увагі паходжанне Зарэцкага, яго адукацыю. Аднак 6 год навучання ў духоўных установах, на наш погляд, таксама адыгралі сваю ролю ў творчым станаўленні будучага пісьменніка.

Хаця сам Міхась Касянкоў (Зарэцкі) у сваёй аўтабіяграфіі і сцвярджае, што "вучоба і афіцыйна сухі ўплыў большасці педагогаў не маглі кіраваць напрамкам маіх дзіцячых шуканняў" (зб. "Пяцьдзесят чатыры дарогі"), трэба мець на ўвазе, што гэты тэкст пісаўся ў 1928 годзе, калі акцэнты на "уплывах" расстаўляліся згодна з духам часу: небяспечна было засяроджваццa і ўсхваляць сваю духоўную адукацыю ў час, калі афіцыйна "дабраслаўляўся" атэізм.

Як вядома, Міхась Касянкоў чатыры гады вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы (1911 — 1915) і два — у Магілёўскай духоўнай семінарыі (1915 — 1916). "Нравственное воспитаніе въ училищахъ имѣетъ цѣлію положить прочное основаніе религіозно-нравственному образованію учащихся", — заяўлена ва "Уставе праваслаўных духоўных семінарый" 1867 года, дзе «на подлинномъ Собственною ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА рукою написано: "Быть сему". Але "сего" часта не ставала. Наадварот, архівы поўняцца дакументамі кшталту "Данясенне рэктара семінарыі ў Вучэбны камітэт пры сінодзе аб хваляваннях сярод выхаванцаў семінарыі" (1909 г.), дзе падрабязна адлюстраваны далёка не памяркоўныя і аскетычныя паводзіны навучэнцаў ("выходки эти начались топаньем ногъ въ столовой комнатѣ за ужиномъ 4-го Ноября. Поводомъ для этой демонстрации воспитанники выставили якобы негодность постнаго подсолнечнаго масла" (НГАБ, ф. 2257, воп.1, спр.18, арк. 6), альбо "Інспектара той жа Семінарыі Феодора Прэабражэнскага рапарт", дзе была зафіксавана скарга настаўніка семінарыі на тое, што "во время урока и во время чтенія молитвы по окончаніи его кто-то неоднократно бросалъ по классу резиновой калошею" (НГАБ, ф. 2257, воп.1, спр.18, арк. 21). Навучэнцы, далёкія ў сваіх паводзінах ад прыкладнасці, гэтак жа далёкія былі ад прагнозу "быть сему" ў дачыненні да "прочнаго основанія религіозно-нравственнаго образованія" і ў сваіх поглядах. Міхась Касянкоў засведчыць: "...дэталёвае паглыбленне ў таямніцы "свяшчэннага пісання" павінна было прывесці да якога-небудзь з двух супрацьлеглых вынікаў: ці да цвёрдай веры, ці да цвёрдага няверання".

Таму варта больш падрабязна спыніцца на разглядзе арганізацыі самога працэсу навучання ў гэтых установах.

На жаль, падрабязных архіўных дадзеных наконт працэсу навучання ў Аршанскім духоўным вучылішчы наогул (і, у прыватнасці, Міхася Касянкова) амаль няма. Затое, дзякуючы захаванаму ў НГАБ "Журналу педагогического совета" Магілёўскай духоўнай семінарыі за 1912 год, можна рабіць ускосныя меркаванні наконт таго, у якіх умовах адбывалася духоўнае і творчае станаўленне будучага беларускага пісьменніка хаця б у гэтай навучальнай установе.

У Магілёўскай духоўнай семінарыі Касянкоў паспеў правучыцца, як ужо было вышэй адзначана, два гады. За гэты час ён добра пазнаёміўся з такімі дысцыплінамі (з некаторымі — працягваў знаёміцца), як "Тлумачэнне Св. Пісання", "Руская славеснасць з гісторыяй літаратуры", "Грэчаская мова", "Лацінская мова", "Французская і нямецкая мовы", "Матэматыка", "Гісторыя ўсеагульная і руская". Беручы пад увагу выказванне Міхася Касянкова наконт таго, што "агульнажыццё "бурсакоў" да апошняга часу вызначалася сваёй традыцыйнай згуртаванасцю", можна ўскосна меркаваць пра яго кантакты з вучнямі старэйшых класаў і, адпаведна, пра няхай і павярхоўнае, але ўсё ж знаёмства з такімі дысцыплінамі, як, напрыклад, "Логіка", "Псіхалогія", "Агляд філасофскіх вучэнняў", "Дагматычнае багаслоўе", "Педагогіка і дыдактыка", "Чытанне айцоў царквы па-грэчаску" і "Гамілетыка" (вучэнне пра царкоўнае прапаведніцтва). Захаваўся спіс "тэмъ для очередныхъ сочиненій", які ілюструе даволі багатую прастору для ідэйных росшукаў навучэнцаў, думкі якіх часта маглі сягнуць і далей прадугледжанага праграмай (напрыклад, на такія тэмы: "Значение чувствований для душевной жизни", "Методический скепсисъ, какъ путь къ познанию истины", "Умственное и нравственное состояние человека безъ веры въ Бога", "Сравнительное достоинство нравственности, основывающейся на религии, и нравственности автономной" і інш.). Як хутка засведчыць час, назвы некаторых тэм сачыненняў супадуць з накіраванасцю творчых пошукаў Зарэцкага (напрыклад, выпрабаванне на жыццяздольнасць мадэлі чалавека без пэўных маральных установак ("Голы звер")).

Маючы звесткі пра кнігі і перыядычныя выданні, якія знаходзіліся на той момант у фундаментальнай і семінарскай бібліятэках (дзякуючы ўсё таму ж "Журналу педагогических заседаний") і з якімі гіпатэтычна мог быць знаёмы і Міхась Касянкоў, мы можам меркаваць і пра яго супрацьстаянне першаму "ідэйнаму штурму" — пра шлях да "самага грунтоўнага атэізму". Сёння, калі час шмат што расставіў ізноў па сваіх месцах, антысацыялістычныя кнігі шмат у чым здзіўляць і дазволяць зразумець, чаму так шмат атэістаў выйшла з-пад даху менавіта духоўных навучальных устаноў. Бо побач са слушнымі і, як хутка пакажа гісторыя, прарочымі заўвагамі (напрыклад: "...каждый будетъ зависимъ отъ всехъ и все равно будутъ служить одному жестокому тирану — общественному мненію" "Пакроўскі, Op. Cit., c. 97") будуць змяшчацца і вельмі сумнеўныя развагі на карысць хрысціянства ў параўнанні з сацыялізмам: "На самой справе, як, з чаго і каму станe дабрачынствавацъ хрысціянін, калі ў яго асабістай сядзібы не будзе, а нішчымніца знікне? Пры сацыялістычным ладзе, як уяўляецца, усе будуць сытыя, адзетыя, абутыя і пры добрых кватэрах. Як жа тады споўніцца слова Хрыстовае: "нищихъ всегда имѣете съ собою" і як Ён скажа на страшным судзе: "Алкалъ я и вы дали Мнѣ ѣсть, жаждалъ и вы напоили Меня"?" ("Пакроўскі, Op. Cit., c. 27 — 28). Сумнеўныя аргументы не маглі задаволіць навучэнцаў з крытычным складам мыслення. Таму несправядлівым бачыцца меркаванне Я. Троські, наконт таго, што "відаць, толькі нязначная частка з гэтых выхаванцаў змагла захаваць у сабе здаровую вольную думку" ("Некаторыя моманты з дарэвалюцыйнае асьветы на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны", "Полымя", 1926, № 1), маючы на ўвазе ўсіх навучэнцаў царкоўнапрыходскіх школ. Крытычная думка ўзнікае і паспяхова развіваецца нават у самых неспрыяльных умовах, магчыма, нават у нечым дзякуючы ім.

Цалкам верагодна, што першая спроба пяра Міхася Зарэцкага адбылася менавіта падчас навучання ў семінарыі, хай сабе і ў межах абавязковага сачынення. У нас няма магчымасці пазнаёміцца менавіта з гэтымі матэрыяламі, але мы маем сведчанні на карысць плённага творчага развіцця іншых навучэнцаў. Захаваўся, напрыклад, "Докладъ препод. П. Строганова... объ устроенной минувшимъ лѣтомъ подъ его руководствомъ экскурсіи воспитанниковъ Семинаріи въ г.г. Смоленскъ и Москву и Троице-Сергіеву Лавру", дзе выкладчык распавядае пра навучэнца V класа А. Шашалевіча (будучага сатырыка Андрэя Мрыя): "Со средоточенно-вдумчивый, начитанный и довольно уже свободно владѣющий перомъ, этотъ воспитанникъ на многихъ страницахъ Дневника явился выразителемъ не только своихъ личныхъ чувствъ и впечатлѣній отъ всего видѣннаго и слышаннаго, но и всѣхъ участниковъ экскурсіи» (НГАБ, ф. 2257, воп.1, спр.18, арк. 126). Сам жа "Прилагаемый Дневникъ экскурсіи, веденный ученикомъ V кл. А. Шашалевічемъ", у архіве адшукаць не ўдалося. Але кароткае апісанне творчай працы вучня маецца тут жа, у самім "Дакладзе": "...эти впечатленія въ его легкомъ и простомъ по языку изображеніи запечатлѣны характеромъ совершенной новизны, полнаго и живого интереса, самыхъ светлыхъ и желанныхъ ощущеній, большого довольства и не скрываемаго нравственнаго удолетворенія. При такихъ качествахъ Дневника, мнѣ кажется, что по нѣкоторомъ исправленіи допущенныхъ въ немъ юнымъ авторомъ ошибокъ и неточностей, было бы не бесполезно обратить его въ книгу для чтенія воспитанникамъ Семинаріи...".

Цікава, што арганізацыя вышэйзгаданай экскурсіі хутчэй за ўсё мела іншыя, далёкія ад абуджэння творчых здольнасцей навучэнцаў мэты. Цікавы і той факт, што праз год правядзенне падобных экскурсій (ужо для пачатковых школ) будзе прызнана не толькі пажаданым, але і абавязковым мерапрыемствам. Багата звестак пра гэтыя "некаторыя моманты з дарэволюцыйнае асьветы на тэрыторыі сучаснае Магілёўшчыны" месціцца ў аднайменным артыкуле Я. Троські. Аўтар, цытуючы "протокол губэрскае інспэктарскае нарады ад 28 XII — 1913 году ў г. Магілёве, яскрава ілюструе стан справы з мэтамі выхавання ў пачатковых школах Магілёўшчыны на той час: "Па пытанні "аб патрыотычным выхаваньні ў пачатковых школах" у гэтым протоколе гаворыцца, што "для палепшання патрыятычнага выхавання ў пачатковых школах" нарада прызнала неабходным зацьвердзіць абавязковасьць ва ўсіх такіх школах наступных мерапрыемстваў:

экскурсій вучняў, калі магчыма, у больш аддаленыя месцы, асабліва ў тыя краі, пункты, якія з'яўляюцца дарагімі рускаму сэрцу па тым ці іншым гістарычным і рэлігійным успамінам;

нарыхтаваньня ва ўсіх трапных выпадках школьных сьвят, прысьвечаных успамінам аб выдатных падзеях і асобах з рускае гісторыі і жыцьця;

вывучэньня і падрабязнага высьветленьня ў школах патрыотычных вершаў, гымнаў, песень;

выдачы кожнаму скончыўшаму курс навучаньня ў пачатковай школе портрэтаў іх вялічастваў гасудара імпэратара, гасударыні імпэратрыцы і насьледніка цэсарэвіча або асобных альбомаў з портрэтамі аўгусьцейшых асоб царственнага дому.

Хаця абавязковасць правядзення падобных мерапрыемстваў была зацверджана ў адносінах толькі да пачатковых школ, аднак адсюль ужо можна меркаваць наконт агульных мэтаў, якія ставіліся перад настаўнікамі навучальных устаноў усіх узроўняў яшчэ "з 1864 году — эры русіфікацыі" (Троська, Op. Cit., c. 133).

У савецкай крытыцы словы Зарэцкага пра "вучобу і афіцыйна сухі ўплыў большасці педагогаў", якія "не маглі кіраваць напрамкам... дзіцячых "шуканняў", часцей інтэрпрэтуюцца як крытычны водгук на рэлігійнае выхаванне, абмінаючы пры гэтым увагай "некаторыя моманты з дарэволюцыйнае асьветы", звязаныя з правядзеннем русіфікатарскай палітыкі на беларускіх землях, што таксама мог мець на ўвазе будучы змагар за нацыянальную самабытнасць беларускай культуры.

Блізкай да "ўзяцця за рогі" была і бескампрамісная пазіцыя Зарэцкага-публіцыста ў адносінах да шляхоў развіцця беларускай літаратуры і культуры ўвогуле (узгадаем, напрыклад, у г. зв. "тэатральнай дыскусіі").

Міхась Зарэцкі адпачатку адмовіўся ад сляпой веры ў любую ідэю, кім бы яна ні агалошвалася. Так, ён самастойна дайшоў да "цвёрдага нявер'я" ў адносінах да рэлігіі, кінуўшы ў 1917 годзе духоўную семінарыю. Гэтак жа адбудзецца і з голай апалагетыкай рэвалюцыі.

Наталля ПАХОМЧЫК



## Пісьменнік, вучоны, сябар

Пакінуў зямны рай, перасяліўся ў Царства Нябеснае пісьменнік і вучоны Юрый Гусеў. Апошнія дзесяць гадоў мы зблізіліся з ім, пасябравалі і як бы парадніліся. Мы часта сустракаліся. З ім, філасофам па душы і званню, цікава было весці гутаркі пра сусвет і сваю радзіму, пра жанчын і каханне, пра сям'ю і дзяцей.

А ўсё пачалося з таго, што доктар навук Юрый Гусеў прынёс мне ў Дзіцячы фонд на рэцэнзію свой рукапіс кнігі "Вундэркінды Беларусі". Яе, куды б ён не стукаўся, не хацелі друкаваць. А мяне праца вучонага ўразіла. Можа, упершыню так грунтоўна і доказна аўтар аналізаваў наш агульны скарб – таленавітых дзяцей. Даваў парады сем'ям, настаўнікам, выхавальнікам, што і як трэба рабіць, каб своечасова заўважыць, падтрымаць і пусціць у правільным накірунку юны талент. Я заступіўся за гэту патрэбную кнігу, і яна ўбачыла свет.

Наша сяброўства з Юрыем Аляксандравічам мацавалася з гадамі. Яно было і творчым, і плённым. Адна за адной у яго выйшлі кнігі паэзіі і прозы "Судьба юнага гения", "Любовь — начало всех начал", "Я гимны женщине пою", "Беларусь — любовь моя". І я з поўным правам, з чыстым сумленнем рэкамендаваў Юрыя Гусева ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. Мяне падтрымалі іншыя пісьменнікі. Так наша арганізацыя папоўнілася цікавай творчай асобай.

Апошнюю кнігу "Посланцы небес" Юрый Гусеў прынёс у "Вясёлку" за тыдзень да трагічнай даты. Усе мы радаваліся за яго поспех у літаратуры. Але вочы нашага сябра былі ўжо невясёлымі. Яго не стала 2 кастрычніка 2010 года, напярэдадні Дня настаўніка.

Памёр чалавек, які дзесяткі гадоў сам быў настаўнікам вышэйшага гатунку, выкладаў філасофію ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. На яго рахунку шмат падрыхтаваных маладых вучоных. Ён быў добрым і прынцыповым членам ВАКа, які разглядаў кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.

Пісьменніцкая арганізацыя Беларусі, часопіс "Вясёлка" і я асабіста страцілі надзейнага, плённага творцу Юрыя Гусева. Ёсць вера, што яго кнігі будуць намі і нашымі нашчадкамі перачытвацца, яны паспрыяюць выхаванню нашых пачуццяў і душы. Значыць, напісанае Ю.Гусевым застанецца з намі. Хай жа і ў нашых сэрцах застанецца добрая памяць пра інтэлегентнага, сціплага, працавітага і чыстага чалавека, вучонага і пісьменніка Юрыя Аляксандравіча Гусева. Хай жа памяць па ім стане нашай маральнай патрэбай.

Уладзімір ЛІПСКІ

“…І не будзь няверуючым, але веруючым”. Менавіта з такім пасылам ды з гучаннем званоў у Мінску пачаў працу Пакроўскі кірмаш. Па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі духоўна-асветніцкая выстаўка ўжо ў сёмы раз адчыніла свае дзверы для ўсіх жадаючых.






# Тыдзень духоўнасці і веры

Яркае сонейка саграваламі промнямі марозную восеньскую раніцу, калі шмат хто з мінчанаў прыйшоў у Палац мастацва на адкрыццё выстаўкі: так распачынаюцца ў Беларусі каторы год запар святкаванні, прысвечаныя Пакрову Прасвятой Багародзіцы.

Задачамі Пакроўскага кірмашу традыцыйна вызначаны асноўныя: адраджэнне праваслаўнай культуры ў Беларусі, дапамога ў аднаўленні храмаў і манастыроў, адраджэнне царкоўных рамёстваў, а таксама духоўна-маральная асвета і выхаванне дзяцей і дарослых. Невыпадкова дзевяцідзённую акцыю ў гонар свята Пакрова падтрымалі больш за 80 манастыроў, царкоўных прыходаў і выдавецтваў Беларусі, Расіі, Украіны, Грэцыі і Ізраіля. Краіны-ўдзельніцы з задавальненнем прадставілі на кірмашы духоўную літаратуру, іконы, аўдыёкнігі, відэадыскі і сувеніры. Само свята Пакрова мае цікавую гісторыю, звязаную з выратаваннем горада Канстанцінопаля ў 910 годзе, калі ён быў асаджаны сарацынамі. Вымушаныя ратавацца, жыхары сабраліся на малебен у Влахернскім храме, дзе захоўвалася рыза Божай Маці. І здарыўся сапраўдны цуд, калі людзі заўважылі над сабой Святую з пакровам у руках. Багародзіца малілася разам з усімі за выратаванне горада. І ў выніку сарацыны адступілі.

Вытокі народнай трактоўкі свята Пакрова — у старажытным славянскім земляробчым календары: дзень лічыўся пераломным у жыцці прыроды. Да яго звычайна завяршаліся ўсе работы на полі і ў садзе, уцяпляліся жыллё і гаспадарчыя пабудовы. Пасля Пакрова сяляне пачыналі новы цыкл работ — нарыхтоўку паліва, пераводзілі жывёлу на стойлавае ўтрыманне. Пачыналася таксама пара вяселляў і вячорак, якія працягваліся ажно да Вялікадня.

Прыемна, што і сёння людзі памятаюць пра свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы і з цікавасцю прымаюць актыўны ўдзел у кірмашы. Тая духоўная атмасфера, якой насычаны кірмаш, дазваляе адчуць сябе бліжэй да веры, абудзіцца і з новымі пачуццямі ў сэрцы рушыць далей.

З нагоды свята адкрыццё Пакроўскага кірмашу было ўпрыгожана прэзентацыяй Камернага духоўнага тэатра Цэнтра праваслаўнай культуры “Спадарожнік хрысціяніна” Выдавецтва Беларускага Экзархата пры ўдзеле Прэс-цэнтра Дома прэсы. Тэатральна-музычнае прадстаўленне прысвячалася факсімільнаму выданню “Слуцкага Евангелля”.

У канферэнц-зале прагучала і музычна-паэтычная кампазіцыя “Яблоки Воскресения” пры ўдзеле лаўрэата міжнародных конкурсаў вакальнага ансамбля “Благавест” Выдавецтва Беларускага Экзархата.

Асаблівую ўвагу гасцей прыцягнуў паказ фільма аб духоўна-асветніцкай праграме “Сям’я — адзінства — Айчына”, якая актыўна садзейнічае выхаванню маральнай, эстэтычнай і экалагічнай культуры, прапагандзе сям’і, здаровага ладу жыцця, дзяржаўнасці, патрыятызму і нацыянальнай самасвядомасці.

“Сапраўды, сёння мы працуем над асноўнай праблемай, якая пагражае Беларусі. А менавіта са скарачэннем нараджальнасці. А так хочацца, каб у хуткім часе нашым лозунгам стаў такі: “Мы – беларусы, нас – шмат!” – падзяліўся сваімі думкамі дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў.



Не забыліся арганізатары Пакроўскага кірмашу і пра любых матуль. 13 кастрычніка, напярэдадні Дня маці былі ўзнагароджаны медалём прападобнай Еўфрасінні Полацкай восем шматдзетных маці, а 14 кастрычніка прайшоў дабрачынны канцэрт “О самом главном — о маме”. Акрамя таго ўсе жадаючыя маглі наведаць выхаваўчую праграму “Планета Праваслаўя”, дзе супрацоўнікі Цэнтра аховы маці “Матуля” разважалі на тэму “Дзве паловы цэлага. Адкрытая гутарка пра каханне ў шлюбе”.

Да 17 кастрычніка ўключна на выстаўцы можна будзе набыць мёд, лекавыя расліны, пакаштаваць стравы беларускай кухні, наведаць цікавыя мерапрыемствы. Аматарам духоўных падарожжаў падрыхтавана прэзентацыя паломніцкіх маршрутаў па Беларусі, Расіі і Украіне, якая пройдзе заўтра, у суботу. У апошні дзень працы Пакроўскага кірмашу госці змогуць ацаніць кінастужку “Лямпа не згасае”, якая атрымала спецыяльны прыз журы на фестывалі хрысціянскага кіно “Магніфікат” альбо прыняць удзел у духоўнай праграме “Спяшайцеся рабіць дабро”, прысвечанай 95-годдзю з дня нараджэння старца Мітрафана.

І цяжка не прыняць той высокі духоўны пасыл, што ўрачыста нясе праз гады Пакроўскі тыдзень. Прасветленасць на тварах людзей веруючых і свецкіх, звонкі смех дзяцей, прыемны пах прыгатаваных з душой страў сталі яшчэ адной традыцыяй восеньскіх дзён.

Наведаць Пакроўскі кірмаш можна да 17 кастрычніка ад 10-й да 20-й гадзіны ў будынку Палаца мастацтва.

Дзіяна АРЫПАВА

На здымках: салодкі восеньскі пачастунак; у духоўнае падарожжа з кнігай; рабіць дабро — хрысціянская мараль.

Фота Кастуся Дробава

## У наступным нумары ЛіМ

Нельга не адзначыць адну даволі адметную дэталь: сёлета на старонкахайчынныхлітаратурна-мастацкіх выданняў з’явіўся шэраг твораў, якія па праве будуць прэтэндаваць на месца побач з літаратурнымі дасягненнямі гадоў папярэдніх. Мае гэта адносіны і да часопіса “Полымя”, дзе друкуюцца паўнавартасныя празаічныя і паэтычныя творы. Пра тое, з якімі творчымі набыткамі часопіс выходзіць на фініш бягучага года, раскажа яго галоўны рэдактар Мікола Мятліцкі.

З глыбінкі

# Эскізы з жыцця, намаляваныя іголкай

Таленавітыя многія людзі, але не ўсе рэалізуюць тыя магчымасці, якімі надзяляе жыццё. А гэтая жанчына стварае свае шэдэўры па ўласных эскізах лёсу. Імя яе — Таццяна Кіркіна. Нарадзілася ў Югаславіі, а потым жыццёвы шлях прывёў яе ў Беларусь.

Таццяна Фёдараўна была ініцыятарам стварэння першага фестывалю фальклору і абрадаў “Спадчына зямлі маларыцкай”. Дзесяць гадоў працавала ў Цэнтры народнай творчасці ў Маларыце, а зараз яна — у вольным творчым “падарожжы”. Неад’емным складнікам поспеху Таццяны Фёдараўны з’яўляецца добры настрой і мудрасць, без якіх, відаць, не было б той прыгажосці, якая нараджаецца.

Вышыўка, створаная яе рукамі, нібыта намаляваная, толькі іголкай. Сакрэт “малявання іглой” палягае ў тым, што тут выкарыстоўваюць розныя віды швоў: страчны, ланцужковы сцяжок, аднабаковая гладзь і насцілачная. Кожны элемент на карціне вышываецца тым ці іншым швом, да прыкладу, калі гэта дах дома ці агароджа, то тут спатрэбяцца тамбурныя швы, а рэтушныя лініі выконваюцца звычайнай строчкай. Але вока гледача бачыць толькі незвычайны вынік, які часам нагадвае жывапіснае ці графічнае палатно, і не адразу здагадаешся, што гэта вышыта рукамі.

Таццяна ўспамінае, што калі яе першы раз пасадзілі за вышыўку, ёй такі занятак не спадабаўся. Хаця ў яе сям’і многія пакаленні жанчын займаліся гэтым нягледзячы на тое, што былі з графскага роду. Але мінуў час, і праца гэтая прыйшлася па душы. Цяпер яна не толькі малюе іголкай, але і вышывае крыжыкам, процягам. Працы жанчыны адзначаны дыпломамі міжнародных конкурсаў і фестываляў, такіх, напрыклад, як “Ягелонская ярмарка”, што праходзіць у Любліне. Карціны, вышытыя яе рукамі, вандруюць па свеце. Некаторыя засталіся ў Польшчы ды Галандыі, частка знаходзіцца ў сяброў і знаёмых.

Ёсць ў Таццяны Фёдараўны мара — стварыць майстэрні рамёстваў, бо так шмат на Маларыччыне таленавітых людзей. Шыюць тут умеюць, здольныя вязаць і ткаць. І калі ў Белавежскай пушчы ёсць Цэнтр рамёстваў, то няблага было б паэксперыментаваць і на роднай зямлі, дзе маюцца такія магчымасці для развіцця агратурызму, толькі не створана ні аднай сувенірнай крамы.

Алена ДРАПКО
Маларыцкі раён

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2974
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 14.10.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4972
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4666